ISSN 0234—1387

# крыніца

11 1988



## ПАРТРЭТ НА ЎСЕ ЧАСЫ

КАЦЯРЫНА ПАЛУДА: «НЕ ЗЯМЛЯ, А ПОЛЕ ЖЫЦЦЯ...»

КАЛІ ГРЫМНУЎ ВЫБУХ

ЛЁС УСЕВАЛАДА, КНЯЗЯ ГЕРЦЫКЕ

НАТАЛЛЯ ЗВЕРАВА: «НЕ ПЕРАШКАДЖАЙЦЕ ПРАЦАВАЦЬ!»



# КВЕТКІ ЛЯ СЦЯНЫ

Як вучыўся Коля Жукаў! Паводзіны, скажам... сярэднія. Адзнакі — лепш не пытацца. Пайшоў пасля восьмага класа ў будаўнічае вучылішча — усе настаўнікі ўздыхнулі з палёгкаю.

Прайшло пяць гадоў...

«Мы рады паведаміць вам, што выхаванец атрада разведчыкаў ваеннай славы Жукаў М. І. з першых дзён навучання ў нас зарэкамендаваў сябе толькі са станоўчага боку...

Начальнік Ленінградскага ваенна-палітычнага вучылішча ППА...» і далей — подпіс вядомага генерала.

А вось урыўкі і яшчэ з некаторых лістоў, дасланых кіраўніку атрада М. Р. Гаравому:

«...Не ведаю, кім бы я стаў, каб не Вы і наш атрад. Перадайце мае віншаванні з 8-м Сакавіка нашым дзяўчынкам. Жадаю паспяховага пошуку. Ваш вучань і сябар, былы разведчык ваеннай славы, матрос Балтыйскага флоту Аляксандр Якіменка».

«...Гэта цудоўна, што Вы сустрэліся на жыццёвым шляху маіх дачок. Дзякуй Вам за іх, за паходы, вынослівасць, цікавасць і мэту; за тое, што яны ўбачылі і зразумелі Сапраўднае. Поспехаў Вам і Вашаму атраду.

Мама Вашых вучаніц сясцёр Насонавых».

Заканчэнне на стар. 35.

ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

крыніца

№ 11
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ:
220807
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11

ЗВАНІЦЕ: 36-61-42, 36-61-13,
36-60-71

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 16.09.88.
Падпісана да друку 24.10.88.
АТ 06462.
Фармат 60×90 .
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 9,3.
Зак. 1202.
Тыраж 40 410 экз.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

Фабіян Шантыр. Член першага ўрада Савецкай Беларусі. Ён займаў пасаду камісара па нацыянальных справах, з канца 1919 г. уваходзіў у Беларускую рэдакцыйную калегію ЦК КП(б) Літвы і Беларусі, удзельнічаў у выданні газеты «Савецкая Беларусь».

Думаем, што напярэдадні 70-годдзя БССР і Кампартыі Беларусі трэба ўспомніць гэтае імя.

Ён пражыў толькі 33 гады і загінуў у 1920 г. у Чырвонай Арміі пры нявысветленых абставінах... А яшчэ яго брашура «Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусаў і самаадзначэння народу», выдадзеная ў 1918 г. у Слуцку ў час нямецкай акупацыі, была залічана да «ідэалагічна шкодных». Усё гэта і прычынілася да таго, што з 30-х гадоў асоба Ф. Шантыра замоўчвалася даследчыкамі. Але вось у 1975 г. артыкул пра Шантыра быў змешчаны ў 11-м томе БелСЭ, больш падрабязныя звесткі пададзены ў 5-м томе «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі».

Ён нарадзіўся ў Слуцку, юнаком браў удзел у рэвалюцыі 1905—1907 гг., за што быў кінуты ў турму. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі стаў адным з лідэраў левага крыла Беларускай сацыялістычнай грамады, старшынёй яе Бабруйскага камітэта.

Станаўленне пісьменніцкага таленту Фабіяна Шантыра адбывалася ў перыяд 1909—1919 гг., калі ён друкаваўся ў «Нашай Ніве», «Вольнай Беларусі», «Дзянніцы», ішло ў час жорсткіх класавых баёў, у якіх ён непасрэдна і актыўна ўдзельнічаў, у неспакойныя і суровыя гады.

Першы варыянт верша ў прозе «У час барацьбы» аўтар напісаў яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Перамога рэвалюцыйнага народа, змены ў народным жыцці прымусілі Шантыра перапрацаваць першапачатковы накід — з'явіліся новыя акцэнты, вобразы, новыя рытмы і інтанацыі. Вобразамі і інтанацыйным гучаннем твор — гэта тыя пазунгавыя заклікі, з якімі Шантыру неаднойчы даводзілася выступаць як агітатару перад вайсковай і цывільнай аўдыторыяй на мітынгах у Бабруйску ў 1917 г.

Гэта рамантычныя сімволіка-асацыятыўныя заклікі да барацьбы за новы быт, новую долю, заклікі ўзнёслыя, эмацыянальна-экспрэсіўныя, якія вымоўна даносяць усхваляваны голас трыбуна, паэта-грамадзяніна. Вельмі яскрава адчуваецца ў творы пафас бурнага рэвалюцыйнага часу. Захапляе гэтая парывістая мітынгавасць, напружаная ўсхваляванасць, узбуджанасць голасу аўтара, яго палкая вера ў лепшую будучыню сваёй нацыі, свайго народа, вера, якую прынёс новы час, новыя падзеі, вера ў рэвалюцыйныя сілы народа, які можа і павінен змяніць свой лёс, бо раскаванай энергіі людзей пад сілу ўсё.

Твор Ф. Шантыра «У час барацьбы» быў надрукаваны ў «Дзянніцы» — першай савецкай газеце на беларускай мове — 4 студзеня 1919 г., калі ішоў толькі чацвёрты дзень існавання Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Янка САЛАМЕВІЧ,
Віталь СКАЛАБАН

*Фабіян ШАНТЫР*

# У ЧАС БАРАЦЬБЫ

Адзень, дух майго народу, чыстую ясную апратку праўды і хараства.
Прыбяры сябе ў ясныя праменні творчага быту.
Узлажы на вякамі пакорную голаву сваю вянок вольных думак-песень і вітай вялікі час барацьбы.
Час уваскрашэння чалавечага «я»!
Час панства пакрыўджаных і бяздольных!
Час трыумфу мазольных рук!
Час — шлях к зорам хараства!
Шлях к прасветламу сонейку справядлівасці!
Так доўга скуты ў няволі, у кайданах, вастрогах, снягах Сібіры, падвалах, халодных мансардах, у холадзе і голадзе мільёнамі гарачых сэрцаў з болем і маркотнасцю. Час новага чалавечага быту...
Час апошняй барацьбы за гэты быт!
Вітай яго цяплом крыві перапоўненых радасцю сэрцаў нашых, што ў парыўчым крыку «Нотанна!»[1] топяць сковы тугі і гора жыцця.
Гэты вялікі час!
Вітай яго чарадой зорных падзей, што клічуць цябе, зганены дух чалавечы, к адвечнаму пасаду твайму — гармоніі быту.
Час усясветнага скону цемры.
Пагарды!
Нэндзы!
Голаду!
Крывых хат!
Жывёльнага быту!
Час усясветнага свята дзяцей працы.
Святой працы!
Крэда быту народаў!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З ваяўнічымі зыкамі, што запоўняць абшар свету.
З роямі манаў-дум, што выкавалі мукі няволі.
Дух майго народу!
Шыбай арліным палётам к пурпуроваму праменню зарава барацьбы.
Страшнай ракавой барацьбы на смерць і жыццё!
Ты, сірата, знайшоў сягоння роднага і сагрэешся на яго ўтульных пылаючых полымем грудзях...
Святы час!
Магутны час!
Будзь ты нам!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прабудзецеся крывіцкія лугі, лясы, балоты, палі!
Вузенькія загончыкі, што корміце свет!
Шэрыя родныя вёскі!
Вёскі, як раны пакуты, кінутыя бязлітаснай рукой кону сярод пяскоў, імшараў і лоз!..
Забытыя людзьмі і доляй родныя вёскі!..
Бацька народ мой гаротны!
Народ ярма і векавога цярпення!
Народ, насіцель усясветнай крыўды!
Безупыннага гора!
Дзікіх гарцоў здзеку!
Не знаючы свайго логвішча!
Устань і вітай вялікі час!
Час зніштажэння няволі!
Нядолі!
Кайданоў!
Што акулі тваю думку!
Розум!
Душу!
Час новага быту!
Час вялікай барацьбы з крыважэрчым груганнём...
Што вякамі смокчуць тваю кроў!
Твой пот!..
Твае слёзы!..
Груганнём — што завеш «панамі»...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прыдзіце, народныя песняры і трыбуны.
Сыны вялікага і ўбогага народу.
Што так многа носіць у сабе ўсевалодных песень і слоў.
Распаліце вашы сэрцы полымем барацьбы.
Развярніце вашы душы сцягам пабеднага трыумфу.
Дабудзьце з прадвечных тайнікоў свайго «я» магутныя:
Словы — прызыў!
Песню — пажару душ!
Куйце імі новую долю!
Шлях к сонцу!
Радасць барацьбы!
Складайце новыя і новыя гімны!
Пейце!
Клічце!
Хай увысь і прастор свету нясуцца вашы песні-зовы.
Вашы — кліч-звон сэрцаў.
Сазывайце братні сход.
Байцоў на бой.
Будзеце яшчэ не праснуўшыхся!
Каваць долю!
Каваць волю!
Шчасце!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Складайцеся зыкі доўга хаваныя ў сэрцах народаў у адзін вялікі васкрэсны харал!..
Ціха смутак!
Змоўкні жаль!
Радасць сягоння вялікая!
Радасць глыбі быту ў прасторы сонцаяснай волі.
Радасць адзінокіх забытых душ, што блудзілі ў цемры бездарожжа...
У цемры чорнай невядомасці.
Будзь нам новы шлях быту!
Шлях барацьбы!
Вядучы да заснутай летуценнямі касца праўдзе.
Да крыніцы з жыватворнай вадою...
Зыдзіце ланцугі!
Сплывеце мглівыя сырыя туманы.
Што труцілі народ ядам пакоры!..
Кліч бунту жыві ў нашых сэрцах!
Святы кліч гордасці чалавечай!
Што імчыць чалавечае «я» ў высь у палёце арла!..
Кліч барацьбы будзь нам:
Хлебам штодзённым!
Сілай непакананай надзеі!
Час вялікай барацьбы, благаслаўляем цябе!
Благаслаўляем!!!

1918 г. Мінск.

[1] Тут, мусіць, памылка друку. У кантэкст упісваецца слова «Асанна».





## ЧАМУ НАВУЧАЦЬ?

Яшчэ ў калоніі я прачытаў лісты хлопцаў, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі. Ужо тады мяне і здзівіла і ўзрадавала тое, што падобныя матэрыялы знайшлі сваё месца на старонках газет. І вось у чацвёртым нумары вашага часопіса я прачытаў ліст Віктара М. «На раздарожжы». Можа, некаму з чытачоў і незразумелы боль гэтых хлопцаў, бо зразумець, што адчувае ягня, трапіўшы ў зубы да ваўка, можна толькі апынуўшыся ў шкуры гэтага ягняці.

Мне ўжо за трыццаць. Больш за трэць свайго жыцця я правёў у месцах пазбаўлення волі. За гэты час шмат разоў сядзеў у штрафным ізалятары і памяшканні камернага тыпу. Не хачу сказаць, што мяне заўсёды каралі беспадстаўна, але здаралася і такое — і досыць часта. Для мяне гэта ўжо ў мінулым. І цяпер, калі мінула калонія з яе ненапісанымі, часам вельмі жорсткімі законамі, я ўсё часцей задаю сабе пытанне, спрабую зразумець, што дапамагло мне асэнсаваць і зразумець усю недарэчнасць таго ладу жыцця, які я вёў? Бадай, галоўная прычына гэтага — узрост. А вось выхавацелі, нашы начальнікі атрадаў дый іншыя прадстаўнікі адміністрацыі, не перабольшваючы хачу сказаць, што сапраўдных выхавацеляў, педагогаў, якія любяць сваю справу і цалкам сябе ёй аддаюць, я сустракаў адзінкі. А пра кантралёрскі персанал дык і ўвогуле гаварыць не прыходзіцца. Гэта зазвычай людзі, якія не маюць ні юрыдычнай, ні педагагічнай адукацыі. Праўда, на тэрыторыі ВПУ у іх свае пэўныя функцыі, але выпадкі абразы і нават збівання асуджаных кантралёрскім персаналам — нярэдкія. Патрабуючы павагі да сябе, яны вельмі лёгка могуць абразіць зняволенага, і нават у гутарцы большасць з іх стараюцца ўсё роўна як падкрэсліць тое, што ты асуджаны, што правы твае абмежаваныя. І нярэдкія выпадкі, калі той ці іншы зняволены, не вытрымаўшы падобнага стаўлення да сябе, уступае ў спрэчкі з прадстаўнікамі адміністрацыі. За што, несумненна, будзе пакараны. А я магу ўпэўнена сказаць, што на ветлівае, тактоўнае стаўленне ні адзін, нават самы заўзяты крымінальнік не адкажа грубасцю. Перад ВПУ стаіць задача перавыхаваць чалавека, паставіць яго на правільны шлях, дапамагчы вярнуцца да сумленнага жыцця. А чаму могуць навучыць там, дзе ўсё купляецца і прадаецца, дзе ўсюды пануе несправядлівасць, грубасць і зло?

Я дагэтуль не магу зразумець, якую ролю ў сістэме перавыхавання, распрацаванай для ВПУ, адыгрывае абмежаванне ў перапісцы, што ў месцах пазбаўлення волі, за вылікам ВПУ агульнага рэжыму і ВПК для непаўналетніх? Адбяруць у асуджанага ліст, падрыхтаваны да нелегальнай адпраўкі, а ў ім і няма нічога: «Дзень добры, мама! Я жывы-здаровы, у мяне ўсё добра». Відавочны факт парушэння правілаў перапіскі, і асуджаны панясе пакаранне. Але ж пісаўшы гэты ліст, ён не меў ніякай благой мэты, а рабіў гэта, кіруючыся сваімі духоўнымі пачуццямі, любоўю да блізкіх, родных. Нельга лічыць, што, здзейсніўшы злачынства, якое нанесла шкоду грамадству і раніла родных, чалавек губляе і ўсе вышэйшыя пачуцці, такія, як любоў. Вядома, што, апроч штрафнога ізалятара і памяшкання камернага тыпу для асуджаных, якія адбываюць пакаранне ў выпраўленча-працоўных установах, распрацаваны і шэраг іншых мер дысцыплінарнага ўздзеяння, напрыклад: пазбаўленне чарговага доўгатэрміновага ці кароткатэрміновага спаткання, пазбаўленне права закупкі прадуктаў харчавання ў магазіне ўстановы і г. д. Пазбаўляючы чарговага спаткання, прадстаўнікі адміністрацыі лічаць, што ўжываюць параўнальна мяккую меру пакарання. А ці задумваўся хто-небудзь, што ў дадзеным выпадку разам з асуджаным пакутуюць і іншыя, ні ў чым не вінаватыя людзі — родныя асуджанага? Старая маці пазбаўлена права ўбачыць свайго, няхай і непуцёвага, сына, дзеці пазбаўлены сустрэчы з бацькам, жонка — з мужам. А многія ж, многія з нашых родных — сумленныя, паважаныя ў грамадстве людзі, якія годна выконваюць свой грамадзянскі абавязак, працуюць на заводах і фабрыках, на калгасных палях. За што ж пакутуюць яны? І нярэдкія выпадкі, калі жонка, не атрымліваючы магчымасці сустрэцца з мужам, проста падае на развод. Дык ці ж не лепей неяк стражэй пакараць самога асуджанага, але зрабіць гэта такім чынам, каб ад гэтага не пакутавалі блізкія асуджанага, ягоныя бацькі, жонка, дзеці? І тым самым унесці вялікі ўклад у захаванне сям'і. Бо ж ад таго, вернецца асуджаны пасля вызвалення ў сям'ю ці не, залежыць вельмі многае ў ягоным далейшым лёсе. Апошнія гады ў калонію ўсё часцей сталі «прыходзіць» маладыя хлопцы па 18—20 гадоў. Многія з іх пасля выхаваўчай калоніі прыходзяць адразу на строгі рэжым. Туды, дзе знаходзяцца шмат разоў асуджаныя, рэцыдывісты. Такія хлопцы зазвычай вельмі хутка трапляюць пад уплыў асуджаных, адмоўна настроеных супраць рэжыму ўтрымання. І многія з іх пры гэтым нават і не паспяваюць заўважыць, як хутка зацягвае іх у гэтую багну каланійскага жыцця. Ці правільна тое, што разам з асуджанымі ўжо па 5—6 разоў у калонію строгага рэжыму трапляюць і такія зялёныя маладзёны па 18—20 гадоў, якія маюць у мінулым судзімасць умоўную або адбывалі раней пакаранне ў ВПК? Цяпер у нашай краіне так шмат гавораць пра перабудову, яна ўпэўнена ідзе ва ўсіх сферах. А вось сістэмы ВПУ яна зусім не закранула. Я магу ўпэўнена сказаць, што каланійскае жыццё нікога яшчэ не навучыла дабраму і ВПУ не толькі не апраўдваюць свайго існавання, але і назвы. І мне пасапраўднаму балюча за тых хлопцаў, асабліва юнакоў, якія засталіся там, дзе пануюць беззаконне і несправядлівасць, дзе прадаюцца і купляюцца не толькі рэчы, прадукты і наркотыкі, а нават сумленне і гонар. І спрыяе гэтаму сама адміністрацыя. Чаму навучаць іх там?

Павел МЕЛЯХ

г. Глуск



# ДВА ЛІСТЫ НА АДНУ ТЭМУ

**Ганна ХАРУЖАЯ**

## 1. ЗАНЯТКІ ДЛЯ ЗАНЯТЫХ

— Я не магу...— чуецца адчайны голас.

— Пішы, пішы,— кажа катэгарычна настаўніца, нібыта ставіць на гэтым кропку, і ўсе пярэчанні цяпер бессэнсоўныя.

— Не пішы!.. Я не магу!.. Я не буду!..— упарта заяўляе той самы голас.

— Будзеш, пішы. Усе будуць. Якія яшчэ могуць быць прычыны?

Як вы думаеце, што адбываецца? Не, не ўгадалі. Нічога сур'ёзнага, хоць, зрэшты... хто ведае? У класе аб'явілі, што ў нядзелю конкурс палітэрудытаў. «Я не магу!» — крычалі тыя, каго заносілі ў спісы. Як у Пушкіна: «Иной от лени, тот от дел»— ніхто не хацеў удзельнічаць у конкурсе. Бо што значыць — удзельнічаць? Гэта ж рыхтуй адказы на пытанні, чытай газеты, кнігі. Каму хочацца? Але... камсоргу сказалі: «Палітэрудыты!» Значыцца, павінны быць палітэрудыты.

Дзесяць чалавек з класа — нібыта і няшмат. Але каго запісаць? Якія могуць быць пытанні: вядома, тых, хто добра вучыцца. А хто добра вучыцца? Напэўна, тыя, хто часу на ўрокі багата адводзіць. Раз часу шмат — значыцца, нічым не заняты. Вось іх і пішы. А тыя, што адстаюць? У-у, ні хвілінкі вольнага часу. Якія ўжо тут палітэрудыты... Ім урокі — і то няма калі рабіць. Дык чым тады яны занятыя і ці можна гэта лічыць занятасцю? Не буду пісаць, як праходзяць у іх дні. Вернемся лепей да тых, хто вучыцца добра. Тых, хто нясе, дарэчы, на сваіх плячах усю грамадскую работу ў класе; на іх галовы валяцца ўсе алімпіяды, конкурсы, спаборніцтвы — удзельнічаць ва ўсім гэтым могуць жа толькі яны. Апрача таго, у многіх яшчэ і падрыхтоўчыя курсы, гурткі, секцыі, рэпетыцыі, трэніроўкі... Вось так і жывецца тым, хто паспявае. А ўсё таму, што ім «рабіць няма чаго».

Дык навошта тады ўвогуле, напрыклад, гэты самы конкурс палітэрудытаў? Каб заняць і так занятых? Не. Думаю, усё ж каб не сумавалі астатнія і не сядзелі склаўшы рукі.

Вось і атрымліваецца: месцы, граматы, пераможцы... Меркантыльная зацікаўленасць ёсць. А тыя, што не ведаюць, няхай сабе не ведаюць. Затое ў нашага класа першае месца будзе.

Вось так і круцімся. Адны бегаюць так, што ажно заматаліся,— і сутак ім мала. А другім 24 гадзіны — бездань цэлая. Вось і чуем навокал: «Гэх, моладзь, нічым не займаюцца, стаяць па пад'ездах, ліхтары збіваюць, на сценах пішуць...»

А хто ж у гэтым вінаваты? Самі хлопцы і дзяўчаты? Дапусцім. А можа, першыя месцы?

**Алена КЕНЦЬ**

## 2. А Ў МЯНЕ ТАКІ ХАРАКТАР...

Напэўна, я адна з першых чытачак вашага часопіса. І адна з тых, хто нічога не баіцца, хоць часам даводзіцца вельмі цяжка. Крыўдна, што сярод іншых менавіта ты нічога не баішся. Бо як атрымліваецца: дастаецца табе больш за ўсіх, а астатнія застаюцца «добрымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі».

Я вучуся ў 10-м класе, сакратар камсамольскай арганізацыі школы, апрача таго, займаюся ўсёй арганізатарскай працаю, малюю, афармляю і г. д. І ўявіце сабе — такая адна на ўсю школу. Вядома, калі ўлічыць, што школа наша невялікая, але амаль першая ў раёне па вучобе і па спартыўных дасягненнях, то можна зразумець, які вялікі я там чалавек. У школе гэта ведаюць усе. Але ў той самы час я не магу пахваліцца сваёй вучобаю. У мяне рэдка бываюць «пяцёркі», часцей «чацвёркі» і «тройкі». Я адвыкла вучыцца. Хоць ведаю, што мне патрэбны добры атэстат, бо хачу паступіць у педінстытут. Я прывыкла... засвойваць частку тэмы на ўроку, часам чытаць зададзены матэрыял перад урокам, дома толькі паспяваеш перакласці падручнікі і сшыткі ў сумцы. Я ўцягнулася ў грамадскую работу. Але адначасова заўважаю, што мяне не паважаюць за гэта настаўнікі. Іншы раз нават на ўроках папракаюць: ты, маўляў, у людзі выбіваешся, а мы табе характарыстыку «ў плямах» напішам — толькі прыбіральшчыцаю пойдзеш з ёю працаваць.

А быў і такі выпадак: пасля 9-га класа за поспехі ў грамадскім жыцці школы дырэктар і арганізатар узнагародзілі мяне пуцёўкаю на экскурсію ў Кіеў на 6 дзён. Дык класная наша такі крык на мяне ўсчала, што я ўжо і не ведала: ехаць мне ці застацца?..

І такіх прыкладаў можна прывесці вельмі шмат. А ўсё таму, што астатнія стараюцца адседзецца ўбаку — спакайней будзе. А ў мяне характар не такі...

**АД РЭДАКЦЫІ:** А ў вас? Што думаеце з нагоды гэтых лістоў вы, шаноўныя чытачы? Запрашаем да размовы!



*Леанід Галубовіч як паэт рос паволі. Пісаў спачатку на рускай мове, але потым нешта памянялася і ў ім, і ў яго паэзіі. Леанідаў голас набыў арыгінальнасць, а яго першая кніга вершаў «Таемнасць агню» (1984) стала падзеяй у літаратурным жыцці. Цяпер Леанід рыхтуе да друку кнігу вершаў «Споведзь бяссоннай душы», якая павінна выйсці ў наступным годзе.*



*Леанід ГАЛУБОВІЧ*

## ДУМА ПРА ЧАС

А. А.

Сябры мае, слабее роднасць душ...
З надзённага — бы з клоўна — апранаху
Сарві,
і ўбачыш — воддаль і наўкруж —
Мінулага на сённяшнім адзнаку.

Я продкаў не віню сваіх, аднак
Мой рабскі дух ад іх бярэ пачатак...
І столькі ў нас мінулага адзнак,
Як гербавых на сённяшнім пячатак.

О розум мой, не прыгнятай мой дух!
Дай строгасць думкам, а пачуццям — меру.
Здаўна працуем так: адзін — за двух...
Пасля адзін у двух губляе веру.

Капаем там, дзе заўтра засыпаць.
Спяшаемся, разбіўшы лоб у спешцы,
А там, пакуль мы будзем лоб часаць,
І хлеб збяжыць, забыты намі ў дзежцы...

Хоць мэта ў нас, здавалася б,— адна,
Ды ў кожнага свой шлях да гэтай мэты.
За ўсе грахі мінулага віна
Адна і ў часе будучым і ў гэтым.

Слабее роднасць душ, сябры мае!
Бязроднасць па Айчыне калабродзіць...
Адным уранку сонца устае.
Другім — у той жа час — яно заходзіць.

І ўсё ж святло яго да нас ідзе,
І ўсім яго пароўну выпадае,
І ў радасцях надзённых, і ў бядзе...
О Шчодрае!
І — платы не пытае.

Вучоны лямантуе: да-га-рае!
Мудрэц збірае промні ў барадзе...
Музыка маршы ўзнёслыя іграе...
А сейбіт зерне сее...
Час ідзе...

* * *

Сабой не ўсцешу белы свет,
Ды белым светам сам усцешаны,
Ступаю ў продкаў даўні след,
З крывёй і потам крута змешаны.

...Наканавана йсці далей!
Вяршыць свой лёс, сваё ствараючы,
І бачыць блізкае глыбей,
Слядам былога давяраючы.

Магчыма, выпадзе не так
Згарэць і спраўдзіць жыццядайнае...
І ўсё ж выходжу на бальшак,
Як да іконы спавядальнае.

Скрозь вусце бачыцца выток...
І ранак цягнецца да вечара...
Тварыць сябе за крокам — крок,
Ад будніх дзён — да часу вечнага!

## ЛІТАРАТУРНЫ ІНСТЫТУТ

Літаратурны інстытут...
Якія цесныя каморкі!
Шчэ дух не выветрыўся тут
Ад затхласці і ад карболкі.

Якія цёмныя вуглы,
Якія вузкія праходы!
Як тут праціснуцца змаглі
Ратаі слова і свабоды?!

Аднак гудзе парнаскі рой
І будзіць талент неспадзеўна.
І новы ў таланта пакрой
Пачуццяў, думак і адзення...

І — новы дворнік...
Ах, было
І дундукоў тут і далдонаў!
Тут столькі дворнікаў мяло,
А чыста мёў адзін Платонаў.

Рубцовых новых не відно...
Што ні паэт — то тлум і поза.
Не кожны з тых, хто п'е віно,
Жыццё апісвае цвяроза.

...Літаратурны інстытут.
Тут геній так і не прыжыўся...
Даў бог я не вучыўся тут
Тады,
калі жыццю вучыўся.

* * *

Г. В. І.

Спакуслівa, няўмела ўсё ж, а — любім...
І мроі кружаць роем залатым,
Што мы з табой кахаем,
але губы
Губамі сцяты ў нас да нематы.

О, як віруе кроў па сэрцакраю!
Вось-вось, і — хваляй хмельнай захлыне —
Скрозь грудзі, горлам, вуснамі:
— Кахаю...
Няўжо-то, божа праведны, мяне?!

...Святое намі дзеецца няўмысна,
А воляю нявопытнай душы.
Люблю цябе. Кахаю. Бескарысна
Пакутую па рук тваіх крыжы...

# ВЫБУХ

Наталля ГРОМАВА, спецыяльны карэспандэнт

**Выпадак, размова пра які пойдзе ніжэй, я ўжо расказвала ў газеце «Комсомольская правда» за 18.08.88 г. Сумныя вынікі безадказнасці і безгаспадарчасці, якія пакуль яшчэ маюць месца ў ваенным асяроддзі, у нашай рэспубліцы сёння, на жаль, не рэдкасць. Таму, нягледзячы на гнеўныя водгукі некаторых вайскоўцаў на публікацыю ў «Комсомольской правде», мы лічым неабходным вярнуцца да гэтай тэмы і прапануем яе чытачу ў больш разгорнутым выглядзе.**

— І ўвогуле я лічу: нічога, што б заслугоўвала ўвагі друку, тут няма. Ну, забіла юнака... Непрыемна, вядома. Толькі я не бачу тут крыміналу: мы, ваенныя, глядзім на гэтыя рэчы прасцей.

Начальнік палітаддзела палкоўнік Міхаіл Аляксандравіч Скварцоў гаварыў цвёрда, упэўнена, безапеляцыйна: па-ваеннаму. Гаварыў «неафіцыйна», таму што дыяпазон маіх пытанняў выходзіў за рамкі агульнадаступнай грамадзянскай тэматыкі: справа, з-за якой я прыехала ў камандзіроўку, разглядалася, як высветлілася, ваеннай пракуратурай. Але пра гэта я даведалася потым. А спачатку...

Акуратныя драўляныя домікі, якія патанаюць у зеляніне, пыльная растаптаная дарога, што вядзе з пасёлка ў лес. Каля дома № 13 спыняюся: тут жыве аўтар допісу...

**«Пішуць вам сябры, родныя і блізкія Мароза Віталя Віктаравіча, вучня 10 класа, які трагічна загінуў 18 красавіка 1988 г. А было ўсё так: Віталь, Аўрамаў Слава і Сяргей Малашанка пайшлі ў лес. У лесе знаходзіцца палігон вайсковай часці, які нічым не агароджаны і ніякіх знакаў нідзе не відаць. Яны нарвалі кветак і ішлі назад. У гэты момант заўважылі малодшых хлопцаў, якія гулялі незразумела з чым. Калі юнакі падышлі да іх, тыя кінуліся прэч, крыкнуўшы: «Уцякайце». Але было ўжо позна, прагрымеў выбух».**

**Пракурору Магілёўскай вобласці, старшаму саветніку юстыцыі Нікалаеву Л. Ф. СПЕЦДАНЯСЕННЕ.**

**18 красавіка 1988 г. у мясцовае РАУС з траўмапункту бальніцы паступіла паведамленне, што туды з цялеснымі пашкоджаннямі дастаўлены... Аўрамаў Вячаслаў, вучань 9 класа (шматлікія ссадзіны груднй клеткі справа), Малашанка Сяргей, вучань 9 класа (шматлікія ссадзіны абедзвюх галёнак і груднй клеткі), Мароз Віталь, вучань 10 класа (раненне левага сцягна, пашкоджанне артэрыі). Аўрамава і Малашанку пасля аказання ім медыцынскай дапамогі адпусцілі дадому, а Мароз В. В. памёр ад вялікай страты крыві.**

— Гэта ў наш час ад раны ў сцягно памерці! — сумна гаварыў мне Віталеў бацька Віктар Мікалаевіч Мароз. Змарнелы твар, спрацаваныя рукі, у вачах застылі боль і немы дакор.— Зусім жа побач, у каравульным памяшканні, знаходзіліся і салдаты, і афіцэр — і ніякай дапамогі. А што маглі зрабіць школьнікі... Адзін майку сваю парваў — хацеў перавязаць нагу. Потым вынес, праўда, салдат аптэчку, затое сам нават пальцам не паварушыў... Няўжо і савецкі афіцэр не мог аказаць хлопцу першую дапамогу?! Людзі, ратуючы адно аднаго, тонуць, гінуць у пажарах, а гэты сам не пайшоў і салдатаў не даў...

— Ды што цяпер гаварыць...— цяжка ўздыхнуў.— Няма ў мяне больш сына. І вінаватых няма. Няма чаго, маўляў, гуляць там, дзе не дазволена. А дзе пра гэта сказана, што «не дазволена»? Лес, ён і ёсць лес: ідзі куды хочаш... І чаго толькі тут ні сустрэнеш. Боепрыпасы нашага часу валяюцца. Порах хлопцы носяць торбамі. А быў выпадак — знайшлі ў побытавым смецці цалкам запламбаваную скрынку, а там — снарады... Не верыце, што такое робіцца? Можаце самі ўпэўніцца.

І вось разам з мясцовымі хлопцамі («Мы вам з заплюшчанымі вачыма можам паказаць, дзе што валяецца...») ідзём да месца трагедыі. Чым больш мы набліжаемся да яго, тым часцей сустракаюцца самадзейныя звалкі, кучы «ваенізаванага» смецця; чарнее ў траве выкарыстаны (?) хвастаты снарад. Валяюцца салдацкія пляшкі, аўтамабільныя пакрышкі, металічныя ўпакоўкі ад паліва...

— Гэта яшчэ што...— узрушана, наперабой расказваюць хлопцы,— нядаўна тут увогуле груду новенькіх гумавых вадалазных касцюмаў выгрузілі. Бяры — не хачу... Мы, вядома, панабіралі надзіманых балончыкаў, процівагазаў...

Чуецца шчоўканне стрэлаў.

— Хадзем адсюль,— збянтэжана гаворыць маці загінуўшага Віталя, зусім яшчэ маладая на выгляд жанчына.

— А вось тут,— паказвае Віктар Мікалаевіч у бок абгарэлай бярозы,— нядаўна цэлую машыну салдацкіх ботаў выкінулі — ні разу нават ненадзяваных. Дык мужыкі нашы ўсёй вуліцаю хадзілі: прымяралі...

Блізіўся поўдзень. Сонца стаяла ў зеніце. Абвугленыя ствалы дрэў, ля якіх былі відны кастрышчы, нібы замерлі. На фоне ярка-зялёнага ляснога апярэння змрочна, трывожна маўчала пачарнелае лісце мёртвай бярозы. Усім стала ніякавата. І толькі хлопчыкі азартна азіраліся, успамінаючы, што б яшчэ паказаць.

— А помніш, Андруха, як мы тут?..— чатырнаццацігадовы Сярожка з хітрынкаю ў вачах азіраецца на нас.

— Што вы тут? — пытаемся.

— Ды нічога: бяром штучку, галоўку адкручваем — кідзь у вогнішча, а яна — ух-х! Кінуў — і наверх уцякаць!

— Ну што з імі зробіш, на ланцуг жа не пасадзіш...— журботна ўздыхае Віктар Мікалаевіч.

Мы моўчкі кіруем да невялікага цагельнага доміка воддаль — таго самага, дзе не змаглі? не захацелі? не мелі права? аказаць дапамогу параненаму юнаку.

— Не мелі права,— канстатуе начальнік каравула лейтэнант Аляксандр Качаргін.— Інструкцыя забараняе нам пакідаць пост. Усё, што мог зрабіць мой папярэднік (я заступаў назаўтра пасля здарэння),— гэта толькі перадаць па тэлефоне пра няшчасны выпадак і выклікаць медыцынскую машыну. Так ён, як мне вядома, і зрабіў.

Спрачацца з інструкцыяй, разумею,— няма сэнсу. І ўсё ж... Ёсць у гэтым, на маю думку, штосьці ненатуральнае: паблізу памірае чалавек, а другі чалавек, у руках у якога воляю выпадку аказваецца гэтае чужое жыццё,— глухі, нямы, безудзельны: выконвае інструкцыю...

Аляксандр Качаргін маўчыць, але па вачах бачу: у нечым згодны.

— Ва ўсялякай справе бываюць свае выдаткі,— кажа задуменна.— А чалавечнасць... Чалавечнасць, лічу, усё ж — адна з характэрных рыс сённяшняга ваеннаслужачага... Мой дзед быў афіцэр. Бацька — афіцэр. Я — афіцэр... Свядома абраў прафесію «ахоўваць». Не забівац, зразумейце: ахоўваць.

Ёсць у слове «статут» нейкая магічная моц, якая паралізуе, як мне здаецца, усялякі рух. Спачатку — чалавечай душы, а пасля, часта, і думкі. Невыпадкова існуе сярод людзей меркаванне: армія — гэта там, дзе не трэба думаць самому.

«Дзеянні каравульнага дакладна вызначаны статутам,— успамінаюцца словы Скварцова.— На пасту чалавек не мае права ні размаўляць, ні пець, ні нават курыць».

— А дзейнічаць па-чалавечы? — спытала я зноў, памятаю, неяк неўпапад, уяўляючы сабе ўсё адну і тую ж карціну: «нямы» каравульны і паранены юнак, якому неабходная — цяпер, у гэтую самую хвіліну — ягоная, каравульнага, дапамога...

У кабінеце галоўнага ўрача бальніцы, куды прывезлі тады Віталя Мароза, доўга напамінаць пра юнака не давялося.

— Я і цяпер добра памятаю, як усё было,— расказвае ўрач-рэаніматар А. Лернер, які дзяжурыў у той дзень.— Яго прывезлі паміраючым, з дрэнна накладзеным жгутом, усяго ў крыві, якой былі поўныя насілкі.— («Я імкнуўся вышэй раны зацягваць, а жгут з аптэчкі два разы рваўся...» — з тлумачэння Сяргея Малашанкі).— Салдат за рулём вельмі нерваваўся: нават уезд на тэрыторыю бальніцы развярнуў. Супрацьшокавую тэрапію мы пачалі праводзіць адразу ж. Кроў — рэдкая група — збіралі з усяго горада: аб'явілі па радыё. Пяць літраў было перапіта. Аперацыя працягвалася дзевяць гадзін. Урачы рабілі ўсё магчымае... Калі б жгут быў добра накладзены адразу ж, усё магло б быць інакш.

— Што ж да чалавечнасці,— зноў чуецца ўпэўнены голас начальніка палітаддзела,— то менавіта яе мы і прадэманстравалі, эвакуіраваўшы параненага на службовай машыне ў бальніцу. І за гэта, лічу, той самы каравульны меў права разлічваць на падзяку, а не на тое, каб стаць адмоўнай дзейнай асобаю эмацыянальнага бацькоўскага допісу.

...Намеснік ваеннага пракурора Аляксандр Андрэевіч Літоўчанка сустрэў мяне ветліва, выслухаў уважліва, па-чалавечы, не ўспамінаючы пра аксіёмы статутаў і інструкцый. Прадстаўляючы прафесію «прычыннавыніковага» характару, ён згадзіўся з тым, што тое, што адбылося на палігоне, з'явілася, у большай ступені, лагічным вынікам безгаспадарчасці і безадказнасці зусім канкрэтных асоб, якія адказваюць за парадак і бяспеку на палігоне і навакольнай тэрыторыі. Так і было сказана ў афіцыйным допісе пракуратуры на імя Віталевага бацькі.

**«...Паводле вынікаў праверкі ўнесена прадстаўленне з патрабаваннем сістэматычнай ачысткі агнявога гарадка ад неразарваных боепрыпасаў і прыняцця канкрэтных мер, каб не дапускаць на тэрыторыю пабочных асоб. За кепскае выкананне службовых абавязкаў, што прывяло да няшчаснага выпадку, канкрэтныя адказныя асобы прыцягнуты камандаваннем да строгай адказнасці з адхіленнем ад займаемых пасад».**

І ўсё ж — ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да тых самых «канкрэтных асоб» ваеннай пракуратурай было адмоўлена: людзі дзейнічалі паводле статута. Дык за што ж тады іх караць у адміністрацыйным парадку?..

— Літара закона — рэч хітрая, неадназначная,— разважае Літоўчанка.— Паглядзіш на паперы, інструкцыі — парушэнняў нібы і няма... Але ж рэальнасць гаворыць пра іншае: вынікі трагічныя. З гэтым таксама нельга не лічыцца...

— Нярэдкія выпадкі, калі да нас трапляюць дзеці, у руках якіх разрываліся снарады і патроны... (З расказа галоўурача бальніцы.)

— У тым, што здарылася, прыйшла да высновы пракуратура, злачынства няма: для нас гэта і з'яўляецца законам. Усё астатняе нас не цікавіць. (З размовы з начальнікам палітаддзела.)

— Вось я і думаю,— працягвае Літоўчанка, што інструкцыя інструкцыяй, а становішча мяняць трэба. І абавязак гэты — на камандаванні часці. Можна ж і маршруты патрулявання падоўжыць, не кажучы ўжо пра своечасовую, рэгулярную расчыстку палігонаў.

У час пракурорскай праверкі і стараннай ачысткі агнявога гарадка на яго тэрыторыі, як сведчаць матэрыялы справы, знойдзена ў агульнай складанасці 32 адзінкі рознага віду неразарваных боепрыпасаў, у тым ліку тры міны...

— А ў лесе цяпер самыя ягады...

Мы сядзім на лаўцы ў двары ляснічага Міхаіла Васільевіча Галавача.

— Грыбы хутка пойдуць: раскоша, каб усё было як трэба. А то ж не лес цяпер у нас — смеццязборнік. Усё, што толькі ёсць сёння ў ваенным арсенале, можна знайсці ў нашым лесе. Я ўжо папрасіў неяк вясною ў камбіната бульдозер — усё пахаваў. А прайшоў час — зноў ні прайсці, ні праехаць...

Памаўчалі. Нехта з суседскіх мужыкоў, якія падышлі на размову, пачаў прыкурваць, з адабрэннем гледзячы на ляснічага.



— І сапраўды: звалку ўстроілі...— загаварыў адзін з іх, Яраслаў Фядунь.— А ўспомні, Васіліч, як ледзь не падстралілі цябе ў тваіх угоддзях...

— Ды ўжо было...— пагаджаецца Галавач.— Рабіў неяк абход, а тут — кулі над галавой пачалі чыркаць: у адзін, у другі ствол рыкашэцяць... Ну я, вядома, як на фронце: «Лягай!» Так і поўзаў, пакуль у іх там на вучэннях не пачаўся перапынак. А што да боепрыпасаў — дык чаго тут толькі ні валяецца. Няма парадку, няма,— уздыхнуўшы, падвёў вынік ляснічы.— Так і напішыце.

Магілёўская вобл.

# ЦЯБЕ НЕ ПАКІНУЦЬ, КІРС!

Міхаіл ЗНАК

Кірс выцягнуўся, паклаў галаву на здаровую левую лапу і заплюшчыў вочы. Пахла добра знаёмым яму духам роднага жытла. За шклянымі дзвярыма перагаворваліся паміж сабой блізкія яму людзі. Па свайму сабачаму разуменню ён, напэўна, з поўным правам лічыў іх маткай і бацькам. Гэта ж яны, Уладзімір Васільевіч і Генрыета Фёдараўна, колькі памятае сябе Кірс, кармілі і паілі яго, вадзілі на прагулкі, купалі і расчэсвалі яго бліскучую шаўкавістую поўсць. А колькі радасці прыносіў сабаку таямнічы, перапоўнены ап'яняючымі пахамі лес! А возера! Тут можна было і пакупацца, і ўдосталь пагарэзнічаць...

Побач з дарослымі заўсёды быў яшчэ адзін чалавек — Алег Сулім. З ім спасцігаў Кірс прамудрасці яшчэ аднаго, пакуль што новага для яго жыцця, назва якому «служба на граніцы»...

Кірс паварушыўся. Перавязаная бінтам і заціснутая ў лубкі правая пярэдняя лапа заныла, запульсавала надакучлівым тупаватым болем. Дзе ж ты, Алег, верны, незабыўны сябра? Толькі шэрая цывільная куртка, ад якой веяла знаёмым пахам чалавечага цела і добрымі ўспамінамі вісела тут, побач, на ўзорыстай драўлянай вешалцы. Кірс спадылба пакасіўся на яе, потым, пераадольваючы боль, прыўстаў, лёгенька ўхапіўся зубамі за крысо і пацягнуў да сябе. Куртка лёгка саслізнула са штырка і нячутна ўпала на падлогу. Сабака падцягнуў яе бліжэй, паклаў на ўтульную, мяккую тканіну сваю разумную шэравокую пысу, прымасціўся, каб было ямчэй, і задрамаў.

...Алег з'явіўся нечакана. Якісьці нязвыкла ўзлахмачаны, са ссунутай на патыліцу зялёнай фуражкай, у маскіровачнай уніформе, з аўтаматам на шыі, ён рэзка рвануў на сябе дзверцы вальеры, прышчоўкнуў да кальца ашыйніка карабін павадка. Кірс маланкай кінуўся наперад, абганяючы задыханых хлопцаў у знаёмых плямістых куртках, і першы ўскочыў у салон вінтакрылай машыны. Верталёт з грукатам адарваўся ад гарачых скал і панёсся, нахіляючыся то ўлева, то ўправа, у трывожна-сіняе паднябессе. Усе прыпалі да ілюмінатараў.

— Вунь ён, бачыце, за ўступам, злева ад вялікага валуна хаваецца,— чуецца нейкі нязвыклы, быццам і не яго, голас Алега.

Верталёт задрыжаў усім сваім магутным браніраваным целам, развярнуўся над малюсенькай пляцоўкай і, варушачы вяршкі чэзлай расліннасці, «прыціснуў» яшчэ ніжэй чалавека, што старанна хаваецца за каменем. Вось ён спалохана ўскоквае, кідаецца ў адзін бок, у другі, шукае больш надзейнае сховішча. Верталёт грозна грыміць над самай яго галавой. Кірс ужо здагадваецца, што на зямлі — нядобры чалавек, інакш навошта было б за ім па паветры сярод гэтых вострых абломкаў скал і камянёў так доўга ганяцца. Ён толькі і чакае каманды сябра. Дзверцы верталёта расчыняюцца, уніз падае лёгкая лесвіца, якую падхоплівае і з усіх сіл тузае вецер. Да зямлі недалёка. Усёй сваёй сабачай істотай Кірс напружана ўлоўлівае ўнутраную трывогу гаспадара і яго таварышаў: чалавек той, унізе, падхапіўшы крыссё доўгага ватнага балахона, ужо караскаецца ўверх па вузенькай сцяжынцы...

— Стой! — зычным рэхам аддаецца ў гарах рэзкая каманда.

І тут нервы Кірса не вытрымліваюць. З трохметровай вышыні ён кідаецца на плечы парушальніка, скочваецца на калючую гальку і, злаўчыўшыся, імгненнай мёртвай хваткай упіваецца ў доўгі рукаў непаваротлівага «страшыдла» ў ватным балахоне. Чалавек спрабуе вырвацца, заносіць для ўдару вольную руку, але Кірс перахоплівае яе на ляту і злосна, пагрозліва гыркае...

— Ну, што ты, што ты, дружа, супакойся,— чуе ён праз сон пяшчотны голас гаспадара.

Уладзімір Васільевіч запальвае начнік, нахіляецца над сабакам.

У сціплай гарадской кватэры на вуліцы Чкалава васьмімесячнае шчанятка ад нямецкай аўчаркі пасялілася шэсць гадоў таму назад. Звалі яго Кірс. У яго быў нават сапраўдны сабачы пашпарт, дзе было напісана пра масць, дзень нараджэння і ўсю багатую радаслоўную. Узялі шчанятка ў Мінскім клубе службовага сабакаводства па настойлівай просьбе Алега.

Ні бацькі, ні сваякі цяпер не могуць дакладна прыгадаць, калі і чаму ў Алега, высокага, хударлявага падлетка-школьніка з'явілася цяга да пагранічнай службы.

І ўсё ж у сям'і Сулімаў своечасова здолелі разглядзець гэтае нечаканае сынава захапленне. І калі не раз і не два Алег папрасіў бацькоў купіць яму сабаку, з якім ён потым пойдзе служыць на граніцу, тыя адразу зразумелі: гэта не дурыкі.

Пра тое, што ў Алега расце сабака, якога ён рыхтуе да службы на граніцы, у ГПТВ-76 электронікі, дзе юнак вучыўся, не ведаў, бадай, ніхто. І толькі праз некалькі гадоў зусім выпадкова давялося мне пачуць ад адной з нашых супрацоўніц дзіўную гісторыю.

Яшчэ ў восьмым класе, калі прыйшла пара станавіцца на ўлік у ваенкамаце, Алег Сулім цвёрда заявіў ваенкому:

— Хачу служыць на граніцы з маім сабакам. Калі можаце, дапамажыце мне. Мой Кірс умее ўсё...

— Ну, што ж, раз трэба, дапамагу.— Ваенком аж заззяў ад задавальнення.— Калісьці я сам служыў на граніцы. Пагранічныя войскі, як у нас любілі гаварыць,— шчыт Радзімы, а астатнія роды войск — заклёпкі на гэтым шчыце. Ну, а тое, што сабаку рыхтуеш да службы,— двойчы малайчына...

З маленькага няўклюднага шчаняткі вырас прыгожы пародзісты сабака. Кірс падаваў вялікія надзеі літаральна з першых дзён заняткаў у клубе службовага сабакаводства. Ледзьве дачакаўшыся канца заняткаў у школе і на скорую руку перакусіўшы, Алег у прызначаныя дні спяшаўся з Кірсам у раён Камсамольскага возера і там пад кіраўніцтвам вопытных настаўнікаў упарта вучыў сабаку пераадольваць перашкоды, быць паслухмяным і кемлівым пры выкананні розных каманд, вынослівым у бегу на доўгія дыстанцыі. Ужо ў першы год заняткаў сабака без усялякай боязі бегаў па буме, лёгка браў высокія бар'еры, скакаў цераз канавы і агонь, шукаў сляды, не баяўся нечаканых стрэлаў і шуму, спрытна лазіў на вышкі па адвесных лесвіцах, хадзіў па нахіленых дрэвах, без роздуму кідаўся ў ваду...

Служыць ім з Алегам выпала ў бязводным краі...

Сярэднеазіяцкая акруга сустрэла іх страшэннай пяцідзесяціградуснай спёкай, ад якой карабацілася насычаная салёным потам форма, а ў горле перасыхала так, што цяжка было з першага разу праглынуць ваду з салдацкай біклажкі. А тут — штодзённая падрыхтоўка, вывучэнне слядоў, бег на дваццаць кіламетраў па нудных скалах і трэніроўкі, трэніроўкі, трэніроўкі...

Як ні дзіўна, тое, чаму вучылі Кірса ў клубе службовага сабакаводства, тут, на заставе, спатрэбілася мала. Але моцная загартоўка, уменне пераносіць цяжкасці, улоўліваць усё на ляту, рэагаваць на кожную каманду гаспадара саслужылі добрую службу. Нават бывалыя службоўцы дзівіліся, як хутка прывыкаў ён да спёкі, як дакладна браў след і, не звяртаючы ўвагі на едкі пыл і хітрыкі ўмоўнага праціўніка, туга нацягваў павадок, пакуль не даганяў яго за адвесным каменем ці чэзлым кустом.

...Цемра ў гарах надыходзіць раптоўна, навальваецца ўсім сваім цяжарам на маляўнічыя ўступы скал, на змарнелую пыльную расліннасць... Аднойчы, калі ўжо добра сцямнела, пагранічны нарад заўважыў у зоне нашай тэрыторыі нейкія агеньчыкі. Трывожны сігнал адразу ж перадалі па рацыі на заставу. Па камандзе «У ружжо!» машына з групай пагранічнікаў выехала да ўказанага месца. Алег Сулім са сваім верным памочнікам у гарачцы пагоні непрыкметна адарваўся ад хлопцаў. Усё бліжэй і бліжэй мігатлівыя агеньчыкі кастроў — іх расклалі, як высветлілася пазней, пастухі, якія выпадкова разам з атарай заблудзілі на нашу тэрыторыю з другога боку дзяржаўнай граніцы. Міжвольныя парушальнікі, адчуўшы нядобрае, кінулі авечак і схаваліся за ярам. Але іх дужыя сабакі, якія не баяліся нават лютых горных ваўкоў, замест таго каб сабраць, як звычайна, атару і гнаць яе ўслед за пастухамі, рынуліся ў бойку. Аўтаматная чарга над іх галовамі ніколькі не пахіснула іх звярыны азарт. З шалёным брэхам яны несліся насустрач Алегу. Поўсць у Кірса стала дыбам, вочы запалалі лютасцю. Алег адшпіліў карабін павадка, і сабака, адчуўшы волю, з усіх сіл рвануўся на моцных і вераломных ворагаў. На месцы жорсткай, адчайнай бойкі ў водбліскаў кастроў узляцела ў неба бурае воблака пылу. Пачуліся дзікія віскі сабак. Некалькі цёмных кропак аддзяліліся ад месца пабоішча і кінуліся наўцёкі, да аслупянелай ад страху атары.

Тым часам падаспелі астатнія пагранічнікі, і сабакі пастухоў-парушальнікаў вымушаны былі адступіць. Кульгаючы, Кірс вярнуўся да Алега. Ён быў пакусаны і толькі дзіка бліскаў злымі вачыма, парываючыся праследаваць крыўдзіцеляў — да поўнага пераможнага канца.

...Бяда прыйшла, як гэта звычайна і здараецца, нечакана. Аднойчы на занятках Алег, як і трэба было па інструкцыі, зняў карабін-зашчапку павадка з ашыйніка Кірса і пусціў яго па следзе. Сабака паімчаў па выступах адвесных скал. З гарачкі Кірс скокнуў цераз нешырокую цясніну, але камень раптам сарваўся з супрацьлеглага боку абрыву і паляцеў уніз. Следам за ім, чапляючыся кіпцюрамі за вострыя іклы скал, паляцеў у чорнае прадонне і Кірс...

Калі Алег спусціўся на дно цясніны, яго сябра ўсім целам дрыжэў ад болю і жаласна скавытаў. Правая пярэдняя лапа матлялася як нежывая...

Прыгавор начальніка ваенна-ветэрынарнай службы быў жорсткі: сабаку давядзецца ўсыпіць. Ніякай карысці ад Кірса на граніцы ўжо не будзе, нават калі яго лапа хутка зрасцецца. Дый які сэнс з ім важдацца, калі такія складаныя пераломы вылечваюць толькі ў стацыянарных ветэрынарных клініках.

Алег разгубіўся... Як жа так?.. Самы цяжкі год службы яны пражылі душа ў душу...

Начальнік пагранзаставы, да якога звярнуўся радавы Сулім па параду і падтрымку, адразу ж улавіў душэўны стан свайго ўраўнаважанага, дысцыплінаванага і заўсёды нешматслоўнага падначаленага.

— Не хвалюйцеся і не панікуйце,— супакоіў маёр салдата,— бязвыхадных сітуацый не бывае. Што-небудзь прыдумаем. А пакуль — вось вам ключ ад бытоўкі. Прыбярыце там, прынясіце саломкі, коўдру, калі трэба пасцяліце і перанясіце з хлопцамі сабаку туды. І вось што, грошы ў вас ёсць? Збегайце ў гарадок на пошту і патэлефануйце бацькам.

Уладзімір Васільевіч прыляцеў у вайсковую часць праз тры дні пасля размовы з сынам. За гэты час адбылося нямала добрых падзей. Малады ўрач-траўматолаг Марозаў — нядаўні выпускнік мединстытута — доўга абмацваў зламаную лапу Кірса, штосьці прыкідваў, падлічваў і, нарэшце, аўтарытэтна абнадзеіў Алега:

— Што ж, сапраўды ў сабакі — складаны закрыты пералом. Але ўсыпляць яго не варта. Калі па яго прыедуць твае бацькі ды забяруць яго дамоў, ён доўга яшчэ паслужыць вашай сям'і.

Цэлы вечар Марозаў выстругваў і прыладжваў спецыяльныя лубкі, асцярожна, з веданнем справы замацоўваў іх бінтам на хворай лапе і толькі пасля гэтага ўздыхнуў з палёгкай.

У ветэрынарным пасведчанні, якое выдалі на імя Уладзіміра Васільевіча Суліма, было запісана: «Пагранічны сабака Кірс — нямецкая аўчарка з чапрачнай афарбоўкай — накіроўваецца ў горад Мінск для далейшай службы». З такім дакументам, завераным начальнікам заставы, можна было браць білеты хоць на цягнік, хоць на самалёт.

За ўсю дарогу ў купэ скорага поезда, а затым і ў салоне авіялайнера Кірс не зрабіў ніводнага лішняга гуку, не «паскардзіўся» ні на боль, ні бяссонніцу. Пры пасадках самалёта ў прамежкавых аэрапортах Уладзімір Васільевіч ненадоўга выносіў на руках Кірса на свежае паветра і на кароткі час пакідаў яго дзе-небудзь у зацішным куточку аднаго.

Не апісаць, як абрадаваўся Кірс роднаму дому. І толькі па начах шумна ўздыхаў праз сон — надта сумаваў па Алегу.

Праз тры месяцы пасля няшчасця ў Мінскай ветэрынарнай лячэбніцы спецыяліст уважліва агледзеў пашкоджаную лапу і зняў лубкі, змайстраваныя калісьці «чалавечым» доктарам — лейтэнантам Марозавым. Гэтыя саматробныя шыны літаральна ашаламілі ветэрынара, які нямала пабачыў на сваім вяку:

— Гэта ж трэба!.. Якая філігранная работа!.. Якая падгонка!..

...На прагулках Кірс пакуль што злёгку пакульгвае і заўсёды хвалюецца, калі надарыцца на яго шляху чалавек у зялёнай пагранічнай фуражцы...

*Генрык*
*СЯНКЕВІЧ*

# ДВА ЛУГІ

*Генрык Сянкевіч больш вядомы нашаму чытачу як аўтар гістарычных раманаў «Крыжакі», «Агнём і мячом», «Патоп», «Пан Валадыеўскі», што будзілі нацыянальную свядомасць польскага народа, які трапіў у канцы XVIII стагоддзя пад уладу трох манархій. Пісьменнік быў і добрым навелістам. Легенда «Два лугі» сведчыць, што Г. Сянкевіч цікавіўся не толькі польскай гісторыяй і фальклорам...*

Былі дзве краіны, якія раскінуліся побач, быццам два неабсяжныя лугі, падзеленыя толькі светлым ручаём. У адным месцы берагі гэтага ручая разыходзіліся ў два бакі, ствараючы неглыбокі брод накшталт азярца з ціхай і празрыстай вадой. У блакітнай тоні было бачна залатое дно, на якім раслі сцяблiны лотасу, квітнеючага над воднай шыбай ружовым і белым цветам; вакол кветак віліся вясёлкавыя стракозы і матылі, а сярод прыбярэжных пальм і вышэй, у прамяністым паветры, як сярэбраныя званочкі, звінелі птушкі.

Гэта быў пераход з адной краіны ў другую.

Першая называлася Лугам Жыцця, другая — Лугам Смерці.

Абедзве краіны стварыў найвышэйшы і ўсемагутны Брахма, які загадаў уладарыць у краіне Жыцця добраму Вішну, а ў краіне Смерці — мудраму Шыве.

І сказаў Брахма:

— Рабіце так, як самі разумееце.

І ў Краіне Вішну закіпела Жыццё. А каб усе жывыя істоты маглі пладзіцца і множыцца, добры бог стварыў Каханне, загадаўшы яму быць шчаслівым.

Тады паклікаў Брахма да сябе Вішну і сказаў:

— Прыдумаць на зямлі што-небудзь больш дасканалае ты не здолееш, а неба я стварыў раней. Таму адпачні, і няхай гэтыя істоты, якіх ты назваў людзьмі, снуюць далей нітку жыцця без якой-небудзь дапамогі.

Вішну выканаў загад Брахмы, і з таго часу людзі пачалі самі дбаць пра сябе. Ад іх добрых думак нарадзілася радасць, а ад злых — смутак. Але яны са здзіўленнем заўважылі, што жыццё — гэта не бесперапынная весялосць, і тую нітку, пра якую гаварыў Брахма, прадуць быццам дзве прадзільшчыцы: у адной з іх усмешка на твары, а ў другой — слёзы на вачах.

Тады людзі прыйшлі да трона Вішну і пачалі скардзіцца:

— Пане, цяжка жыць у смутку.

А ён адказаў:

— Няхай вас суцяшае Каханне.

Пачуўшы гэта, яны адышлі супакоеныя, бо, сапраўды, Каханне рассейвала іх смутак, які перад шчасцем Кахання здаваўся такім нязначным, што не варта было звяртаць на яго ўвагі.

Але разам з тым Каханне — гэта вялікі творца Жыцця. І хаця краіна, у якой уладарыў Вішну, была неабсяжная, хутка чалавечаму натоўпу ўжо не хапала ні лясных ягад, ні мёду горных пчол, ні пладоў на дрэвах. Тады найбольш кемлівыя ўзяліся за карчаванне лясоў, апрацоўку палёў, сяўбу збожжа і збор ураджаю.

І вось так на зямлі ўзнікла Праца. Хутка ўсе павінны былі ўзяцца за яе, так што яна зрабілася не толькі асновай Жыцця, але і амаль самім Жыццём.

Але ад Працы нарадзіліся Намаганні, а ад Намаганняў — Стома.

Зноў чалавечы натоўп з'явіўся перад тронам Вішну.

— Пане! — крычалі людзі, выцягваючы рукі.— Праца знясіліла нашыя целы, Стома разлілася па нашых касцях,



і мы хацелі б адпачыць, але Жыццё прымушае нас увесь час працаваць.

І ён стварыў Сон.

Людзі, услаўляючы Сон, гаварылі:

— Будзь блаславёны, таму што ты лепшы за Жыццё наяве.

І толькі тым адным яны былі незадаволены, што Сон не трывае вечна, што надыходзіць абуджэнне, а за абуджэннем праца — і новы клопат, і стома.

Гэтая думка пачала так моцна непакоіць людзей, што яны трэці раз накіраваліся да Вішну.

— Пане,— сказалі яны,— ты даў нам вялікае і невыказнае дабро, але яно не поўнае. Зрабі так, каб Сон цягнуўся вечна.

Вішну ж насупіў свае боскія бровы, быццам разззлаваны назойлівасцю людзей, і адказаў:

— Даць вам гэта я ўжо не магу, але ідзіце да пераправы і на другім беразе ручая вы знойдзеце тое, што шукаеце.

Людзі паслухаліся голасу бога і адразу ж у вялікім мностве пацягнуліся да азярца, а спыніўшыся каля яго, пачалі ўглядацца ў другі бераг.

За ціхай і светлай тоняй, вышытай кветкамі, цягнуўся Луг Смерці, альбо Краіна Шывы.

У ёй не ўзыходзіла і не заходзіла сонца, не было дня і ночы, а ўсю прастору напаўняла аднастайнае ліловае святло.

Ні адзін прадмет там не адкідваў цень, бо гэтае святло пранікала ўсюды, так што здавалася істотнай часткай усяго існага.

Краіна не была пустынная: наколькі сягала вока, у ёй былі відны даліны і ўзгоркі, парослыя прыгожымі купінамі дрэў, вакол якіх віліся ліяны, са скал звешваліся гірлянды плюшчу і вінаграду. Але і скалы, і ствалы дрэў, і гнуткія сцяблiны раслін былі амаль празрыстыя, нібыта створаныя са згусцелага святла.

Лісце плюшчу адлівала лёгкім ружовым бляскам ранішняй зары, а ўсё было незвычайным, заспакоеным нейкім невядомым на Лузе Жыцця спакоем, крыштальным, нібыта паглыбленым у светлую задумённасць, нібыта сонным і закалыханым шчаслівым непрабудным сном.

Людзі, якія прыйшлі на бераг шумна і гучна размаўляючы, сціхлі, убачыўшы гэтую нерухомую прастору і толькі паўтаралі шэптам:

— Якая там цішыня, і ўсё спачывае ў святле!

— Так, там спакой і вечны сон...

Тады тыя, хто найбольш стаміўся, трохі счакаўшы, сказалі:

— Хадзем шукаць вечны сон!

І яны ўвайшлі ў ваду. Вясёлкавая тоня адразу ж расступілася перад імі, быццам хацела палегчыць пераправу. Тыя, што засталіся на беразе, пад уплывам раптоўнага смутку пачалі клікаць іх. Але ні адзін не павярнуў галавы, і яны ішлі далей лёгка і ахвотна, відаць, усё больш захопленыя чарамі цудоўнай краіны.

Натоўп, які пазіраў з берага Жыцця, заўважыў яшчэ, што па меры таго як яны аддаляліся, целы іх рабіліся яснымі, празрыстымі, усё больш лёгкімі, светлымі, прамяністымі і нібыта раставалі ў гэтым усеагульным ззянні, якое напаўняла Луг Смерці.

А адолеўшы пераправу, яны палеглі адпачываць сярод кветак і дрэў альбо ля падножжа скал. Вочы іх былі заплюшчаны, але на тварах маляваўся выраз не толькі невыказнага спакою, але і такога шчасця, якога на Лузе Жыцця не прыносіла нават Каханне.

Убачыўшы гэта, тыя, што засталіся жывыя, пачалі гаварыць адно аднаму:

— І саладзейшая, і лепшая гэта Краіна Шывы...

І яшчэ больш шматлікія натоўпы пачалі пераходзіць на другі бераг. Нібыта ва ўрачыстым шэсці ішлі старыя і сталыя людзі, мужы з жонкамі і маткі, якія вялі за рукі малых дзяцей, хлопцы і дзяўчаты. А потым тысячы і мільёны людзей пачалі тоўпіцца ля Ціхага Пераходу, пакуль нарэшце Луг Жыцця амаль зусім не абязлюдзеў. Уласная парада, дадзеная ў гневе, жахнула Вішну, які павінен быў сцерагчы Жыццё. Не ведаючы што рабіць, ён пайшоў да найвышэйшага Брахмы.

— Творца,— сказаў Вішну,— ратуй Жыццё! Краіну Смерці ты зрабіў такой светлай, такой прыгожай і шчаслівай, што ўсе пакідаюць маё каралеўства.

— Няўжо ў цябе нікога не засталося? — запытаў Брахма.

— Толькі хлопец і дзяўчына, пане, бязмерна закаханыя, вырашылі лепш адмовіцца ад вечнага суцяшэння, чым заплюшчыць вочы і больш не глядзець адно на аднаго.

— Чаго ж ты хочаш?

— Зрабі краіну Смерці не такой прыгожай і шчаслівай, бо інакш і гэтыя двое, калі міне вясна іх кахання, кінуць мяне ўслед за іншымі.

Брахма задумаўся на хвіліну, а пасля сказаў:

— Не! Ні прыгажосці, ні шчасця ў краіны Смерці я не забяру, а каб ўратаваць Жыццё, зраблю нешта іншае. З гэтага часу людзі павінны будуць пераходзіць на іншы бок, але рабіць гэта будуць ужо неахвотна.

Сказаўшы так, ён саткаў з цемры тоўстую непранікальную заслону, а потым стварыў дзве страшныя істоты, адна з іх звалася Болем, а другая Трывогай, і загадаў ім павесіць гэтую заслону ля пераходу.

І з гэтай хвіліны на Лузе Вішну зноў закіпела Жыццё, бо хаця краіна Смерці засталася па-ранейшаму светлай, ціхай і шчаслівай, але людзей палохаў пераход.

З польскай мовы пераклала
Наталля МАЗОЎКА

ЗЯМЛЯ РОДНАЯ

# НІ ДА ВЁСКІ, НІ ДА ГОРАДА...

Таццяна ШАРОВА

Я шчэ толькі падыходжу да дзвярэй, ужо ведаю: у Ганначкі, суседкі па пакоі, зноў меланхолія. Значыцца, зноў дастала з-пад ложка старэнькі танны прайгравальнік, зняла з паліцы сваю адзіную пласцінку, якую купіла, уласна кажучы, дзеля адной толькі песні. Так і ёсць: забраўшыся з нагамі на ложак, скурчыўшыся пад пледам, Ганначка, зусім як Алёнка з карціны Васняцова, хіліць галаву, нібыта ад нейкай горкай весткі. Па пакоі раскіданы рознакаляровыя клубкі і клубочкі шэрсці, здаецца, зараз замільгацяць у яе руках пруткі, хутка-хутка перакідваючы петлі: малюнак самы просты. Дый нічога яна сабе вязаць не збіраецца — гэта так, праца рукам. Проста, слухаючы песню, трэба чымсьці заняць рукі: тады і думаецца раўней. Быццам і не заўважыла майго прыходу, пацягнулася, перастаўляла іголку прайгравальніка. Зноў напоўніла пакой немудрагелістая мелодыя.

У гэтым вялікім горадзе мы з ёю абедзве — прыезджыя, таму і дзелім на дваіх няўтульны інтэрнацкі пакой. Я тут па размеркаванні нядаўна, уранку бягу на працу з радасцю. У мяне перспектыва на жытло і ўвогуле... У Ганначкі гісторыя другая. Яна тыповая, аднак здаецца мне... надуманай. Таму, калі ў Ганначкі меланхолія, мне шкада яе, але ж неяк насуперак сяброўскаму спачуванню нараджаецца пачуццё пратэсту — няўжо, думаю, так цяжка табе ўсё перамяніць?

Ей ледзь споўнілася пятнаццаць, калі ўслед за старэйшымі братамі і сёстрамі яна пацягнулася ў горад. Маці не пярэчыла, вырашыўшы пакінуць з сабою толькі малодшую, каб не абышла яе ў старасці простая радасць — вынянчыць унукаў. Астатнія сыны і дочкі па чарзе пакінулі бацькоўскі дом і амаль усе аселі ў Мінску.

Спачатку Ганначка вучылася ў педвучылішчы і ў вясёлым студэнцкім інтэрнаце нічым не адрознівалася ад аднакурсніц. Усе яны, як толькі набліжаліся святочныя дні, пачыналі нудзіцца па доме і пісаць просьбы вызваліць на пару дзён ад заняткаў. Вярталіся павесялелыя, са шчодра напакаванымі сумкамі. Але не паспявалі знікнуць іх запасы, як зноў пачыналі нудзіцца па доме, па блізкіх, родных мясцінах. Цяжка жыць, адарваўшыся ад усяго, з чым быў звязаны моцна і, здавалася, назаўжды.

Уласна кажучы, задумвацца асабліва пра гэта не было калі: лекцыі, семінары, вытворчыя практыкі. Так і праляцеў час вучобы. Закончыўшы вучылішча, яна засталася ў Мінску, стала працаваць выхавацелькаю ў дзіцячым садочку аднаго з буйных заводаў. І зноў паляцеў, панёсся час.

Праца ёй падабалася, хаця стамлялася на ёй так, што, прыходзячы дамоў, літаральна засынала там, дзе прысела. Дзеці шумныя, няўрымслівыя, непаседлівыя, каго хочаш загавораць, дапякуць сваімі «як», «навошта», «чаму». Сяброўкі, з якімі вучылася, вельмі хутка разбегліся хто куды. Адна адразу ж выйшла замуж, другая паехала, трэцяя, уцягнуўшыся ў хуткі рытм буйнога горада, званіла толькі зрэдку і неяк выпадкова. І Ганначка кінулася ў тэатры і лекторыі: запаўняць дэфіцыт кантакту з людзьмі. Глядзела і слухала яна шмат, праўда, толькі першы час. Потым усё радзей і радзей выбіралася ў горад, сама апраўдваючыся перад сабою: зіма, маўляў, на вуліцы, стамілася... Але вось толькі пацяплее...

Лета яна штогод чакала з незвычайным нецярпеннем. Улетку ў яе адпачынак і доўгі-доўгі, пра які іншыя толькі марыць могуць. Улетку яна ўвогуле неяк уся мянялася: насуперак сонцу, цяплу рабілася калючая, неспакойная. Апошні тыдзень перад паездкаю дадому і зусім месца сабе не знаходзіла. А ездзіла толькі ў сваю вёску, што стаіць над Дняпром, каля самай яго лукавіны...

Мне здаецца, я бачу гэтую яе вёску — так часта расказвала яна пра яе з такой любоўю.

У горад яна заўсёды вяртаецца сама не свая. Свежая, загарэлая, а ў вачах — разгубленасць. «Навошта я тут,— гаворыць яе позірк,— чаму не там?»

Уласна кажучы, у горадзе яе нішто не ўтрымлівае: асабістае жыццё не складваецца, з інтэрната ў інтэрнат пераходзіць вось ужо амаль два гады. Праўда, вучоба на завочным аддзяленні філфака неяк апраўдвала яе становішча. З гэтай прычыны яна забараняла сабе думаць пра вяртанне дадому. «Вось закончу, вярнуся з дыпломам»,— жыць з такой, вельмі далёкай перспектываю было неяк спакайней.

У канцы чацвёртага курса Ганначка кінула свой філфак. З асабістых прычын. І жыць стала яшчэ больш складана. «Дома лічаць, што я педагог... Не магу сказаць ім праўду...»

Неяк у Мінск наведалася яе мама. Падрыхтаваная загадзя, я вяла з сяброўкаю «педагагічныя» размовы, а пажылая жанчына глядзела на нас так уважліва, што, здавалася, усё ведала пра нашую хлусню, усё бачыла і разумела. І шкадавала дачку. Але чамусьці не назвала рэчы сваімі імёнамі, а паехала, уздыхаючы горка і цяжка.

Ганначка дагэтуль час ад часу па-ранейшаму выбіваецца з нібыта наезджанай каляіны, і тады, прыйшоўшы дамоў, зноў дастае свой танны прайгравальнік і без канца пракручвае любімую пласцінку.

...Іх шмат такіх дзяўчынак, якія колісь бяздумна паехалі са сваіх ціхіх вёсак і вёсачак. У горадзе ім бачылася простае рашэнне ўсіх праблем: шмат людзей навокал, напэўна, знойдзецца і той сябра, якога не было дома. Бачылася і нескладаная, «няпыльная» праца, так не падобная на тую, якою ўсё жыццё занятая мама. Спакушалі атрыбуты вялікага горада. Багатыя магазіны, напрыклад, дзе ўсё, здавалася, да тваіх паслуг. Нехта, атрымаўшы ўсё гэта, супакоіўся, прыжыўся і стаў, як яму здавалася, паўнацэнным грамадзянінам. Але ёсць і іншыя, такія вось, як мая знаёмая. Паехаўшы ў горад, яны, па сутнасці, засталіся ў сваіх вёсачках. Там іх будучыня. Але, выходзіць, няпроста зрабіць гэты адзіна правільны крок — вярнуцца, няхай праз дзесятак гадоў, няхай нават без дыплома, нават не спраўдзіўшы чыіхсьці надзей.

І ўсё ж, думаю я, мая прыяцелька, нягледзячы ні на што,— шчаслівы чалавек. Яна не згубіла тую самую сувязь з роднай зямлёю, з якою многія з нас расталіся. Але, здаецца, не ўсе і не назаўжды. Паехалі раптам у вёску маладыя і не вельмі маладыя людзі. Сем'ямі, з дзецьмі, а значыцца, не на дзень, не проста адгукаючыся на чарговую кампанію. Вырашылі жыць там, дзе нарадзіліся, адкуль паехалі і куды не маглі не вярнуцца. Паняцці прэстыжнай працы, прэстыжнага ладу жыцця мяняюцца на нашых вачах. Мяняецца і сама вёска. А вось прывабнасць малой радзімы застаецца для чалавека нязменнай. Таму, думаю, вернецца да сваіх дняпроўскіх стром, да сябе дадому, туды, дзе яе чакаюць, Ганначка. Павінна вярнуцца!



Віктар ЧАРОПКА

ПОСТАЦІ:
**Усевалад, князь Герцыке**

# НЕПРЫМІРЫМЫ

Языкі полымя дрыготка ўздымаліся ў неба. Агонь знішчаў хаты, цэрквы, замкавыя сцены і вежы — усё тое, што гадамі будавалася руплівымі рукамі гараджан. Чорны час надышоў для Герцыке. Паспешліва пакідалі ахоплены пажарам полацкі град крыжакі, «бласлаўляючы бога за тое, што так нечакана ён даў ім перамогу», вялі закутых у кайданы нявольнікаў, гналі жывёлу, везлі на вазах багатую здабычу. Сярод палонных ішла ў няволю і герцыкская княгіня. А сам валадар Герцыке — кароль Усевалад, як называлі яго крыжакі,— ледзь выратаваўся ад палону. З некалькімі служкамі пераправіўся ён на лодцы цераз Дзвіну і з другога берага глядзеў на вакханалію пераможцаў. Не, ён не працягваў да бога рукі і не ўсклікваў са слязьмі на вачах: «О Герцыке, мілы горад! О спадчына бацькоў маіх! О нечаканая гібель майго народа! Гора мне! Навошта я нарадзіўся, каб бачыць пажар майго горада і знішчэнне майго народа». Гэта ўжо крыжацкі летапісец Генрых Латвійскі ў сваёй «Хроніцы Лівоніі» ўклаў у княскія вусны запазычаныя з плачу Макавеяў словы. Усевалад быў мужны чалавек і небяспечнае баявое жыццё навучыла яго мужна трываць няўдачы і цяжкасці. Ён моўчкі перажываў гібель Герцыке і мсціва да болю сціскаў у руцэ рукаяць мяча. Была восень 1209 года.

А трынаццаць гадоў назад у 1186 годзе высадзіўся на бераг Лівоніі святар ордэна блаславеннага Аўгусціна Мейнард і «проста дзеля справы Хрыстовай» прыняўся «садзіць вінаграднік гасподні». Полацкі князь Уладзімір (а, можа, дакладней Валодша, як гэта слушна лічыць М. Ермаловіч), валадар Лівоніі, дазволіў прапаведаваць хрысціянства лівам, летам, куронам, семіголам — падуладным Уладзіміру плямёнам. Ні полацкі князь, ні ён, Усевалад, ні кукейноскі князь Вячка — ніхто з іх не прадчуваў, якая бяда з ветлай усмешкай і словамі пра хрысціянскую добразычлівасць пастукала ў дзверы іхняга дома. Як жа не спрыяць было святой справе — слова боскае распаўсюдзіць сярод пазбаўленых выратавальнай веры паганцаў. Міналі гады. Дзейны біскуп Бертольд, які пасля Мейнарда працягваў «місію хрысціцеля Лівоніі», разам з крыжом узяў у рукі і меч. Рымскі папа не мог не ўхваліць дзейнасць Бертольда і спрыяў яму. Ён прыраўняў паход у Лівонію да крыжовага паходу ў Палесціну. І паспяшылі ў Лівонію беззямельныя нямецкія рыцары ў надзеі атрымаць зямельныя лены, святошы-пілігрымы, грэшнікі (год службы у біскупскім войску даваў прошчу за любыя грахі), шукальнікі прыгод, подзвігаў, авантурысты. Ахвотнікаў было нямала. Гэта ж не далёкая і небяспечная Палесціна з яе спёкай і пустынямі, і не войны з ваяўнічымі сарацынамі. Лівонія — рукой падаць, а лівы, хоць і храбрыя воі, але амаль бяззбройныя, куды ім было ваяваць супраць закутых у латы рыцараў.

«І залілі крывёю паганцаў усе дарогі і месцы». «І захапілі яны многіх, і перабілі ўсіх мужчын і звялі ў палон жанчын і дзяцей». Як ні апяваў подзвігі тэўтонаў Генрых Латвійскі, але ўсё ж быў вымушаны запісаць у хроніцы ўсю праўду аб хрышчэнні Лівоніі «па-тэўтонску».

Пасля біскупа Бертольда ў Лівоніі з'явіўся новы пастыр — біскуп Альберт. Гэты замахнуўся далёка, аж на Полацк (праўда, яшчэ толькі ў задумах), а пакуль спяшаўся прыбраць «у рукі гасподні» Лівонію. А каб полацкі князь не ўстрывожыўся, не ўзяўся за зброю, кінуў на яго путы. Багатыя дары, даніна, якую за ліваў выплочваў біскуп, удала стрымлівалі караля, як называлі немцы князя Полацкага.

Тым часам паўстала ў вусці Дзвіны Рыга, загарадзіла палачанам выхад у Варажскае мора. За ёй адзеўся ў каменныя ўборы замак Гольм, вырас яшчэ адзін замак — Ікескола. Узнік ордэн «Братоў рыцарства Хрыстовага» — мечаносцаў. За крок ад спрадвечных полацкіх зямель ужо стаялі крыжакі. І працягвалася хрышчэнне Лівоніі. «Спустошылі і аддалі агню ўсе весі, а мужчын, якіх маглі захапіць, усіх спалілі жывымі...» Лівы на каленях прасілі полацкага князя заступіцца за іх. І тады Уладзімір выпраўляецца ў паход на Рыгу. Разам з ім Вячка і Усевалад.

Існавала ў сярэднявеччы традыцыя: перад сечай лепшыя віцязі варожых войск скрыжоўвалі зброю паміж сабою. Пераможца гэтага паядынку нібыта рабіў зачын на перамогу, усяляў у сэрцы сваіх таварышаў адвагу і мужнасць. Вельмі падобныя на гэтых віцязяў полацкія князі— яны першыя з усходніх славян прынялі бой са смяротным ворагам і хоць не адолелі яго, загінулі ў няроўнай барацьбе, але зачын на слаўную перамогу яны зрабілі. Грунвальд пачаўся ў 1203 годзе пад Рыгай, дзе дружыны беларускіх і літоўскіх князёў упершыню ўступілі ў сечу з тэўтонскімі полчышчамі.

Крыжацкія замкі захапіць не ўдалося. Беззваротна мінуў час, калі перавага ў вайсковых сілах была на баку палачан. Усевалад з літоўцамі выпаліў рыжскія прыгарады, але самім горадам не авалодаў. Не мог пахваліцца поспехамі і Уладзімір. Ікескола золатам адкупілася ад палачан, але вось Гольм абараняўся зброяй. Балістрыі, што кідалі вялізныя каменні з замкавых сцен, паранілі шмат полацкіх вояў. І Уладзімір не рашыўся пад іхнім абстрэлам перапраўляцца цераз Дзвіну і штурмаваць замак. Так закончыўся першы паход палачан на крыжакоў.

Праз тры гады палачане паўтарылі паход. Пры высадцы з караблёў ля Ікесколы балістрыі спынілі полацкую дружыну. Уладзімір не стаў штурмаваць замак, а нечакана падышоў да Гольма і акружыў яго з усіх бакоў. Некалькі дзён доўжылася бітва. Крыжакі адбіваліся з дапамогаю балістрый, а палачане, «вопытныя ў стральбе з лука», пераранілі і забілі нямала абаронцаў. «Калі б працягнуліся дні вайны, дык наўрад ці рыжане і жыхары Гольма пры сваёй малой колькасці змаглі б абараніцца»,— прызнаецца Генрых Латвійскі. Выратавалі крыжакоў падмога, што прыбыла з Германіі, і кароль Даніі Вальдэмар, які прывёў у Лівонію вялікае войска. Дзе тут было працягваць вайну.

Адчуўшы сваю сілу, Ордэн ад тактыкі ўступак палачанам, мірных пагадненняў з імі, прызнання іхніх правоў на Лівонію пераходзіць у наступ. Вось ужо захоплены Кукейнос. Біскуп Альберт вяртае горад князю Вячку, але з умоваю размясціць там крыжацкі гарнізон. Хітры біскуп ведаў, што рабіў. Далучыць адкрыта Кукейнос да сваіх уладанняў — значыць, развязаць вайну з Уладзімірам, якая была не жаданай для Ордэна. У ход пускаецца прыём з арсеналу візантыйскіх базілеўсаў. У самых пачцівых інтанацыях біскуп просіць прабачэння ў Вячкі за «непаразуменне»: крыжакі без ягонай, біскупавай, згоды захапілі горад. «Кесарава кесару»,— біскуп ахвотна гэта прызнае і таму на знак міру з палачанамі вяртае Вячку Кукейнос. Але вось крыжацкі гарнізон... Вячка нібы і гаспадар у сваім горадзе, а разам з тым і нібы ганаровы вязень. Кожны ягоны крок пад увагай крыжкоў. І, прадчуваючы ў любое імгненне здрадніцкі ўдар у спіну, Вячка распраўляецца з варожым гарнізонам, спальвае замак і ідзе на Русь непрымірымым ворагам «хрыстовых» рыцараў. Гэта адбылося ў 1208 годзе. Праз год крыжакі нападуць на Герцыке. Але перш чым распавядаць пра гэта, ха-

целася б прывесці дзве цытаты з «Хронікі Лівоніі». Яны цікавыя не толькі тым, што набліжаюць да нас вобраз Усевалада, але і тым, што прыпадымаюць заслону над складаным механізмам полацкай палітыкі. «Бо кароль Усевалад з Герцыке заўсёды быў ворагам хрысціянскага роду, а болей за ўсё лацінян. Ён быў жанаты з дачкою аднаго з найболей магутнейшых літвінаў (Даўгерута.—В. Ч.). І, будучы як зяць ягоны для іх амаль сваім, звязаны з імі звыш таго і сяброўствам, ЧАСТА ЎЗНАЧАЛЬВАЎ ІХ ВОЙСКІ, аблягчаў ім пераправу цераз Дзвіну, забяспечваў іх прадуктамі, ішлі яны на Русію, Лівонію ці Эстонію». І яшчэ адна цытата. Вось сапраўдныя словы біскупа Альберта, з якімі ён звяртаецца да Усевалада: «Не станеш разам з літвінамі ваяваць зямлю Тваіх РУСКІХ ХРЫСЦІЯН». Адсюль вынікае, што Усевалад знаходзіўся ў самых цесных сувязях з літоўцамі, дапамагаў ім і асабіста узначальваў іхнія войскі ў паходах на Лівонію і Русь.

Так у «Хроніцы Лівоніі» пад 1204 год знаходзім, што літоўцы здзейснілі дзёрзкі набег на Рыгу. У 1205 годзе яны напалі на зямлю эстаў. Можа, гэтыя паходы і меў на ўвазе Генрых Латвійскі, бо на той час аб іншых паходах літоўцаў ён не нагадвае. Калі гэта так, дык Усевалад альбо сам узначальваў літоўскія войскі, альбо інспіраваў паход на Ордэн. «Увесь час дапамагае літвінам і парадай, і справай»,— прызнае Генрых Латвійскі. Становіцца зразумелай палітыка полацкага князя Уладзіміра ў адносінах да тэўтонаў. Нібы і мір трымаў з імі, але ў той жа час праз Усевалада ўваходзіў у зносіны з літоўцамі і падтрымліваў іх у вайне з крыжакамі. І «схапіць яго за руку» немагчыма: Уладзімір нібы не мае ніякага дачынення да літвінскіх паходаў. Тую самую палітыку мы назіраем у стаўленні Полацкай зямлі да суседніх рускіх княстваў.

Альберт указвае, што Усевалад ваяваў землі «рускіх хрысціян». Якія ж землі меў на ўвазе біскуп? Трэба думаць, не полацкія. Не мог Усевалад у такі складаны для ягонага княства час, калі над ім навісла крыжацкая навала, падняць меч супраць свайго суверэна і саюзніка ў барацьбе з Ордэнам. Не на карысць было і літвінам ваяваць з Полацкай зямлёй. Прыклад яцвягаў пераканаўча сведчыў, што з бліжэйшымі суседзямі лепш трымаць мір, чым варагаваць. Як вядома, крывавыя паходы яцвягаў на Валынь і Польшчу выклікалі не меней крывавыя паходы ў адказ галіцка-валынскіх і польскіх князёў, пасля якіх яцвягі былі амаль вынішчаны як народ. Такі лёс мог чакаць і літоўцаў, калі б яны пачалі вайну з Полацкам. Не трэба забываць і крыжацкую пагрозу, якая прымушала Літву шукаць саюзу з палачанамі. Мы ведаем шмат прыкладаў вельмі цесных сувязяў паміж Літвой і крывічамі, палітычных, эканамічных, вайсковых, шлюбных. Цікава, што амаль такой палітыкі мірнага саюзу, але толькі ў адносінах да полаўцаў, прытрымліваліся Ольгавічы — князі ноўгарад-северскія, чым адводзілі полаўскую пагрозу ад свайго княства.

Таму можна сцвярджаць, што з ведама Уладзіміра Усевалад нападаў на смаленскія і пскоўскія землі. І тут Уладзіміра было цяжка «схапіць за руку», абвінаваціць яго ў парушэнні міру з суседнімі княствамі, а значыць, пачаць з ім вайну. Як правіла, літоўскія набегі адбываліся з Полацкай зямлі, што пасля дало падставу гісторыкам сцвярджаць, нібыта Полацкае княства ў канцы XII стагоддзя настолькі аслабела, што падпала пад уладу Літвы. Паведамленне Генрыха Латвійскага ў многім абвяргае гэты міф. Характэрна, што рускія князі так і не здзейснілі ніводнага паходу на Літву праз Полаччыну. Відаць, полацкія князі, якія былі не зацікаўлены ў паражэнні Літвы, проста не прапускалі іх праз свае землі. З цягам часу Полаччына вельмі часта атаясамліваецца ў рускіх летапісах з Літвой. У 1229 годзе Яраслаў Суздальскі, бацька Аляксандра Неўскага, «иде... Смоленску на Литву и Литву победи, а князя их изыми». Гэтым «літоўскім князем» быў ніхто іншы, як полацкі і смаленскі князь Святаслаў Мсціславіч, які аб'яднаў з дапамогай палачан смаленскіх і полацкіх крывічоў у адну дзяржаву.

Біскуп Альберт, які вельмі ўважліва сачыў за падзеямі на Полаччыне, хутка здагадаўся аб ролі Усевалада ў полацкай палітыцы. «Герцыкскі кароль заўжды быў ворагам рыжан, змагаючыся з імі і не жадаючы заключыць мір»,— сведчыць Генрых Латвійскі. Восенню 1209 года біскуп збірае вялікае войска з усёй Лівоніі, да яго далучаюцца нямецкія каланісты з Рыгі, пілігрымы, рыцары, атрады хрышчаных ліваў і лэтаў. Супрацьстаяць гэтым полчышчам Усевалад быў не ў сілах. Крыжакі разбілі ягоную дружыну і ўварваліся ў Герцыке.

Як і ў выпадку з Кукейносам, біскуп Альберт зрабіў выгляд, што напад адбыўся без ягонага ведама і выказаў жаданне заключыць з Усеваладам мір, вярнуць палонных і нарабаванае дабро. Зноў імкненне не развязваць вайны з полацкім князем, які паводле тагачасных законаў павінен быў бараніць свайго васала. Для Усевалада гэты «грасмайстарскі ход» не быў таямніцай, ён разумеў, што біскуп навяжа яму сваю волю, як і Вячку, але выйсця не было. Толькі згадзіўшыся з умовамі Ордэна, Усевалад мог вызваліць з няволі сваю сям'ю. Герцыкскі князь прыехаў у Рыгу. Непрыемнай была для яго сустрэча з Альбертам. Прыйшлося і прыніжацца перад святаром, казаць, «што агнём і мячом тэўтоны вельмі жорстка пакаралі яго», і прасіць «забыць мінулае зло». «Калі ты згодзішся ў далейшым пазбягаць зносін з паганцамі, не будзеш разам з літвінамі ваяваць зямлю тваіх рускіх хрысціян, калі ты згодзішся аддаць сваё каралеўства ў вечны дар царкве святой Марыі...» — вось пры такіх умовах Усевалад мог атрымаць назад палонных і заключыць мір з крыжакамі. Ён згаджаецца, абяцае «заўсёды быць верным царкве святой Марыі, пазбягаць зносін з паганцамі і быць саюзнікам рыжан».

«Тым не меней у далейшым ён працягваў удзельнічаць у задумах літоўцаў»,—адзначае Генрых Латвійскі. Так, Усевалад і не збіраўся служыць Ордэну, хоць вонкава і выконваў мірныя ўмовы. Ужо праз год літоўцы нападаюць на Рыгу. У 1211 годзе яны двойчы ваююць ордэнскія землі. Канечне, натхняў гэтыя паходы Усевалад, які прагнуў адпомсціць тэўтонам за разрабаванне Герцыке.

Першым з рускіх князёў ён разумее, што змагацца з крыжакамі паасобку нельга; толькі сумеснымі сіламі ўсходніх славян і літоўцаў можна разбіць Ордэн. Не без ведама Усевалада ягоны цесць Даўгерут з багатымі дарамі едзе ў Ноўгарад і заключае там саюз. На зваротным шляху Даўгерут быў схоплены крыжакамі і кінуты ў цвержу, дзе ён пакончыў сам з сабою, працяўшы сябе мячом. Ордэну становіцца вядома, што герцыкскі кароль «увесь час дапамагае літвінам і парадаю, і справаю», і з адабрэння біскупа крыжакі нечаканым нападам захопліваюць Герцыке. Усеваладу ўдаецца выратавацца. Перачакаўшы ў літоўцаў крыжацкае нашэсце, ён вяртаецца ў родны горад. Тут ён даведваецца, што рыцары зноў выправіліся на яго. Усевалад шле вестуноў да літоўцаў, але дапамога спазнілася. Крыжакі захопліваюць замак. Ёсць звесткі, што Усевалад загінуў у баі. Хоць Генрых Латвійскі і нагадвае ягонае імя ў 1225 годзе сярод тых, хто прыехаў у Рыгу на сустрэчу з папскім легатам, але хутчэй за ўсё крыжацкаму храністу было непрыемна заносіць на старонкі летапісу факт здрадніцкага забойства рыцарамі ордэнскага паданнага, бо чым можна вытлумачыць, што амаль за дзесяць гадоў ён ні разу не нагадаў імя герцыкскага князя. Змірэннем Усевалада? Нешта не падобна, каб ён — зацяты вораг крыжакоў — мог змірыцца з іхняй уладай над сабою.

На гэтым можна было б і скончыць апавяданне пра Усевалада, «караля з Герцыке», калі б вобразы полацкіх князёў Вячкі і Васількі (Усевалада) не натхнялі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя рускіх патрыётаў на барацьбу з нямецкім засіллем у Расіі. Як вядома, пры царыцы Ганне Іванаўне катастрафічных памераў дасягнуў уплыў нямецкіх выхадцаў з Лівоніі пры імператарскім двары. У дзяржаўных справах, у войску, у культуры і навуцы, эканоміцы — усюды рэй вялі немцы. Адным з актыўных змагароў супраць іх быў дойлід Яропкін, які добра ведаў мінулае старажытнай Русі, збіраў летапісы і даўнейшыя дакументы (менавіта ў яго Тацішчаў бачыў Полацкі летапіс). Ён, як лічаць гісторыкі, і сачыніў так званую аповесць пра Святохну. Гэтая аповесць, пададзеная як сапраўдны Полацкі летапіс, распавядала аб барацьбе палачан — у падтрымку Вячкі і Усевалада — з немцамі. Нашых продкаў падтрымлівала княгіня Святохна. Адразу ж праглядваюцца аналогіі з цараваннем Ганны Іванаўны. Яропкін гэтым творам нібы агітаваў рускіх дваран учыніць так, як некалі палачане,— выгнаць ад сябе чужынцаў. Кнігу Тацішчава, у якой ён надрукаваў гэта аповяд, царыца забараніла. А пасля смерці Ганны Іванаўны рускія дваране скарысталі «параду» Яропкіна і здзейснілі палацавы пераварот, у ходзе якога і былі зняволены многія ўплывовыя саноўнікі-немцы.

Гісторыя не канае ў нябыт. Яна жыве з народам у ягоных паданнях, спевах, культуры, памяці. Подзвігі і дзеянні продкаў натхняюць іхніх нашчадкаў на новыя подзвігі і дасягненні. І ў суровы для народа час у гісторыі сваёй шукае ён падтрымку і сілы. Ці не пра гэта сведчыць і апавяданне пра Усевалада, «караля з Герцыке»?



# НЕКАЛЬКІ НЕВЯДОМЫХ СТАРОНАК З ГІСТОРЫІ АЙЧЫННАГА РОКУ

*Музычны праспект*

Уладзіслаў АХРОМЕНКА



Гітарыст групы «Алгарытмы» Уладзімір БЯЛЯЕЎ

## I

Даўно гэта было — у той самы бясхмарны час, калі толькі-толькі ўваходзілі ў моду пацёртыя джынсы, калі першыя мадэлі «Жыгулёў» яшчэ былі навіною, калі ў светлыя хвіліны жыцця казалі не «нішцяк», а «хіпова», калі па радыё і тэлебачанні пастаянна круцілі песню «Малая Зямля», калі ў нядобрыя аддзелы магазінаў не выстройваліся кіламетровыя чэргі, калі ўсе мы нават не падазравалі пра карупцыю, наркаманію, прастытуцыю і фарцоўку...

У жыццё ўступала новае пакаленне. Сумленна і даверліва, з пачуццём здаровага аптымізму глядзела яно ў жыццё. Аднак, калі яно больш пільна ўгледзелася ў гэтае жыццё, дык выявілася, што яно не такое ўжо і светлае: пакаленне завучвала на памяць вершы пра маральную чысціню, сумленнасць і высакароднасць — і добраахвотна-прымусова ішло на суботнікі, сходы і дэманстрацыі, кожную гадзіну чула пра «новае духоўнае аблічча савецкага чалавека» — і сутыкалася часам у цёмных пад'ездах з нецвярозымі і агрэсіўнымі тыпамі, за нешматлікія гадзіны, адведзеныя праграмаю Багдановічу і Пушкіну, вывучала чарговы опус саноўнага графамана. Грамадства працяў вірус карыслівасці, двудушша і вульгарнай паказухі, і гэта было бачна ўсім.

Так раскалолася свядомасць — на «праўду для сябе» і «праўду для агульнага карыстання». Адны «ўпісаліся ў сістэму» амаль без болю — і праўда, можна пражыць усё жыццё «як усе» — без валідолу, бяссонніцы і непрадбачаных непрыемнасцей.

Другія наадварот — «упісаліся ў сістэму», адштурхоўваючы народ локцямі, лезлі на трыбуну, скандзіравалі лозунгі і рухаліся паступова наперад, па галовах тых, хто стаяў унізе.

Трэція ўдарыліся ў «салодкае жыццё»— у фарцоўку, віно, дарагіх жанчын і іншае, цвёрда памятаючы, што «грошы вырашаюць усё».

Частка пакалення (найменшая, але, бясспрэчна, не найгоршая) вырашыла, што адзінае выйсце — паўпасіўны адыход з рэчаіснасці. Адгадаваўшы доўгія валасы («хаер»), з дваццаццю капейкамі ў «ксіўніку», бадзяліся яны па прасторах нашае неабдымнае айчыны, наводзячы сваім выглядам жах на звычайных грамадзян. Часам яны нават працавалі (дворнікамі, начнымі вартаўнікамі ці качагарамі ў кацельнях), але пераважна жылі «на аску».



Бітнікі 70-х

Маліліся адначасова на Хрыста, Буду і Джона Ленана. Бывала, гуртаваліся ў камуны, жывучы там па некалькі месяцаў, а пасля, раптам усё кінуўшы, «стóпілі» машыну і знікалі адсюль назаўжды.

Іх называлі «валасацікамі», «хіпарамі», «сацыяльна шкоднымі элементамі», іншы раз нават — «люмпен-інтэлектуаламі». Яны ж называлі сябе «сістэмаю». Так гадоў дваццаць таму ў нас з'явіліся хіпі.

Айчынны хіпізм як сацыяльная з'ява яшчэ мусіць быць дэталёва асэнсаваны і прааналізаваны. А пакуль відавочна адно: людзі, якія звязалі сваё жыццё з «сістэмаю», хацелі ў што-небудзь верыць — перш за ўсё ў чысціню і шчырасць чалавечых адносін — і, не ўпісаўшыся ў сістэму штодзённай афіцыёзнай хлусні, стыхійна стварылі сваю.

Многія з айчынных паслядоўнікаў хіпізму і сёння свята вераць у бясспрэчнасць сваіх пазіцый. Самыя ж лепшыя з іх філосафы нарэшце зразумелі, што банальная ісціна аб немагчымасці жыць у грамадстве і быць ад яго вольным распаўсюджваецца і на хіпі. Абсалютнае бязвер'е канчаецца зазвычай альбо рванымі венамі і «залётамі ў дурку», альбо «вяртаннем на кругі свая».

«Грамадская думка» адрэагавала менавіта так, як таго і варта было чакаць: «Гэта ў нас хіпі? Ды быць таго не можа! Вось у іх, на Захадзе...» і г. д. Аднак калі на сам факт існавання хіпізму як з'явы ўжо нельга было заплюшчваць вочы, «грамадскасць» ажыццявіла запознены акт грамадзянскае мужнасці і «прарэагавала». Механіка абывацельскага мыслення — «яны не такія, як усе — ату іх!» — выявілася ў некаторых бульварных публікацыях цэнтральнага друку, дзе сур'ёзны, удумлівы аналіз падмяняўся дэманстрацыяй найглыбейшае пагарды і «высакароднага» абурэння.

І ўсё-такі «сістэма» канца шасцідзесятых — пачатку-сярэдзіны сямідзесятых была хіпізмам у звычайным сэнсе слова хіба што з пэўнай агаворкаю. Хутчэй — антыхіпізмам, бо ў адрозненне ад адкрытае пасіўнасці і дармаедства сённяшніх хіпі, тыя спрабавалі стварыць прынцыпова новую духоўную культуру, не падобную на прыпадачную афіцыёзную хлусню, узведзеную ў культ. І такой культураю стаў рок. Так, хіпі пятнаццаці — дваццацігадовае даўнасці мы абавязаны ўзнікненнем некамерцыйнай рок-музыкі. Менавіта з дапамогаю рок-музыкі ажыццяўлялася спроба стварыць універсальны назоўнік усяго пакалення.

У той час дзядзькі і цёткі з прыхільнікаў «маральнага аблічча» яшчэ не здагадаліся дыскрэдытаваць рок слоўцам «эстрада», а «папсавікі» з эстраднікаў не пісалі «рок-група» на афішах, каб заманіць на свае канцэрты шырокія масы. З'ява была цнатліва чыстая і незаганная. Рок у СССР быў пераважна некамерцыйны і развіваўся стыхійна. У кожным буйным горадзе з'явіліся спярша па пяць-шэсць, а пазней — па некалькі дзесяткаў рок-груп. У Маскве — «Сокал», «Эдэльвейсы», у Ленінградзе — «Кронверк» і легендарны «Санкт-Пецярбург». З'явіліся свае рок-групы і ў Мінску.

## II

Час дзеі — канец шасцідзесятых — пачатак-сярэдзіна сямідзесятых гадоў. Месца дзеі — Мінск.

Галоўныя дзейныя асобы — першыя беларускія рок-групы «Арганаўты», «Алгарытмы», «2+2», «Залатыя яблыкі Сонца», «Гусляры», «Свінары», «Пане-браце», «Факіры», «Эльфы»...

Першы фестываль біту прайшоў у Гродне яшчэ ў 1965 годзе. Безыменны рок-летапісец у самаробным часопісе (даведачная літаратура аб року тады была такім самым дэфіцытам, як і цяпер) так абмалёўвае гэтую падзею: «Біт-музыканты былі агульнымі любімцамі, і многія лічылі за гонар паднесці і дапамагчы ўсталяваць апаратуру... Аднаго разу канцэрт праходзіў у такіх умовах: пры дапамозе прыхільнікаў на беразе ракі была выстаўлена апаратура, ад лініі электраперадач цягнуліся незлічоныя правады да гітар, узмацняльнікаў і калонак. Невялікі насып насупраць хутка запаўняўся валасатымі і дужа эфектна апранутымі аматарамі біт-музыкі з простымі гітарамі, якія яны выкарыстоўвалі ў якасці барабанаў. Увесь канцэрт суправаджаўся бясконцым гулам і ўсеагульным адабрэннем прысутных...»

У той час рок часцей за ўсё называлі бітам (нагадаю, брытанскія калегі «Алгарытмаў», «Арганаўтаў» — «Бітлз» — ігралі так званы «белы біт»). Аднак з пачатку-сярэдзіны сямідзесятых ненавісны тэрмін з класава чужога лагера — «біт-група» — быў заменены кімсьці на ВІА (што ўжо само па сабе непісьменна: любы оперны спектакль, любы выканаўца рамансаў з акампаніятарам адпавядаюць гэтаму паняццю — раз ёсць і вакал, і інструментарый, якія гучаць у ансамблі).

У 1968 і 1972 гадах фестывалі біту адбыліся ў Мінску. Пасля першага, які прайшоў у МРТІ, рокмены горада загаварылі пра «Алгарытмаў», «Арганаўтаў», «Факіраў», «2+2» і пра біт-музыкантаў — У. Кандрусевіча, Г. Старыкава, У. Бяляева...

Безумоўна, першапачатковым пунктам у творчасці ўсіх айчынных (не толькі мінскіх) біт-груп стаў брытанскі рок. Летнімі вечарамі у дварах і альтанках зацята спявалі пад простыя гітары «Yesterday», «Yellow submarine» ці «Gire». «Ролінг Стоўнз», «Ху», а галоўнае «Бітлз» былі ўсеагульнымі кумірамі, і не граць іхнюю музыку лічылася проста благім тонам. У гэтым не было нічога дзіўнага: па-першае, кожная новая з'ява ў мастацтве пачынаецца з асэнсавання папярэдніх, а па-другое, прапагандавалася тое сапраўды каштоўнае, што было створана тады ў жанры.

У той час лічылася, што сапраўдны біт магчымы толькі на англійскай мове, і спачатку мінскія рокмены старанна «здымалі» з пласцінак любімыя кампазіцыі. Трохі пазней пачалося паўсюднае захапленне ўласнымі англамоўнымі тэкстамі — і рок-музыканты заселі за падручнікі англійскай мовы і слоўнікі. Тут усіх абышлі «Пане-браце»: у гадавіну стварэння «Бітлз» яны далі канцэрт, складзены з рэпертуару «ліверпульскай чацвёркі» і ўласных англамоўных опусаў. Публіка, пераважна «валасатыя і дужа эфектна апранутыя аматары біт-музыкі», віталі праграму на «ўра». (Рэзананс быў такі вялікі, што на гэтае выступленне адгукнулася нават газета нашых польскіх сяброў — «ZM».)

Яшчэ пазней мінскіх рокераў пацягнула пісаць тэксты на рускай мове, і больш за астатніх тут папрацавалі «Алгарытмы» і «Арганаўты». Тэксты складаліся самыя разнастайныя — пра кветкі, сонца, віно. І, вядома, пра каханне.

Пісаць пра каханне цяжка. Вельмі цяжка. Сёння тэма любоўнае лірыкі такая заштампаваная, што большасць песень успрымаецца як ледзь не пародыі. Яшчэ А. Купрын у «Паядынку» заўважыў, што «з кахання зрабілі тэму для брудных, памыйных аперэтак».

Вось так пісалі і спявалі пра каханне «Арганаўты»:

«Вижу я тебя и хочу напиться
Той любви большой, полной чар и ласки,
Эту ночь с тобой я провел как в сказке» і г. д.

Безумоўна, гэта не «высокая паэзія», дый не прэтэндавалі на гэта рокмены. Галоўнае іншае: тэксты гэтыя досыць дакладна адлюстроўвалі настрой тае часткі пакалення — імкненне да нейкага чыстага і незаганнага ідэалу, да ўсеагульнае любові (красамоўны такі факт — калі ясным летнім днём 1971 года мінскіх хіпі «забіралі» «за абразу сваім знешнім выглядам працоўных», яны сядалі ў міліцэйскія фургоны спяваючы «Бітлз» і ўсклікваючы нешта накшталт «Міліцыя, мы вас любім!»).

Наша заўсёды і на ўсё гатовая мастацкая крытыка вынайшла цэлы шэраг тэрмінаў на ўсе выпадкі жыцця. Адзін з іх — «сацыяльная накіраванасць». Дарэчы, некаторыя песні мінскага біту дваццацігадовае даўнасці дакладна яму адпавядалі:

Скажи, зачем открыта эта дверь
И мне войти туда нельзя?..

Ці:

Что же вам сказать могу я о себе,
Если сам не знаю, кто я есть такой?
Щедр бываю, скуп бываю, а просто— никакой...

З гэтага моманту на авансцэну выходзяць галоўныя процідзейныя асобы.

## III

Адным з асноўных далакопаў айчыннага року 70-х стала наша музыказнаўства, а дакладней, тая яго частка, што называецца поп-крытыкай. Перачытваючы крытычныя опусы тых гадоў, міжволі згадваеш словы Панікоўскага з «Залатога цяляці»: «...гарадавы... добры быў чалавек. Прозвішча ў яго было Нябаба Сямён Васільевіч. Я яго нядаўна сустрэў. Ён цяпер музычны крытык...» Калі прамаўляліся ўголас словы «рок» ці «біт», айчынныя поп-крытыкі з неверагоднай хуткасцю пераўтвараліся ў гарадавых, а сам будынак папулярнага музыказнаўства — у нешта накшталт паліцэйскага ўчастка.

Згадайце тагачасную перыёдыку. Згадайце і жахніцеся. Знайсці сур'ёзны матэрыял аб рок-музыцы практычна немагчыма. Фатаграфія «Бітлз», напрыклад, упершыню была апублікавана ў нас ў краіне толькі ў 1974 годзе, і чамусьці ў «Кракодиле». (Нагадаю: па тэлебачанні «Бітлз» упершыню былі паказаны толькі ў 1986 годзе.)

Паведамленні аб грандах сусветнае рок-культуры — «Лэд Зэпэлін», «Блэк Сабат», «Ролінг Стоўнз» і іншых — зрэдзьчасу публікавалі цэнтральныя маладзёжныя выданні, прычым паведамленні былі пераважна пазамузычнага характару: хто і колькі атрымаў за канцэрт, хто з музыкантаў і колькі разоў за дзень ужывае наркотыкі (цікава, як можна з году ў год выступаць на сцэне і ўжываць наркотыкі?). Асабліва смакаваліся самазабойствы слухачоў року, якія нібыта перыядычна адбываюцца ў час і пасля канцэртаў зорак айчыннае эстрады. Калі выкласці квінтэсенцыю ўсяго, што пісалася ў той час пра заходні рок, то выглядала б яна прыкладна так: «Усе заходнія рок-музыканты — гэта доўгавалосыя наркаманы, якія спяваюць свае гнюсныя кампазіцыі на плоскім жаргоне, пераважна пра наркотыкі; рок як жанр вядзе нейкую шкодніцкую і мэтанакіраваную дзейнасць супраць нашае ідэалогіі. Усё сусветнае зло — няхай гэта будуць міні-спадніцы ці штаны клёш, сацыяльная імпатэнцыя камсамола ці пасіўнасць моладзі, паводка ў Кітаі ці землятрус у Гандурасе,— усё гэта справа рук рокераў, нахабных, зламысных і бессаромных, і ўвогуле: ад року да рака — адзін крок».

Зусім відавочна, што ніякага року ў нашай краіне быць не павінна. («Мы, разумееце, такія нецярпімыя да праяў буржуазнай псеўдакультуры — загнівае ж! — і раптам рок нейкі!..»)

Сёлета ўзімку мне давялося грунтоўна пагаварыць з Генадзем Зайцавым, адным з ініцыятараў і першым старшынёю ленінградскага рок-клуба, цяпер — адміністратарам рок-групы «ДДТ». Мы сядзелі з Генам на кухні ягонай камуналкі і пілі гарбату. Між іншым я пацікавіўся, якое думкі першы старшыня першага ў краіне рок-клуба пра айчынную рок-крытыку.

— А хіба яна ў нас ёсць? — здзівіўся Генадзь.— Абсалютная большасць публікацый ніжэй усялякай крытыкі. Пішуць жа ўсе, хто толькі не лянуецца — педагогі сярэдніх школ, журналісты, міліцыянеры... Што яны могуць напісаць пра рок?..

Адсутнасць пісьменнай рок-крытыкі стымулявала крайне негатыўнае стаўленне да жанру. У тым самым Ленінградзе Ю. Шаўчук, лідэр «ДДТ», расказаў мне, як яшчэ ва «ўфімскі» перыяд яго выклікалі ў міліцыю з мэтаю ўзяць распіску аб тым, што ён не будзе больш займацца рокам; Б. Грабеншчыкова ў свой час выключылі з камсамола; сур'ёзныя непрыемнасці мелі многія іншыя рок-музыканты.

Мінскія рок-групы былі пастаўлены ў аналагічныя ўмовы. Некалькі чалавек выключылі з ВНУ. Астатнім далі зразумець, што выключэнне з ВНУ — яшчэ не самае страшнае, што іх чакае. Лішне казаць, што абсалютна ўсе рок-групы былі да-



рэшты пазбаўлены сцэны (значыцца, і аўдыторыі). Не хапала апаратуры — «самапальная», сабраная з побытавых радыёпрыбораў, што аджылі ўжо свой век, і частак, набытых у краме «Зрабі сам», ламалася праз кожныя 2—3 канцэрты. Сёй-той спрабаваў рабіць падпольныя канцэрты на кватэрах і ў сутарэннях — іх хутка знаходзілі і разганялі. Голы энтузіязм, на якім трымаўся самадзейны біт, паступова згасаў.

Дадайце да гэтага шалёнае цкаванне ў газетах і часопісах, касыя позіркі бацькоў, суседзяў і педагогаў, позвы ў міліцыю... І народ не вытрымліваў. У сярэдзіне сямідзесятых абсалютная большасць біт-груп перасталі існаваць, і толькі нямногія апусціліся да ўзроўню філарманічных ВІА ці ансамбляў, якія гралі «попсу» сумніцельнай якасці ў «кабаках», «клетках» або ДК.

Цемрашалы трыумфавалі: «Року ім захацелася! Ды на Калыму б вас усіх, лес валіць...» На Калыму, вядома, не пасылалі, але лёгка не было.

Давайце згадаем, што ж прапаноўвалася ўзамен? Незлічоныя варыяцыі на тэму любоўнае лірыкі (дзе само паняцце прэпаравалася на ўзроўні свядомасці правінцыйнага абывацеля), поўная адсутнасць думак (памятаеце — из полей уносится печаль, из души уходит прочь тревога. Впереди у жизни только даль, полная надежд моих дорога»)...

Музычная мова гэтых песень надзіва ўбогая — адны і тыя ж самыя інтанацыйныя хады, якія ўдала кламіся на слых у адных кампазіцыях, нязменна сустракаліся і ў астатніх. Не бяда, калі розуму і таленту не хапае нават на гэта — ёсць вялікая класічная спадчына, яна вывезе, не дасць памерці з голаду. Так, напрыклад, адмысловае майстэрства выявіў аўтар шлягера канца 70-х «Танца на барабане», узяўшы за аснову іспанскі раманс у гітарнай апрацоўцы Гомеса, і толькі збольшага змяніўшы яго рытмічна.

Аднак рок, няхай меней, чым на пачатку 70-х, у нашай краіне ўсё ж такі існаваў. І функцыянеры ад культуры хутка знайшлі выйсце: рок залічылі ў плынь «эстрады» — і праўда, чаго яшчэ чакаць ад эстрады, якая існуе толькі дзеля забавы?

## IV

Дык што ж такое рок? Я задаваў гэтае пытанне журналістам, музычным крытыкам, педагогам роднай Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, проста аматарам музыкі. Самыя папулярныя адказы былі: «Ну як што? Эстрада, вядома...», «Буржуазная масавая культура», «Музычны наркотык». Толькі Юрый Шаўчук, напэўна, адказаў дакладна: «Разумееш, для мяне рок — гэта лад жыцця і лад думкі».

Сапраўды, наш айчынны рок — мастацтва перш за ўсё сацыяльнае. Для яго няма забарон, табу, унутранага цэнзара. Рок не прызначаны быць забаваю, як эстрадная музыка, ён апелюе не толькі да падсвядомага, але і да думкі. Я не ўяўляю, як можна забаўляцца пад «ДДТ» ці «Навуцілус-Пампілівус». Сучасная рок-музыка — сінтэтычны жанр, які ўключае часам, апроч музыкі, элементы хэпэнінгу і тэатралізацыі, бліжэй за ўсё да фальклору — інакш кажучы, да таго, што ствараецца і выконваецца непасрэдна народам.

Эстрада ж па сваёй сутнасці — мастацтва камерцыйнае. Для камерцыі, вядома, галоўнае — вялікія прыбыткі. Каб стаць папулярным, трэба спадабацца масаваму слухачу. З прычыны ўсё большае папулярнасці нефіларманічнага року («Бонда», «ДДТ», «Навуцілус-Пампілівус», «Аліса», «Тэлевізар» і іншыя) эстрада ўзялася ўтылізаваць сапраўдны рок. Вось асноўныя спосабы стварыць музычную «попсу» а ля рок.

Канцэртная арганізацыя выцягвае з нетраў «андэграўнда» больш-менш вядомую нефіларманічную групу. Калі ў музыкантаў няма ні сумлення, ні грошай, яны з радасцю згаджаюцца. Групу слухае мастацкі савет і па-добраму раіць ёй, што трэба выключыць з рэпертуару, а што дадаць. Потым група падмяняецца і ператвараецца ў магутны агрэгат па выпампоўванні грошай у Палацах спорту і на стадыёнах. Пры гэтым неадменна кажуць: «Выступае рок-група». Слова «рок» цяпер у модзе. Народ валам валіць у касы, а канцэртная арганізацыя падлічвае прыбытак.

Сёння да гэтае механікі падключыўся кінематограф, і рок-музыканты, самі таго не падазраючы, робяцца прынадаю для «попсавых» кінастужак.

Але і такі, з дазволу сказаць, «рок» становіцца аб'ектам нападаў і нават адкрытай лаянкі. Выцягваюцца ярлыкі, надзіва падобныя на тыя, што прыклейваліся на Шастаковіча, Мяскоўскага і Хачатурана па справе «Аб оперы «Вялікая дружба» В. Мурадэлі (пастанова 1948 года). Усё тая ж «безыдэйнасць», усё тая ж «прыхільнасць да буржуазнай ідэалогіі, якая падмацоўваецца ўплывам сучаснага псеўдамастацтва». Нядаўна замест старых, дужа ўжо спарахнелых, прыдумалі новыя ярлыкі. Далей за ўсіх пайшоў А. Даронін, які адкрыта абвясціў са старонак «Молодой гвардии» (верасень 1987 года): «Рок — гэта не проста музыка, гэта рэлігія зла, якая мае велізарную разбуральную сілу. Гэта наркотык і шлях да наркаманіі». Не ведаю, як вам, але мне гэта даследаванне цёмных сіл, што пагражаюць гібеллю ўсяму жывому, чамусьці нагадала пратаколы іспанскае інквізіцыі часоў Тарквемады...

## V

Безумоўна, сёння мы знаходзімся ў нашмат лепшым становішчы, чым дзесяць гадоў назад. Рок спакваля атрымлівае грамадскае прызнанне. Выпусцілі свае дыскі «Акварыум», «Тэлевізар», «Заапарк», «Аліса». Рыхтуюцца да выпуску альбомы «ДДТ», «Навуцілуса-Пампілівуса», «Бонды».

«Рэнесанс» некамерцыйнага року, які пазначыўся на Беларусі ў пачатку-сярэдзіне 80-х у асобе «Зарціпо», «Мроі», «7 герц», «Магістрата» і тае самае «Бонды»,— з'ява, якая прынцыпова адрозніваецца ад біт-музыкі канца 60-х — пачатку 70-х. Чакае гэтых хлопцаў лёс іхніх папярэднікаў ці не, створаць яны што-небудзь творча арыгінальнае ці асімілююцца з музычнай камерцыйнай індустрыяй,— пра гэта гаварыць не будзем. Гэта пакажа час.

А пакуль трэба вырашаць іншыя праблемы. Процьма падманлівай інфармацыі спарадзіла ў тых, каму «шаснаццаць і болей», сіндром негатывізму ўспрыняцця: «калі гэта забараняюць — значыцца, гэта добра», і тыповая праява гэтага сіндрому — баявы заклік, што пранёсся некалькі гадоў таму па ўсіх гарадах і вёсках: «Лічыце мяне металістам!» Вядома, не толькі маладзёжны негатывізм нараджае хэві-металістаў, але і гэты момант нельга не ўлічваць. Мне часам здаецца, што калі б на бяздарна спланаваных і надзіва нудных уроках «музыкі і спеваў» праходзілі б «Саксон», «Металіку» ці «Джудас Прыст», а сродкі масавай інфармацыі мэтанакіравана лаялі б класіку, «металюгі» ахвотна б слухалі Стравінскага, Хіндэміта ці Чайкоўскага.

І апошняе.

Тым, з каго пачыналася на Беларусі рок-музыка, як і ўсёй «сістэме» канца 60-х — пачатку 70-х, прадракалі самую жахлівую будучыню — будучыню дысідэнтаў, тэрарыстаў, наркаманаў або ў лепшым разе дармаедаў. Сёння сярод «тых» — вядомы беларускі кампазітар, педагогі музычных і агульнаадукацыйных школ, інжынеры, мастакі, рабочыя — інакш кажучы, грамадзяне нашай краіны, якія сумленна выконваюць свой абавязак перад грамадствам. Час расставіў усё па сваіх месцах...





















# КАРАЛЕЎСТВА «КУІН»

17 гадоў на рок-сцэне ў нязменным складзе. 17 гадоў актыўнай творчай дзейнасці і любові слухачоў, якая не слабее. Калі дадаць да гэтага 100 мільёнаў прададзеных пласцінак, то становіцца ясна, што перад намі відавочна не радавая група.

Упершыню «Куін» («Каралева») заявіла аб сабе выхадам у 1973 годзе сваёй першай пласцінкі, якая так і называлася: «Куін 1».

Ужо гэтая работа ансамбля засведчыла, што ў рок-музыку прыйшоў новы арыгінальны калектыў з уласцівай толькі яму манерай выканання. Але незвычайнай была не толькі манера выканаўцаў. Незвычайным было само з'яўленне гэтых чатырох сімпатычных пачаткоўцаў на рок-падмостках. Дыпламаваны мастак-ілюстратар Фрэдзі Мэркюры (сапраўднае імя Фрэдэрык Булсара) ні з таго ні з сяго ўзяў мікрафон і заспяваў — ды яшчэ як! Інжынер-электроншчык Джон Дзікан, забыўшыся на свой дыплом, узяў у рукі бас-гітару. Досыць дзіўна выкарыстаў свае веды і біёлаг Роджэр Медаўз-Тэйлар, які сеў за ўдарныя. А астраном Браян Мэй, мабыць, вырашыў шукаць сваёй зоркі на зямлі і без ваганняў памяняў тэлескоп на электрагітару.

Другая пласцінка групы ўяўляла сабой адзіную сюіту, якая распавядала пра барацьбу дабра і зла. Увасабленнем дабра стала белая каралева, зла — чорная. Калі першы альбом яшчэ насіў адбітак пэўнае традыцыйнасці ігры, якая склалася на той час у рок-музыцы, дык у «Куін 2» была зроблена сур'ёзная заяўка на тое, каб пакінуць за групаю права называцца першапраходцам на новай музычнай сцяжыне. З таго часу і пачаліся спрэчкі вакол творчасці музыкантаў. Адны лічылі іх наватарамі, другія адмаўлялі ім у гэтай годнасці. Адны ўзводзілі музычны стыль ансамбля ў эталон, захапляліся дзіўным голасам Фрэдзі Мэркюры. Другія вінавацілі групу ў вычварнасці і манерніччанні, у імкненні да арыгінальнасці любой цаною, у няўменні выкарыстоўваць студыйную апаратуру не злоўжываючы яе магчымасцямі, а «цудоўныя» песні Мэркюры аб'явілі ўсяго толькі вакальнымі практыкаваннямі.

У лістападзе 1974 года ў свет выходзіць «Сардэчны прыступ» — і робіцца бестселерам, а песня «Каралева-забойца» займае 1-е месца ў хіт-парадзе Англіі. У гэтым альбоме ўжо ў поўнай меры раскрыліся кампазітарскія таленты Мэркюры і Мэя. Аднак тэксты песень па-ранейшаму былі досыць банальныя, а музыка — неапраўдана перагружаная.

Асобна ў творчым развіцці групы стаіць «Вечар у оперы» (1975). У ім музыканты паспрабавалі данесці да нас атмасферу музыкі мінулых гадоў. Тут прысутнічае і рок-н-рол («Смерць на дзвюх нагах»), і свінг 30-х гадоў («Рандэву на беразе мора»). Электрагітара часта замяняецца акустычнай. А ў другой палавіне альбома даволі смела гучаць цэлыя кавалкі оперна-апэрэтачнага характару, прызначэнне якіх не так узбагаціць музыку, як лішні раз прадэманстраваць увесь дыяпазон вакальных магчымасцей Фрэдзі Мэркюры. У цэлым альбом выйшаў цікавы. Многія песні з яго лірычныя і знешне простыя — у традыцыях «Бітлз».

Не меншыя лірызм і выразнасць былі ўласцівыя і лепшым кампазіцыям з наступнай пласцінкі групы «Дзень на скачках» (1976). Але побач з імі стаялі і відавочна слабыя рэчы. Менавіта іх і меў на ўвазе крытык Філ Макніл, калі даваў досыць бязлітасную, але справядлівую ацэнку: «Тэксты песень такія разнастайныя, што здаюцца ўвогуле бессэнсоўнымі, у лепшым разе яны проста трывіяльныя. Тое ж можна сказаць і пра музыку. Або не надта цікавыя, але, прынамсі, жывыя рок-н-ролы, або прафесійна зробленыя, ды зусім бессэнсоўныя падробкі...»

Агульны крызіс хард-рокавага напрамку не мог не закрануць і «Куін», музыка якой хоць і прынесла ў хард-рок багата свайго, але ўсё ж такі засноўвалася на агульных традыцыях гэтага стылю. Ужо з 1975 года кампазіцыі групы паступова пачынаюць страчваць свой былы «цяжар». Гэта добра прасочваецца і ў альбоме «Джаз» (1978). Тут ужо няма «металізаванай» гітары Мэя. Песні раўнейшыя, без таго рэзкага стылёвага кантрасту, што быў уласцівы папярэднім пласцінкам, на якіх руплівa спланаваны і вымераны суадносіны «хітаў» і прахадных рэчаў, чаргаванне «забойных» і лірычных тэм. «Мустафа» і «Веласіпедная прагулка» надаюць пласцінцы жартаўлівае гучанне, а адмысловая па выкананні «Рэўнасць» становіцца адною з лепшых песень групы.

Але калі «Джаз» толькі крыху выбіваўся са звычнае музычнае канвы, што, зрэшты, было ўласціва і «Вечару ў оперы», дык у двух наступных альбомах «Гульня» (1980) і «Гарачая прастора» (1982) музыканты самым рашучым чынам вырашылі абнавіць свой рэпертуар. У музыцы «Куін» раптам загучалі не ўласцівыя ёй рытмы дыска і фанкі. За гэтымі эксперыментамі прыхільнікам групы было складана разгледзець ранейшы твар ансамбля. Яшчэ больш складана было выявіць сапраўдныя творчыя знаходкі. І як вынік — рэзкае падзенне папулярнасці.

Але музыканты не сталі настойваць на далейшым эксперыменце. Бачачы, як сустрэлі іхнія пошукі, яны зноў вярнуліся ў наезджаную каляіну. У 1984 годзе яны выпускаюць чарговы альбом «Творы», прадстаўляючы які барабаншчык і прэс-агент «Куін» Тэйлар заявіў: «Гэта пераважна тое, чаго ад нас чакаюць». Але ён памыліўся. Прыхільнікі групы чакалі большага. І вось праз два гады выходзіць «Часцінка чароўнасці» — апошні на сённяшні дзень і адзін з найлепшых, на маю думку, альбомаў групы.

Але «Куін» — гэта не толькі студыйны эксперымент, гэта не толькі песні з пласцінак, гэта яшчэ і пастаянныя канцэрты, непаўторныя па відовішчнасці музычныя спектаклі, галоўная роля ў якіх адведзена Фрэдзі Мэркюры.

Уявіце сабе на хвілінку такую сцэну.

Дырыжор стукае палачкай. Павольна ўздымаецца заслона лонданскай «Роял Оперы», і грандыёзнае прадстаўленне пачынаецца. Шэсцьдзесят «першабытных» людзей кідаюцца ва ўсе бакі па пячоры, на вяршыні гары стаіць Мэркюры і гучна спявае песню «Зроблена на нябёсах». У той час як ён, апрануты ў трыко супермена, прымае гераічныя тэатральныя паставы і нават ажыццяўляе невялікі палёт, вакол яго ўспыхваюць маланкі і грыміць пярун, а ўся зямля злавесна трасецца. Нарэшце гара раскрываецца — і тут з'яўляецца зямны шар, на якім стаіць Мэркюры.

Каб паказаць па тэлебачанні гэтае чатыроххвіліннае відовішча, на тэлестудыі была пабудавана новая сцэна лонданскай «Роял Оперы». Гэта абышлося ў 300 000 фунтаў і стала самым дарагім прадстаўленнем у гісторыі року.

Найвышэйшым трыумфам на працягу семнаццацігадовай кар'еры «Куін» стала іхняе выступленне тры гады назад перад трохсоттысячнай аўдыторыяй на рок-фестывалі ў Рыо-дэ-Жанейра. У спаборніцтве з суперзоркамі Мэркюры бліскуча давёў, хто мацнейшы. Газеты застракацелі загалоўкамі: «Фрэдзі — чэмпіён», «Фрэдзі — кароль». І праўда, добрай паловаю свайго поспеху «Куін» абавязана спеваку. Але, нягледзячы на свой талент, на бурлівае прызнанне ва ўсім свеце сваіх сольных альбомаў, сам Мэркюры шчыра прызнаецца: «Я ніколі б не рызыкнуў развітацца з «Куін». Без яе я нішто».

І на самай справе, музыканты надзіва дапаўняюць адзін аднаго. Цяпер яны ўсе працуюць над сваімі сольнымі праектамі, пасля чаго плануюць выпусціць новую сумесную пласцінку.

Ігар ГУКОЎСКІ

Адам ГЛОБУС

# НАСУПЕРАК

ЭСЭ ПРА МАСТАЦТВА ПАРТРЭТА

ВЕРНІСАЖ



● Алесь КСЯНДЗОЎ — «...і той дзень прайшоў».

## ПАРАДОКС.

Перад мастаком-партрэтыстам стаяць два, на маю думку, асноўныя пытанні. Ці маляваць на продаж тых, каго захоча ўбачыць заказчык? Ці маляваць таго, каго пажадаеш, але тады ўжо самому разлічвацца з натуршчыкам?

З уласнага вопыту ведаю, што натуршчыкаў-альтруістаў няма. Нават дзеці не жадаюць спакойна пасядзець за проста так.

Атрымліваецца — калі мастак сумленны, ён павінен заўсёды сам выбіраць натуршчыка згодна са сваёй задумаю і адпаведна плаціць, але зарабіць грошы мастак можа толькі тады, калі выканае патрабаванні пэўнага фундатара. Адсюль і вынікае той сумны факт, што сумленных мастакоў-партрэтыстаў не можа існаваць, бо тыя, што ёсць, цалкам залежаць ад густаў тых, хто плоціць.

Абвергнуць гэты парадокс могуць толькі цудоўныя партрэты, створаныя незалежна ад жорсткасці ўмоў, напісаныя насуперак усемагутнасці фундатараў.

## ПРОФІЛЬ НА МАНЕЦЕ.

Большая частка партрэтаў, створаных мастакамі ўсіх часоў і народаў, гэта — выявы знакамітасцяў, каранаваных асоб, дыктатараў — карацей, усіх тых, хто меў магчымасць дыктаваць майстрам умовы працы. Гэтыя партрэты з'явіліся ў выніку матэрыялізацыі утапічных мар чалавека пра сваю несмяротнасць. Яны, партрэты, падтрымлівалі надзею на працягу жыцця і наіўнае жаданне перамогі над смерцю. Такія творы маюць максімальнае падабенства з арыгіналам, але падабенства тое, відавочна, скіроўваецца ў бок ідэалізацыі абрысаў. Самы яркі прыклад заказных партрэтаў, на маю думку,— профілі на манетах. Доказаў, спадзяюся, не трэба...

Калі задумвалася гэтае эсэ, была думка, што буду пісаць пра беларускі жаночы партрэт. Але, на жаль, ніводная беларуска не трапіла на манету. Асабіста ў мяне гэта не выклікае расчаравання. З мужчынамі іншая справа. Да 500-годдзя Францішка Скарыны абяцаюць выпусціць рубель з яго партрэтам, гэта і будзе першы беларус на манеце. Рубля таго я не бачыў і пра мастацкія вартасці гаварыць не выпадае.

На жаль, імёны майстроў, якія займаліся манетнымі справамі, звычайна заставаліся невядомымі. Асляпляльнае ззянне натуршчыкаў зацяняла мастака. Сапраўды, які ж мастак можа супернічаць сваёй значнасцю з каралём, ад якога цалкам залежыць? Ёсць, канечне, выключныя імёны, накшталт Дыега Веласкеса, але гэта ўжо жывапіс, а не залаты рэльеф.

## ПАЗАЛОТА НА РАМЕ.

Тыя з фундатараў, каму нехапала каштоўных металаў, каб увекавечыцца на манетах, заказвалі свой адбітак на палатне. У такім разе мастак адчуваў сябе больш вольным і меў магчымасць паставіць на выяве свой аўтограф. Але ўсе гэтыя парадныя партрэты застаюцца утылітарнымі: як паркетам засцілалі падлогу, гэтак партрэтамі завешвалі сцены ў XVI—XVIII стагоддзях.

Можаш не пагаджацца, маеш поўнае права. Але што ты мне скажаш, калі мы пойдзем у Беларускі дзяржаўны музей і спынімся каля партрэта Кацярыны, напісанага прыдворным мастаком Ф. Рокатавым?

Лакава-алейны бляск будзе замінаць нам убачыць імператрыцу, што з жорсткай тупасцю глядзецьме са сцяны на нас. Цяжкая залачоная шырокая рама аддзяляцьме масіўную постаць ад усяго свету. Гэтае палатно будзе прэтэндаваць на значнасць, на першынство сярод экспанатаў. Як жа ж, імператрыца! Уладарнік неабсяжных прастораў Расіі, Украіны, Беларусі...

Толькі давай спынім пералік, бо перад намі ўсё ж не яе вялікасць, а зусім пасрэдная карціна, якую, дарэчы, даўно трэба зняць са сцяны і перанесці ў сховішча.

Калі мы ўжо трапілі ў мастацкі музей, дык давай пройдземся па залах, дзе ёсць не толькі Македонскія, што ляжаць на тыгравых шкурах, і Кацярыны з Лізаветамі.

Вось, напрыклад, беларускі парадны партрэт Кацярыны і Марыі Радзівіл, напісаны Еганам Шрэтарам у XVII стагоддзі. Думаеш, калі партрэт беларускі, то пахвалю? Памыляешся. Бо я не за тых, хто хваліць беларускае толькі за тое, што яно — беларускае. Еган Шрэтар ствараў партрэты паводле тых законаў, што і Ф. С. Рокатаў. Гэтаксама пісаўся і партрэт Грызель-



● Алесь КСЯНДЗОЎ — «Люба».

ды Весялоўскай, толькі прозвішча мастака не захавалася, бо, пэўна ж, людзям было дастаткова імя Грызельды і золата на раме.

## РАМЫ БЕЗ ПАЗАЛОТЫ.

Дваццатае стагоддзе скептычна глядзіць на залачоныя рамы. Пра салонных мастакоў, што пішуць захадаўсходы для мяшчанскіх кватэр, я памаўчу, пра іх трэба пісаць асобна. Пабла Пікаса цудоўна глядзіцца і ў простай драўлянай раме, але, на жаль, у Мінску няма жывапісу вялікага майстра. Засмучацца не будзем. Лепш паглядзім партрэт «Касі (нашаму музею шанцуе на імя Кацярына) з нацюрмортам», напісаны ў 1923 годзе выдатнай мастачкай Зінаідай Серабраковай. Палатно дзіўнае, ці не лепшае ў музеі. Каб не апісваць, як робяць нашы мастацтвазнаўцы, у якім кутку намаляваны яблык і ў якой руцэ Кася трымае нож, я лепш параю наведаць музейную залу. Толькі, калі пойдзеш, не глядзі на «Сямейны партрэт» А. М. Герасімава, на ўзорную сытасць савецкага мяшчанства, што п'е гарбату з залачоных кубкаў, паліць люльку і адпачывае з букетам мясістых ружаў пад парасонам. А калі і паглядзіш, нічога страшнага не здарыцца, толькі настрой сапсуецца.

У мяне ёсць адна парада: калі збіраешся наведаць музей, дык падрыхтуйся да таго, што толькі адно палатно ты зможаш убачыць. Паглядзіш ты шмат розных вялікіх і малых, яркіх і шэрых, але ўбачыш толькі адно, бо бачыць і глядзець — розныя рэчы, пагадзіся. Мне вельмі хочацца, каб ты ўбачыў «Партрэт Касі з нацюрмортам» і паглядзеў партрэт «Кацярыны і Марыі Радзівіл». А калі атрымаецца наадварот, мне цябе шкада.



Алесь КСЯНДЗОЎ — «Ала».

## ПАПЕРА І МАРМУР.

Чамусьці лічыцца, што малюнкі на паперы — мастацтва другаснае ў параўнанні з алейным жывапісам. І ў экспазіцыі хутчэй трапляюць пасрэдныя палотны, чым добрыя графічныя аркушы. «А чаму?» — спытаеш. Думаю, з-за кошту матэрыялу, з якога зроблены твор. А як інакш растлумачыць з'яўленне ў зале «а ля французскага» мармуровага бюста генерал-фельдмаршала графа П. А. Румянцава-Задунайскага ці маёлікавай галавы Бабы Ягі і адсутнасць графікі Фернана Лежэ, схаванай у запаснік? А калі нам з табою скажуць, што ў экспазіцыю ўвайшло толькі рускае і беларускае мастацтва, а замежнае чакае, калі пабудуюцца дадатковыя залы, то мы задамо пытанне. Чаму мы павінны выстаўляць і прапагандаваць пасрэднае рускае толькі за тое, што яно — рускае, і хаваць добрае французскае толькі за тое, што яно — французскае? І яшчэ цікава: ці знойдзецца мастацтвазнаўца, які давядзе, што «Баба Яга» А. Л. Абэра належыць да сусветных мастацкіх каштоўнасцяў, а графіка Фернана Лежэ толькі таго і вартая, каб ляжаць у мінскіх музейных сховішчах?

У мяне ёсць адзін прыклад, калі партрэт, намаляваны на паперы, варты дзесяткаў мармуровых бюстаў і сотні палотнаў у самых бліскучых рамах. Але перш чым сказаць, чый гэта партрэт, распавяду пра іншы.

Пры ўсёй сваёй павазе да Сяргея Канёнкава (яго апошняя кампазіцыя «Космас» для мяне — адзін з лепшых узораў скульптуры) не пагаджуся, што ягоны мармуровы аўтапартрэт заслугоўвае найвышэйшай, у нашай дзяржаве, узнагароды. Мармур, матэрыял, з якога высякаліся бюсты тыранаў, не можа служыць сумленнаму мастаку для стварэння аўтапартрэта. Сяргей Канёнкаў недарэчна памыліўся, калі абраў такі матэрыял. І я ўпэўнены, што аўтапартрэт Аляксандра Пушкіна, яго імгненна накрэслены профіль, ні ў якое параўнанне не ідзе ні з мармуровымі бюстамі славянскіх мастакоў, ні з лакіраванымі партрэтамі беларускіх і ўкраінскіх графаў і князёў, ні з профілямі рускіх імператараў і польскіх каралёў на залатых манетах. Аўтапартрэт Пушкіна вышэйшы...

## АСАБІСТАЕ.

Калі кіравацца маім парадоксам, дык атрымаецца, што маё эсэ несумленнае, і ў гэтым будзе пэўная доля праўды. Толькі я маю перакананне, што сапраўдны мастак не той, хто падзяляе працы на халтуры для фундатараў і мастацтва для сябе, а той, хто кожны заказ, нават відавочна халтурны, імкнецца ператварыць у твор мастацтва — насуперак усім перашкодам.

## ПАРТРЭТ МАСТАЦТВАЗНАЎЦЫ.

Калі праца над эсэ была скончана, я вырашыў ізноў наведаць мастацкі музей. Рознае здараецца, можа, я тут пішу пра партрэты Кацярыны і Лізаветы, а яны даўно ўжо ў сховішчах, а на іх месцы вісяць працы Фернана Лежэ і Казіміра Малевіча.

У пустым музеі я пагаварыў з маладой дзяўчынай, што вучыцца на мастацтвазнаўчым факультэце. Яна падмяняла наглядальніцу. Нашу размову я не запісваў на магнітафон, а аднавіў па памяці, так што прозвішча, імя і імя па бацьку суразмоўніцы я не пішу, каб не абвінавацілі ў паклёпніцтве, як гэта апошнім часам модна ў нас.

— Вам падабаецца партрэт Кацярыны II?

— Так,— адказала дзяўчына.

— А партрэт імператрыцы Лізаветы?

— Так.

— А бюст генерал-фельдмаршала П. А. Румянцава-Задунайскага?

— Так,— пераканана адказала яна.

— А чым вас так прываблівае бюст Румянцава-Задунайскага?

— Шубін яскрава перадаў панскую лагоднасць і прыгонніцкія звычкі партрэтаванага. І мне падабаюцца асобы моцныя, здатныя ажыццяўляць паходы.

— А якія паходы здзяйсняў лагодны пан з прыгонніцкімі звычкамі? Каланіяльныя? Захопніцкія?

— Дзіўны вы чалавек,— сказала дзяўчына і спытала: — Няўжо ў вас, калі вы глядзіце на статую Пятра I, не ўзнікае пачуццё гонару за сваю краіну?

— Не. Не ўзнікае ў мяне такога пачуцця. Не ў царскай Расіі жыву,— адказаў я.

— Тады я вас не разумею.

— У вашым музеі ёсць творы Лежэ...

— Ёсць,— запэўніла мастацтвазнаўца.— У нас шмат чаго ёсць.

— Дык вось я хацеў бы, каб на месцы другасных палотнаў віселі вартыя таго творы.

— А ў нас і так цудоўная экспазіцыя. Яна на чацвёртым месцы ў краіне, пасля Траццякоўкі, Рускага музея і Кіеўскага рускага музея...

— А Эрмітаж?

— Пры чым тут Эрмітаж?! Мы пра рускае мастацтва гаворым! Нашу экспазіцыю па драбніцах збіралі. Людзі за мізэрную зарплату ўсё жыццё, можна сказаць, паклалі на стварэнне гэтага музея. А тут прыходзяць журналісты і нясуць розную некампетэнтную лухту. Наш народ любіць чытаць Пікуля і хоча глядзець на партрэты Кацярыны і Лізаветы. А вы хто такі?

— Дэмакрат,— няўтроп ляснуў я і спехам выправіўся.— Я за дэмакратызацыю...

— Ха-ха-ха,— засмяялася дзяўчына і сказала: — Які вы дэмакрат, калі вы ў нашай краіне выраслі? Калі вы трыццаць гадоў былі безгалосы баязлівец, а цяперака раптам загаварылі пра дэмакратызацыю? Гэта смешна. Смеш-на-а.

Пасля гэтае размовы мне зрабілася ніякавата. Але я не хачу, каб наш Беларускі мастацкі музей быў ілюстрацыяй да сумніцельнае белетрыстыкі. У мяне няма жадання ганарыцца чацвёртым месцам, у той час калі можна з сабранага ў музеі стварыць адмысловую экспазіцыю, адзіную і непаўторную, у якой знойдзецца месца і беларускім, і ўсходнім, і заходнееўрапейскім творам...

Я так мяркую. А ты?

P. S.

**Каб не застацца адзінокім у сваіх парадаксальных развагах, у якасці аздаблення да свайго эсэ я выбраў лірычныя партрэты маладога беларускага жывапісца Алеся Ксяндзова. На маё пытанне, чаму ён піша менавіта лірычныя партрэты, мастак адказаў, што не хоча хлусіць і прыніжацца, таму малюе сяброў і тых, хто яму падабаецца. А потым дадаў, што на маладзёжных выставах інтымныя партрэты і лірычныя краявіды звычайна складаюць асноўную частку экспазіцыі. Але пра краявіды і нацюрморты пагаворым наступным разам.**

Сяргей ДАБРЫНЕЎСКІ

# НА МАЛОЙ СЦЭНЕ

## СПРОБА ПАЛІТЫЧНАГА АГЛЯДУ

Ужо амаль закончыўшы гэты артыкул, я зразумеў, што заяўлены ў падзагалоўку жанр патрабуе хоць бы невялікага апраўдання. Бо і праўда, хіба можа быць палітычны агляд «з унутранага жыцця»? Які можа быць агляд, калі вычарпальны аналіз палітычнага стану дадзены ў матэрыялах апошняга з'езда (або пленума, або нарады, або яшчэ чаго-небудзь), а заклікі да самастойнага мыслення разлічаны, як кажуць многія, на легкаверных? Вызваліцца ад гэтага стэрэатыпу цяжка. Магчыма, таму — спроба, таму — малая сцэна. І на малой сцэне ёсць што паглядзець.

Усё пачалося з нацыянальнага пытання, здавалася, «цалкам вырашанага». Раптам узніклі загадкавыя чуткі пра «беларускіх нацыяналістаў-экстрэмістаў», сёе-тое пранікла на старонкі нашай выключна стрыманай прэсы, і неўзабаве склалася даволі цэльная карціна. Выглядае гэтая карціна прыкладна так.

Моладзь (ды і не толькі яна) не вывучае нацыянальнай мовы, забыла гісторыю і культурныя каштоўнасці свайго народа. Вінаватыя ў гэтым, вядома, аб'ектыўныя прычыны. Але не толькі. Ёсць яшчэ і адпаведныя кіраўнікі, якія абавязаны былі «мабілізаваць людзей», «правесці пэўную работу», «разгледзець пытанні» і, у канчатковым выніку, «забяспечыць» стварэнне ў дастатковай колькасці «адзінак» нацыянальнай культуры: школ (беларускіх), гістарычных раманаў (беларускіх), архітэктурных шэдэўраў (зразумела, беларускіх). Кіраўнікі «не забяспечылі»... Вынік — усё больш і больш людзей, не задаволеных гэтым, гатовы ўнесці пасільны ўклад у справу нацыянальнага культурнага адраджэння. Працэс заканамерны і своечасовы, хоць і не без выдаткаў.

Гэта, так сказаць, агульнапрынятая версія.

Між тым ёсць зусім іншы ракурс у этай тэмы. Уяўляеце — адно за адным арганізуюцца нейкія самадзейныя аб'яднанні, якія выступаюць за «нацыянальнае культурнае адраджэнне», яны аказваюцца, на жаль, устойлівымі, першыя ж іх крокі прымушаюць уздрыгваць рупліўцаў грамадскага парадку, а дэмакратычныя свабоды робяцца прадметам самых вострых абмеркаванняў. Нехлямяжы тэрмін «нефармалы» зусім не дапамагае прыхаваць тое, што ў гэтых аб'яднаннях ёсць статуты і праграмы, ідэалагічныя лідэры, членскія ўзносы. А сёй-той нене, ды і ўверне: «Камсамол — грамадская арганізацыя з гэткім самым статусам, як і наша «Талака» або «Спасение». (Пра ленінградскае «Спасение» чулі ўжо многія, напрыклад, у сувязі з леташнім пікетаваннем «Англетэра», а вось «Талака» і з ёю многія іншыя «нацыянальна-адраджэнчыя» клубы ўтварыліся ў Беларусі, якая, здавалася б, з усіх нашых рэспублік найбольш асімілявана.)

Карацей кажучы, гэты ракурс — палітычны. Аднак выдае на тое, што ён не вабіць нікога з газетных аглядальнікаў, і гэта зразумела, таму што ўсякі вопыт палітычнага аналізу такіх стыхійных рухаў даўным-даўно страчаны. Таму аналітыкі часцей за ўсё называюць грамадскія арганізацыі, якія, хай толькі што нарodзяцца,— загадкавым тэрмінам «аматарскія аб'яднанні»; прычыны ажыўлення кантактаў паміж імі, правядзення шматлікіх «з'ездаў», «сустрэч» і «канферэнцый» бачаць толькі ў падбухторшчыцкай дзейнасці заходніх галасоў. І самае, самае галоўнае — маўчаць пра палітыку. Няма гэтага, і ўсё. Ёсць «гісторыка-культурныя інтарэсы».



Але, тым не меней, палітыка тут ёсць. Хоць бы таму, што развіццё гісторыка-культурных ініцыятыў відавочна набыло рысы заканамернага працэсу, які аб'ядноўвае невялікую, але ўстойліва растучую частку моладзі. Маладыя людзі, якія раней, паводле паведамленняў тых самых газетчыкаў, з энтузіязмам будавалі БАМ і паспяхова разбэшчваліся нядобрай музыкай, раптам захапіліся нацыянальнай гісторыяй, аб'ядналіся ў нейкія падазроныя клубы.

Так атрымалася, што цэнтральнай праблемай для талакоўцаў (на самай справе існуе ўжо не адна «Талака», і толькі з прычыны тэрміналагічнай няяснасці прыйдзецца пазначаць гэтым словам удзельнікаў усіх «нацыянальна-культурных» груп) стала праблема роднай мовы, здавалася б, зусім бяскрыўдная. Бо і тое праўда, каму пагражаюць людзі, якія прынцыпова гавораць ва ўсіх звычайных жыццёвых сітуацыях не па-руску (да чаго на Беларусі даўным-даўно прывыклі), а па-беларуску? Ці такія ўжо небяспечныя заклікі аднавіць у беларускай арфаграфіі алітэрацыйныя мяккія знакі, ліквідаваныя ў трыццатыя гады? Урэшце ж бо і штудыраванне першакрыніц па беларускай гісторыі можна толькі вітаць.

Аднак вітанняў не было, а замест іх узнікла атмасфера недаверу. Чаму так атрымалася, увогуле зразумела. Таму што — працэс. Таму што «беларускія суполкі (таварыствы, клубы)» не развальваюцца, а, наадварот, увесь час растуць. У самай вялікай з іх — мінскай «Талацэ» — ужо сорак правадзейных членаў, за сотню прыхільнікаў. Па некалькі дзесяткаў і ў іншых. Гэта большай часткай моладзь, прычым ледзь не палавіна — рабочыя, інжынеры, наогул тыя, хто зусім не займаецца прафесійна гуманітарнымі пытаннямі. Многія беларускую мову не так ужо часта і чулі, а тут раптам з гатоўнасцю ўспрынялі неабходнасць яе адраджэння ў якасці маральнага імператыву. Корпаюцца ў гістарычных дакументах, пішуць вершы, праводзяць суботнікі па рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры.

Нездарма камсамольскія кіраўнікі, як малітву, паўтараюць: «Самадзейныя клубы — не альтэрнатыва камсамолу». Такое ўражанне, што пераконваюць яны ў гэтым не толькі іншых, але часткова і саміх сябе. Яно і зразумела, бо пры ўсёй сваёй малалікасці і разасобленасці суполкі маюць сякія-такія ўласцівасці, камсамолу цяжка дасягальныя.

Гэта, напрыклад, самы актыўны ўдзел амаль усіх членаў у сходах і абмеркаваннях. Менавіта жаданне ўдзельнічаць у гэтых абмеркаваннях і прываблівае людзей. (А ці шмат камсамольцаў скажа: «Я ў камсамоле, бо хачу наведваць сходы»?) Цікавасць выклікаюць нават цалкам тэарэтычныя пытанні. Скажам, адны лічаць, што адраджэнне мовы ёсць умова адраджэння нацыянальнай культуры, другія пярэчаць...

Вядома, «Талака» і іншыя — гэта клубы па інтарэсах, таму агульны інтарэс для ўсіх членаў і вызначаюць сабе яго галоўны працэс — «нацыянальнае адраджэнне», якое трэба будзе і асэнсоўваць, і практычна здзяйсняць. Самастойны выбар зроблены. Як ні круці, палітыкай тут усё-такі пахне, таму што спатрэбіцца і сяго-таго сагітаваць, і сёе-тое арганізаваць, і адбываецца гэтае «аматарства» ў сферы ідэалагічнай, а не дзе-небудзь. Што рабіць далей? Далей даводзіцца самавызначацца.

Лішне багатага выбару няма. Камсамол «нацыянальнае адраджэнне» сваёй галоўнай справай існуе, так сказаць, ад пачатку. Але і камсамолу, згадзіцеся, бачыць усіх сваіх членаў аб'яднанымі агульным інтарэсам было б прыемна, а гэтага пакуль што не скажаш.

Але бог з ім, з агульным інтарэсам. Хай гэта не здасца дзіўным, але гісторыка-культурныя клубы трымаюцца зусім не на агульным інтарэсе да нацыянальнага пытання. Мацуе іх не толькі і не так адчуванне нацыянальнай ушчэмленасці, як наогул — адчуванне абмежаванай палітычнай актыўнасці, якое асабліва абвастрылася ў нашыя дні.

Парадаксальнасць тут толькі вонкавая. А ўсё менавіта ў тым, што ў апошнія некалькі гадоў палітычнае, ды і культурнае жыццё несумненна ажывілася. Новыя канцэпцыі, новыя імёны з'явіліся ўсё роўна як з ніадкуль. Такое ўражанне, што не было яшчэ нядаўна акадэміка Аганбегяна — і раптам ёсць. Не было такога пісьменніка А. Прыстаўкіна — наце вам, жывым-жывы Прыстаўкін з неспадзявана ўзніклымі папулярнымі творамі.

Але як гэта адбылося — ніхто вам не скажа. Ніхто не скажа, як паўтарыць адно з гэтых бліскучых узнікненняў. Што рабіць? Чаму вучыцца? У якую міфічную «партыю новых імёнаў» уступаць, хочучы быць актыўна дзейнай асобай культурнага або палітычнага жыцця?

Як бы там яно ні было, усякае новае імя робіцца вядомым дзякуючы новай канцэпцыі, новаму погляду на наш час. Гэта слушна і ў адносінах да Аганбегяна, і ў адносінах да Прыстаўкіна.

І талакоўцы гавораць пра Час не лічыць. Таварыства аховы помнікаў — самі ведаеце, што гэта за таварыства — адны пенсіянеры, ні правоў, ні пазіцыі. Вось і застаецца адно — арганізацыйнае адасабленне.

І пасля гэтага рашэння далейшы шлях ужо параўнаўча ясны. Канцэпцыя (хоць асабіста мне здаецца, што гэта хутчэй уяўнасць канцэпцыі, але пра тое пазней) патрабуе прапрацоўкі, для гэтага патрэбны дыскусіі, яны ж якраз і трымаюць арганізацыю першы час. Дыскусіям, натуральна, патрэбна трыбуна, скажам,— свой часопіс. Вось мы і прыйшлі да «чыстай палітыкі», гэтым разам — у выглядзе свабоднага друку. Неабходнасць арганізацыі сваёй дыскусіі спараджае дыскусіі з афіцыйнымі органамі. Выглядае гэта так.

— Хочам выдаваць часопіс.

— Нельга!

— А як жа свабода друку?

І — усё, далей паўтараецца гэты ж самы сюжэт. Разумееце, што атрымалася? Палітычная форма («патрабуем свабоды друку») настолькі ашаламіла абодва спрэчныя бакі, што забылася палітычная сутнасць — што ж будуць новыя выдаўцы «свабодна друкаваць». Таму вінаватыя не толькі чыноўнікі, але і сама «Талака» з сваёй, як сказаў яе прэзідэнт Сяргей Вітушка, «унутранай слабасцю». Тое самае, паводле аднаго з лідэраў «Талакі» А. Сушы, здарылася і ў іншай сітуацыі — калі ў час перагавораў з афіцыйнымі арганізацыямі аб падрыхтоўцы нарады беларускіх суполак некалькі месяцаў настолькі ажыўлена абмяркоўвалася толькі сама «беспрэцэдэнтная» ідэя неафіцыйнай нарады неафіцыйных арганізацый і звязаныя з яе ажыццяўленнем квоты на колькасць удзельнікаў, што галоўныя пытанні ледзь (цяпер ужо цяжка ўстанавіць, па чыёй віне, ды і не гэта важна) усплылі толькі за тыдзень да сустрэчы.

Такім чынам, цыкл пройдзены. Імкненне да палітычнай самарэалізацыі спарадзіла новую арганізацыю ў асобе клуба

«Талака». Полем палітычнай дзейнасці стала нацыянальнае пытанне. Як да гэтага ставіцца?

Баяцца слова «палітыка», натуральна, не варта, мы ўсе гэтым сістэматычна займаемся, хоць бы ў дні выбараў у Саветы. Але ўсякі палітык-пачатковец слоў якраз і не баіцца, ён баіцца іншага. Сапраўдная палітычная дзейнасць ёсць хада вельмі блізка ад краю — таго краю, за якім канчаюцца сфармуляваныя з прыцэлам на тысячагоддзі лозунгі і пачынаецца патрэба самастойна ацэньваць свае ідэі і ідэі іншых палітычных дзеячаў, у тым ліку і «афіцыйных». А думаць заўсёды цяжка і страшна.

Таму тыя, хто ўсё ж асмельваецца вызначаць сваю пазіцыю самастойна, заслугоўваюць, прынамсі, павагі. Тым болей што вельмі многія з іх прынцыповых палітычных памылак не робяць. А вось пра поле дзейнасці пагаварыць цікава. Пытанне ж зусім не новае, больш таго, паўтарэнне даўно забытага ўрока набывае часам анекдатычны характар. Давайце супаставім дзве цытаты.

Аўтар першай шкадуе, што пашырылася «тое дзіўнае разуменне інтэрнацыяналізму (праўда, не такое ўжо і новае), згодна з якім ён тым больш поўны і паслядоўны, чым больш абыякавая сучасная асоба да нацыянальных бакоў жыцця свайго народа — яго гістарычнай памяці, мовы, каштоўнасцей культуры



(асабліва калі яны здаюцца па спрошчаных мерках «бядней-шымі, чым у іншых»)». А далей паведамляе, як яно ўсё на самай справе: «Інтэрнацыяналізм—гэта гармонія культур розных народаў».

Цяпер — другая цытата. «Усякі, хто хоць крыху знаёмы з нацыянальным пытаннем, ведае, што інтэрнацыянальная культура не ёсць іннацыянальная культура (культура без нацыянальнай формы) — «...рабочы не павінен быць абыякавы да становішча і развіцця сваёй нацыянальнай культуры, таму што праз яе і толькі праз яе атрымлівае ён магчымасць прыняць удзел у «інтэрнацыянальнай культуры дэмакратызму і сусветнага рабочага руху». Гэта даўно вядома, але пра ўсё гэта У. І. і ведаць не хоча...».

Падобна, праўда ж? Першы абзац апублікаваны сёлета ў «Литературной газете», а другі прыведзены У. І. Леніным у «Крытычных нататках па нацыянальным пытанні» як узор пустога набору слоў, які «ёсць толькі спроба адцягнуць увагу чытача і засланіць сутнасць справы звонам слоў» — бо ўжо ў 1913 годзе такія разважанні былі зусім банальныя, тым болей што ніякай «безнацыянальнасці» марксісты ніколі не прапагандавалі. Там жа Ленін вельмі падрабязна тлумачыць, якія такія дзве культуры існуюць унутры кожнай «нацыянальнай» культуры, але ўзнаўляць гэта тут нявартa. Бо праз семдзесят пяць гадоў ужо і тэорыя дзвюх культур стала агульным месцам. Абмяркоўваць яе гэтак жа не мае сэнсу, як і абмяркоўваць пытанне пра «іннацыянальнасць». Лепш проста вывучыць, прыкладна, як школьны ўрок. Дзіўна, як цяжка засвойваецца тая простая ісціна, што вялікія адкрыцці не старэюць. Колькі ўжо было «марксістаў», якія спрабавалі вывучаць «Капітал», не разгортваючы Гегеля — з тае прычыны, што, бачыце, Гегель Марксам адвергнуты. Скончылася гэта поўным неразуменнем сапраўднага марксізму. Вось і тэорыю пра дзве культуры не трэба спешна адвяргаць. Як бы нам з гэтым славутым лозунгам «нацыянальнай культуры» не трапіць на другі круг. Ясна ўвогуле, што глыбіню свайго разумення марксізму наогул і стасоўна да нацыянальнага пытання ў прыватнасці мы крыху пераацанілі. Таму і вяртаемся вельмі часта, вольна і міжвольна, да «меркаванняў з забытых газет».

Але ж няёмка, шчыра кажучы, зноў тлумачыць, што беларускаму рабочаму якуцкі рабочы куды бліжэйшы за беларускага бюракрата. Што прынцыповасць «Уралмаша», які адстаяў свой варыянт гадавога плана ў вельмі вострым канфлікце з міністэрствам, на парадак вышэйшая за прынцыповасць ва ўжыванні «забароненых» мяккіх знакаў. (Дзеля справядлівасці зазначым, што і ў «Талацэ» многія падзяляюць гэты тэзіс.)

А як, між іншым, нам гарантаваць працвітанне беларускай культуры? Звольніць тых чыноўнікаў, якія «не забяспечылі»? І пасадзіць на іх месца лідэраў «Талакі», так, ці што? Ды ўжо ж не. Для працвітання патрэбна зусім іншае. Нават калі адбудзецца «поўная перамога беларускай мовы», праблема не вырашыцца. Вось і атрымліваецца: мы павінны вывучаць не запісы ў пашпарце ў славутай пятай графе, а сапраўдныя інтарэсы сапраўдных класаў, сацыяльных груп і нават асобных людзей. Гэта куды важней, хоць, зразумела, цяжэй.

Але справа не толькі ў тым, што цяжэй. Гэта вялікая і сапраўдная палітыка. Гэта называецца — радыкальная рэформа палітычнай сістэмы! Пераўладкоўваць грамадства — азначае ў сваім коле займацца тым самым, чым займаюцца таварыш Міхаіл Гарбачоў і яго калегі ў вельмі высокіх сферах і ў вялікіх маштабах.

Пра «Талаку» ўжо ўсім вядома. А ці шмат ёсць, напрыклад, у Мінску не «культурных», а адкрыта палітычных арганізацый? Што кажа на гэты конт наш выключна стрыманы друк? Ён маўчыць, хоць такія арганізацыі ёсць. Прынамсі, паводле маіх дадзеных, іх дзве. Першая — грамадска-палітычны клуб «Сучаснік», якім кіруе кандыдат філасофскіх навук Леў Крывіцкі. Па сутнасці гэта тэарэтычны семінар, прысвечаны сучасным мадэлям сацыялізму. Другая — гэта скандальна вядомая «Мінская альтэрнатыва», якая вясной гэтага года адкалолася ад «Сучасніка» з прычыны сваёй прыхільнасці не да дыскусій, а да палітычных дзеянняў. Улетку кожны мог бачыць «Альтэрнатыву» за «працай» каля помніка Янку Купалу, дзе збіраліся подпісы пад петыцыяй за стварэнне ў Мінску нейкага падабенства Гайд-парка.

Толькі за два летнія месяцы яны паспелі раскалоцца, потым зноў аб'яднацца. Паспелі вытурыць з сваіх радоў «прадстаўнікоў нацыяналістычнага ўхілу». Увогуле, зайздросная дынамічнасць перад намі. Не здзіўлюся, калі да моманту выхаду гэтага нумара «Крыніцы» з друку «Альтэрнатыва» наогул перастане існаваць або распадзецца на дзве-тры дачэрнія арганізацыі. (Прынамсі, адзін яе лідэр, Дзмітрый Зільбер, схільны вярнуцца ў «Сучаснік», падобна блуднаму сыну.)

Цікаўным паведамлю і некаторую статыстыку. У «Сучасніку» каля 30 членаў, у «Альтэрнатыве», паводле яе ўласных дадзеных, два дзесяткі. Узрост «Альтэрнатывы» — гадоў 17—20, семінар Крывіцкага старэйшы, там амаль усе прафесійныя грамадазнаўцы.

Можна зрабіць цікавае супастаўленне. «Талака» засядае ў параўнаўча нядрэнным памяшканні, нячаста, але ўсё ж фігуруе ў прэсе. Агульнагарадскія дыскусіі па яе родных праблемах — метро, Верхні горад, беларуская мова — зрабіліся апошнім часам нормай. Калі пішуцца гэтыя радкі, «Сучаснік» збіраецца па пятніцах і суботах на беразе Цнянскага вадасховішча. У рэспубліканскім друку, здаецца, пра яго не пісалі... Агульнагарадскіх дыскусій «па мадэлях сацыялізму» таксама пакуль што быццам не было.

Высновы ясныя? Няпрыязнасць да «Талакі» і ёй падобных існавала пастолькі, паколькі яны ўвасаблялі ў сабе адзіную палітычную самадзейнасць, бяскрыўдныя суполкі адпякалі пірагі за грахі неіснуючых палітычных клубаў, якія былі страшныя нават у выглядзе ідэі. Але як толькі ўзніклі адкрыта палітычныя арганізацыі, «Талака» адразу ж зрабілася меншым злом. Калі ўжо вам так закарцела ладзіць каляпалітычныя спектаклі, калі ласка — на малую сцэну (культура, гісторыя, помнікі). А на большую (якая складае, між іншым, аснову той самай культуры і гісторыі) — каб ні нагой.

Такі сённяшні «палітычны» стан. На жаль, я вымушаны сказаць, што палітычныя клубы не толькі сутыкаюцца з недаверам «інстанцый», але і не маюць жыўнай глебы. Палітычная самадзейнасць — гэта традыцыя, якая можа складвацца вельмі і вельмі доўга. З гэтага вынікае многае, але я спынюся толькі на адным. Месца нефармальнага палітычнага лідэра моладзі ў нашай сённяшняй сітуацыі вакантнае. Хто можа яго заняць? Вось тэма для развагі.

Між іншым, адзін удзельнік гэтага конкурсу — не хто-небудзь, а камсамол. У Маскве або ў Ленінградзе, дзе самыя радыкальныя ідэі дэкларуюцца ў самадзейных аб'яднаннях, камсамолу стаць нефармальным лідэрам вельмі цяжка. Ён вымушаны далучацца да «самадзейнікаў» (у патрабаванні ліквідацыі прапіскі, выбарнасці рэдакцый газет і ў іншых чыста палітычных пытаннях), што можа выглядаць годнасна, але першароднасці не гарантуе. А ў нас самадзейных ініцыятыў лічы што ніякіх, і аддзялення газет ад камітэтаў яны не патрабуюць, ім «нацыянальнага адраджэння» хапае.

Таварышы камсамольскія кіраўнікі, вам не здаецца, што ГЭТА — ШАНЦ?





**Маналог Кацярыны Ільінічны Палуда, кіраўніка вытворчай брыгады вучняў Вішаўскай школы**

# СВАЁ ПОЛЕ

— Для некага поле — проста зямля. А трэба, каб яно стала полем жыцця. Але як дамагчыся гэтага? Што трэба зрабіць, каб на зямлі працавалі не тыя маладыя людзі, якія не здолелі асесці ў горадзе, а тыя, хто бачыў бы ў ёй свой лёс! Шчаслівы лёс, а не ягоны злом, няўдалы паварот.

Што толку ў бясплённым перакідванні з аднаго гарода ў другі бясконцых папрокаў за дрэннае выхаванне будучых гаспадароў зямлі! Мы так захапіліся гэтымі абвінавачваннямі, што дарэшты забыліся на справу. На нашую галоўную справу: кожнага дня і кожнае гадзіны выхоўваць гаспадара.

Не адкрыю ісціны, калі скажу, што найлепшы шлях да гэтага — вытворчыя брыгады школьнікаў, якія працуюць на працягу ўсяго года. Увесь цыкл работ на сваім полі яны выконваюць самі. Уносяць арганіку, аруць, сеюць, апрацоўваюць культуры, выбіраюць, буртуюць — і атрымліваюць зробленыя грошы. Дарэчы, не такія ўжо і малыя: 120—150 рублёў.

Назіраю за хлопцамі і дзяўчатамі, як кажуць, ва ўсе вочы, а іншы раз — употайкі. І шчыра радуюся тым добрым пераменам, што адбываюцца ў іхніх душах, таму, як прачынаюцца ініцыятыва, актыўнасць у падлеткаў, на якіх сёй-той з маіх калег махнуў рукою. Выходзіць, нашыя высновы аб безнадзейнасці таго ці іншага вучня не ад педагагічнае мудрасці, не ад розуму і сэрца — ад нашае блізарукасці. Пастаўце гэтых безнадзейных троечнікаў у зусім іншыя, не школьныя ўмовы, і вы ўбачыце ў іх тое, аб чым нават і не падазравалі. У гультаі абудзяцца працаздольнасць і ўменне, у абыякавым — клопат і дабрыня, у пасіўным — ініцыятыва і творчасць.

Хаця, бадай, сказаць «абудзяцца» будзе недакладна. Усё гэта пастаянна жыве ў гэтых падлетках. Іншая справа, што ў школе на гэтыя глыбока ўнутраныя якасці не робіцца стаўка, часцей за ўсё яны не бяруцца ў разлік. Крытэрый усяму — паспяховасць. Вось яно, пракрустава ложа, у якое мы свядома ці міжволі заганяем усіх вучняў. Мяркуем пра іх грамадзянскасць, карыснасць грамадству. Але ці ж не гэтыя жорсткія рамкі прыводзяць многіх нашых падапечных, увогуле нармальных хлопцаў і дзяўчат, да суцэльнай абязлічкі, ці ж не яны глушаць у іх тое здаровае і добрае, што заклала прырода і сям'я і што магло б мацнець і развівацца ў школе! Так, вядома, можна знайсці тысячу тлумачэнняў і гэтаму і многаму іншаму, але ўсё ж, усё ж... Усё ж да болю шкада, што школа часам не лечыць, а нявечыць.

Дык вось, на сваім полі ў дваццаць гектараў мае хлопцы і дзяўчаты дыхаюць на поўныя грудзі. Нашае «палявое» жыццё абсалютна дэмакратычнае. Без саміх падлеткаў я не прымаю ніякіх рашэнняў. Спачатку мы вырошчвалі толькі бульбу і буракі. А цяпер і ячмень, і лён. Тлумачу вучням, што лён прыйдзецца церабіць у жніўні. У час іх законных вакацый. «Ну і няхай,— кажуць,— мы згодныя».

Чым жа выклікана рашэнне павялічыць колькасць культур! Ну, па-першае, школьнікам важна на справе пераканацца, што такое севазварот. З дзвюма ж культурамі не вельмі «наразварочваешся». А па-другое, у нас брыгадны падрад. Сёй-той пацісне плячыма, убачыць у гэтым адно наследаванне дарослым. Але гэта зусім не так. Вучням я растлумачыла: «Каб атрымаць найвышэйшы вынік, мала толькі добра працаваць. Трэба і галавою думаць. Калі апрача бульбы і буракоў на той самай плошчы мы пасеем лён (а гэта вельмі прыбытковая культура) ды высакасортны ячмень, то атрымаем вялікую суму. Нам яе хопіць, каб разлічыцца за ўгнаенні, тэхніку, транспарт. І працу кожнага аплаціць як належыць...»

Чым раней дзеці зразумеюць на сваім вопыце, што зямля не мае патрэбы ў падзёншчыках, што кожны яе лапік павінен прыносіць карысць, тым больш шанцаў выхаваць гаспадароў. Выпрацаваць у іхніх душах стойкі імунітэт супраць звычнае думкі: «Не маё — значыцца, нічыё...»

Неяк выбіралі мы буракі пахмурным днём. Стаміліся ўсе дый прагаладаліся. Да канца ж працы заставалася яшчэ некалькі гадзін. А тут чыясьці сядзіба непадалёк. І яблыневы сад... Галіны так і гнуцца ад яблыкаў. Вось двое хлапчукоў паціхеньку прыхапілі пару буракоў — і на сядзібу. Вырашылі памяняць іх на яблыкі. Што тут пачалося ў брыгадзе! Як накінуліся ўсе на гэтых прадпрымальных мальцаў! Патрабавалі выключыць іх з брыгады. Аштрафаваць. Словам, дасталося хлопцам так, што доўга будуць яны ўспамінаць той дзень.

Брыгадзірам у нас — Наташа Юрчанка. Агонь, а не дзяўчына. Усё ў яе атрымліваецца, да ўсяго ёй справа. Сама працуе — любата. І на другіх паглядвае. А ў канцы працоўнага дня праставіць у сшытачку кожнаму адзнакі. Калі чамусьці чацвёрку, ледзь не да слёз справа даходзіць. Ацэньвае працу таварышаў, вядома, не адна Наташа. Ёсць у нас савет брыгады. Вырашаў савет, каму ехаць на экскурсію ў Ленінград і Вільнюс. Справа ў тым, што праўленне калгаса выдзеліла на паездку 1500 рублёў. З разліку на трыццаць чалавек. А ў брыгадзе ўсяго — пяцьдзесят. Вырашылі па справядлівасці. Без крыўды і папрокаў.

Вось так вучымся мы дэмакратыі. Так спасцігаем складаную навуку быць гаспадаром на зямлі.

КАМЕНТАРЫЙ ЖУРНАЛІСТА: Школа як школа. Дый вытворчая брыгада школьнікаў, напэўна, чымсьці асаблівым не адрозніваецца ад сотняў падобных да яе. Магчыма. І ўсё ж такі пасля гутаркі з дырэктарам Вішаўскай школы, загадчыкам вучэбнай часткі, самімі школьнікамі засталася ў мяне ўпэўненасць, што тут выхоўваюць земляробаў не па абавязку, а па перакананні. Прынамсі, у тое ж Бялыніцкае СПТВ-217 ніхто ўжо з-пад палкі дакументы не возіць. Дый сама школа — не аўтаномія ў «калгаснай дзяржаве», а важнейшы орган адзінага арганізма. Ні старшыня, ні праўленне калгаса не паварочваюцца да школы спінаю. І таму ніхто з настаўнікаў не асуджаны бадзяцца па чужых кутах. Для маладых — інтэрнат. Для сямейных — кватэры ці асобныя дамы. Ёсць патрэба ў дзіцячым садочку — калі ласка. На любую просьбу дырэктара школы калгас адказвае справаю і толькі справаю.

Дваццаць гектараў зямлі — гэта не драбяза. Аднак калгас выдзяляе школьнай брыгадзе гэтую плошчу не сумняваючыся. Таму што адна справа выпісваць на трактарадроме «васьмёркі» ці памагчы калгасу ва ўборцы, і зусім другая — калі на сваім полі школьнікі ўсё ад пачатку да канца робяць сваімі рукамі.

Заклікамі ды лозунгамі гаспадара не выхаваеш. У калгасе «Радзіма» гэта разумеюць выдатна.

Андрэй ФЕДАРЭНКА

# У выхадныя дні

*Апавяданне*

## 1.

У пятніцу вечарам, дачакаўшыся, калі з'ехаў дамоў у вёску сусед па пакоі, Анатоль Хальчэня сядзеў на ложку і складаў верш. За паўгадзіны ён адолеў толькі адно чатырохрадкоўе, праўда, ніштаватае:

Цяплынь жнівеньскай ночы...
Было ў нас такое, скажыце?
Я глядзеў ёй у вочы —
Васількі ў спалавелым жыце.

Перачытаўшы разоў пяць запар, што аж паблыталіся ў галаве рыфмы, Хальчэня падняўся, запаліў цыгарэту і пачаў хадзіць узад-уперад па пакоі, паплёўваючы і збіваючы на падлогу попел. «І ў каго я, цікава, пытаю — было ў вас такое, скажыце? — падумаў ён.— У чытача, ці што? Вядома, што было... Рытарычнае пытанне. А сентыментальнае параўнанне вачэй з васількамі? Ці я ўжо сам да сябе прыдзіраюся?»

Каля шафы ён прыстоіў, адчыніў левую і правую палавіны і агледзеў суседавы штаны клёш на вешалачцы, брызентавую рабочую куртку і новыя кеды з беленькімі забарскамі; гэтак жа нетаропка агледзеў трое сваіх штаноў: ваўняныя ў клеткі, джынсы, вараныя ў белыя плямы, і штаны з мяккае шэрае матэрыі, якая звалася «палавіком»; агледзеў акуратныя польскія спартоўкі і сінія, з белымі плоскімі падэшвамі туфлі... Раптам ён пачырванеў, асцярожна прычыніў дзверцы і вярнуўся да ложка. «Цікава, ён хіба не бачыць, што носяць другія...— падумаў ён ужо пра суседа.— Ходзіць такім вахлаком... Незразумела».

За шэсць дзён, якія яны пражылі разам, Хальчэня так і не змог звыкціся з гэтым чалавекам. Увечары сусед звычайна ляжаў упоперак ложка — ногі на табурэт — і моўчкі гартаў часопісы ці чытаў газеты, а ўначы, калі тушылі святло і клаліся, доўгімі і занудлівымі аповядамі не даваў Хальчэню спаць. Тут былі і вёска, і фільмы, і кнігі, і войска, і, зразумела, былое няўдачнае каханне — нейкая Наташа, якая выйшла замуж, недачакаўшыся яго з войска. Ён называў яе цяпер «дурніцай» і «шкурай барабаннай» і казаў, што яна растаптала ў ім веру «ў людзей і чэсных жэншчын».

Хальчэня быў рады, што працаваў гэты хлопец у брыгадзе бетоншчыкаў, а не з ім разам: хоць удзень ён яму не назаляў.

«Добрая асацыяцыя — васількі ў спалавелым жыце і шкура барабанная! — Хальчэня ўявіў, як бы ягоны верш чытаў сусед, пачырванеў, схапіў доўгапіс і так крамзануў накасую па лістку, што падралася папера.— Калі ўжо й пісаць, дык, пэўна, не так!»

Яму захацелася напісаць празаічны твор, але добры, абсалютна праўдзівы, які ніхто яшчэ ніколі не пісаў. Ён узяў са стала два часопісы, якія забыў сусед, лёг упоперак ложка, паклаў ногі на табурэт, адзначыўшы, што ляжаць так усё ж няблага, і пачаў чытаць, каб павучыцца, як пішуць і думаюць сапраўдныя пісьменнікі.

## 2.

Хальчэня, хоць і нарадзіўся і гадаваўся ў вялікім горадзе, быў усё ж, як цяпер кажуць, гарадскім толькі ў першым пакаленні. Бацькі яго былі тыповымі урбанізаванымі вяскоўцамі: маці — з Лоеўшчыны, бацька — з Мазыршчыны.

Пражыўшы багата ў Гомелі, займаючы пасаду начальніка аддзела кадраў будупраўлення, бацька ці то не хацеў, ці то папраўдзе так і не навучыўся гаварыць чыста па-гарадскому. Калі яшчэ дзе ў людзях ці на рабоце ён і стараўся ламацца па-руску, то ўжо дома, у сям'і, даваў сабе поўную волю. Бы смакуючы, з задавальненнем, ён гаварыў «дзёўка, дзядзько, муло, забуўся, знушчаўса, хай яму гор, здарову, як бук» і г. д. Ён быў з'едлівы да ўсяго, чаго не разумеў: да музыкі, акрамя народных песень; да фільмаў, акрамя як пра дзяцей, да кніжак пра вайну, у якіх, як ён казаў, «восе пара пішуць адно й тое ж». Не любіў, як ні дзіўна, газет на беларускай мове, лічачы гэтую газетную мову не сапраўднаю беларускаю, а «скалечанаю», і, зрэдку чытаючы, сярдзіта казаў: «Ні па-польску, ні па-конску...» У сям'і ён трымаўся свайго вясковага парадку, які заключаўся, па-першае, у дыялектна-беларускай мове і, па-другое, у выхаванні сына. Анатолю дазвалялася рабіць тое, што сам бацька ў свае маладыя гады зрабіць альбо не паспеў, альбо рабіў не так, не ў поўнай меры як хацелася. Кожныя паўгода сын адзяваўся ў новае, і не абы-якое,— з галавы да пят. Акрамя таго, ён заўсёды меў грошы «на дробныя расходы». Бацька верыў яму, ён мог прыходзіць позна ўночы ці начаваць у сяброў, не баючыся, што яму будуць чытаць маралі. Патрабавалася ад яго не шмат: не піць, не лаяцца і не пярэчыць бацьку.

Волю, што яму давалася, Хальчэня скарыстаў перш за ўсё ў вучобе. Не дужа налягаючы на кніжкі, скончыў дзесяць класаў, падаў дакументы, як і параіў бацька, у будаўнічае вучылішча,— і толькі праз год, атрымаўшы ўжо дыплом і накіраванне ў адно з мястэчкаў Брэсцкае вобласці, Хальчэня зразумеў, што волі ён практычна не толькі не мае, але што яе ў яго і не было.

Тады бацька бадай што ўпершыню адкрыўся яму. Хальчэня ўбачыў у ім не таго чалавека, да якога прывык. І здарылася гэта ў той дзень, як ён атрымаў дыплом.

Быў позні вечар. Толькі што павячэралі, папілі гарбаты з тортам, маці прыбірала са стала, бацька, седзячы на канапе, дапіваў гарбату. Хальчэня апранаўся перад трумо, меўся ісці да сябра.

— Ты б цяпер менш хадзіў, а больш падчытваў,— сказаў, назіраючы за ім, бацька.— Я сённі гаварыў з адным чалавекам. Ён паможа табе паступіць у ваеннае вучылішча.



*Андрэй Федарэнка дэбютаваў з апавяданнямі летась у часопісе «Маладосць». На сённяшні дзень ён і Міраслаў Шайбак, чые апавяданні змешчаны ў папярэднім нумары нашага часопіса,— самыя маладыя беларускія празаікі.*

*Студэнт Мінскага інстытута культуры, шчыры прыхільнік беларускага року. Андрэй перад службай у войску скончыў Мазырскі політэхнікум.*

Хальчэня не так здзівіўся, як спалохаўся. Ён зразумеў, што бацька не жартуе.

— Дзе ж ты раней быў? — няўцямна спытаў ён.— У мяне ж накіраванне...

— Наплюй ды выкінь! — засмяяўся бацька.— Скора дадуць табе новае накіраванне! Аць-два-лева!.. Аць-два-права!..

— Я не хочу, ясна? — хмура сказаў Хальчэня. Ён падышоў і сеў на канапу, побач з бацькам.— Ніколі я... не хацеў быць вайскоўцам.

— Думаеш, я хацеў быць у аддзеле кадраў? Я хацеў быць у міністрах,— усё смяяўся бацька.

Маці ціхенька прысела за стол. Ёй хацелася, каб выйшла так, як кажа муж, але разам з тым хацелася, каб і Толік трохі паспрачаўся — нямоцна, не па-сапраўднаму, а каб паказаць сваю самастойнасць і ўрэшце скарыцца бацьку. Яна ведала, што так часта спрачаюцца ў іншых сем'ях, і такія спрэчкі нават карысныя: бацькі звычайна давольныя, што выйшла паіхняму, а дзеці — што пярэчылі і спрачаліся, калі іх угаворвалі.

Бацька паставіў на стол парожні кубак і паклаў на сынава плячо руку.

— Давай, сынок, пагаворым,— сказаў ён.— На свеці жыць не так лёгка, як табе здаецца. Ці ты думаеш, мне лёгка было, што ўсё, што ў нас ёсць, само прыплыло ў рукі? Папытай у маткі, як мы пачыналі жыць. Думаеш, хто-небудзь нам памог? Ніхто! Тады яшчэ я падумаў, што, як той казаў, шануй здароўе, а ўсё другое купіш за грошы. Грошы я табе ні шкадаваў і ні пашкадую ніколі. Дзякуй богу табе ёсць каму памагаць. І ні трэба самому сабе выдумляць клопат, яшчэ ў жытцы ўсяго хопіць. А войска дасць табе (ён пачаў загінаць пальцы) і здароўе, і грошы, і кватэру, і... Ні думай, што туды дурні ідуць.

Хальчэня маўчаў, а бацька, было відаць, і не дабіваўся адказу, проста гаварыў, як бы сам сабе, пры кожным слове злёгку націскаючы на плячо рукою. Маці ўздыхнула, падперла шчаку і задумалася.

— Людзі, праўда, і цэглу з розумам кладуць,— працягваў бацька.— Не як з розумам класці, дык будуць і грошы тыя самыя, і...— хіба што не так скора. Але ж гэта хітраваць неяк трэба, умець...

— Я ж казаў, што не хочу ні хітраваць, ні быць вайскоўцам! — Хальчэня зняў з пляча бацькавую руку.

Бацька сашчапіў пальцы, абняў калена і паглядзеў чамусьці на жонку.

— Як ты не хочаш ні таго, ні другога, дык выбірай з етых двух, што лягчэй.

Хальчэню ў бацькавым голасе пачулася нейкая нерашучасць, няпэўнасць, нібы той і сам толкам не ведаў, чаго хоча. Яму раптам захацелася сказаць нешта насуперак бацьку, пацыкнуць яго:

— Так і быць — выбіраю войска. Каб нічога не рабіць.

Бацька ўздыхнуў і злёгку прытупнуў нагою, быццам паказаўшы, што яму гэта ўжо надакучыла.

— Па-твойму, ахвіцэры нічога не робяць? — спытаў ён.— Ты...

— Я лічу,— перабіў Хальчэня, ледзь стрымліваючы нецярплівую радасць,— што маршыраваць лягчэй, чым класці цэглу! Але...

— Ты ж не ўмееш ні таго, ні другога,— перабіў ужо бацька. Чамусьці яго таксама ўзяло за жывое.— Каб ты быў на што здатны, хіба я не знайшоў бы табе якое месца? Ты шчэ ў школі вучыўся, як я прыкідваў сам сабе — мо выйдзе з яго якая карысць? Мо ў інстытут яго? А тады глянуў...— Бацька недаказаў.

Маці спалохана пераводзіла вочы з мужа на сына, увесь час парывалася нешта сказаць. Хальчэня пасля бацькавых слоў перш пачырванеў, тады нават трошкі збялеў. Праўда — ён быў пасіўны; праўда — за што б ні браўся, не мог давесці да ладу; праўда — кепска вучыўся... Але ўсяму гэтаму знаходзілася апраўданне. Ён лічыў, што проста не хоча ўсур'ёз ні за што брацца, а калі захоча — усё атрымаецца.

Можа, каб бацька сказаў гэта неяк па-іншаму, без насмешкі, дык словы яго не былі б такія балючыя.

— Ты ж мой бацька,— не знайшоў нічога лепшага, як гэтыя словы, Хальчэня.— Як жа ты так гаворыш?

— Я кажу праўду,— строга сказаў той, падняўся і пайшоў да дзвярэй. Але ў парозе затрымаўся: — Ні ведаю, чаго ты натапырыўся — як хочаш ехаць, дык едзь. Пакатайса. Прыедзеш, дык я заўсёды табе памагу.

Ён выйшаў, і Хальчэня крыкнуў у пустыя ўжо дзверы:

— Трэба мне твая помач!

З крыўды ён ледзь не плакаў, адвярнуўся і ў бяссіллі падзіцячаму шморгнуў носам. Ззаду пачуліся хуткія крокі, і матчыны рукі мякка абнялі яго за шыю, паспрабавалі



прыгарнуць да сябе; ён адштурхнуў іх і, ускочыўшы, прыкусіў губу. У гэты момант матчына ласка была яму непрыемная.

— Толічак, я ж невінаватая!

— А чаго ты мне не верыш? — крыкнуў Хальчэня.— Але хай — я нікуды не варты!

Ён схапіў куртку і выскачыў за дзверы.

Пакуль ішоў да сябра, думаў, што дадому цяпер не вернецца, будзе жыць па чужых кватэрах — у сяброў, у знаёмых... Караццей, выдумляў сабе ўсялякія беды, якія нібыта яго чакаюць, а мучыцца ад гэтых бедаў павінны былі, вядома ж, бацькі... Сябравы вокны былі ўжо цёмныя, Хальчэня патаптаўся трохі пад імі, змерз на халодным ветры і вярнуўся дадому.

...Месяц адпачынку, што даваўся пасля вучылішча, Хальчэня амаль не бываў дома. Бацька яго больш не чапаў, быццам і не было паміж імі ніякіх размоў, а маці вельмі любіла сына і таму адчувала сябе ў нечым вінаватаю перад ім, давала кожную раніцу грошы і шаптала: «Не слухай яго, рабі як хочаш...» Крыўда на бацьку прайшла, але Хальчэня так і не збіраўся паступаць вучыцца на афіцэра. Сяброў аднаго за другім бралі ў войска, і, утойваючы зайздрасць, ён праводзіў іх; сам, перад ад'ездам, зняўся з вайсковага ўліку і выпісаўся ў пашпартным аддзеле. Пасля вясёлых праводзінаў яму звычайна рабілася сумна, ён адзін блукаў тады па Гомелі, заходзіў часта ў парк імя Луначарскага, глядзеў на Сож, на драўляныя, амаль што вясковыя хаткі па той бок ракі. Смутак мацнеў, рабіўся саладка-шчымлівы, і Хальчэню хацелася рабіць тады нешта вялікае, незвычайнае, каб не толькі бацькі, а і шмат-шмат людзей пабачылі, які ён таленавіты, не падобны на іншых — убачылі і здзівіліся і ўзрадаваліся ад гэтага.

З такімі думкамі ён ад'язджаў з Гомеля.

САМАВЫХАВАННЕ

# ПАЧНІ З СЯБЕ

Станіслаў ЧАРНОЎ

Вы прынялі рашэнне кінуць курыць. Паглядзіце, колькі парад дае вам з гэтае нагоды літаратура! Тут і ўнушэнне, і самаўнушэнне, і паслядоўнае змяншэнне дзённых нормаў — адразу ні ў якім разе нельга. Колькі шляхоў, колькі прасторы для фантазіі і, значыцца, колькі падстаў лічыць гэту справу цяжкай, а ў выніку — і матываў для высакароднага адступлення!

І ўсё ж: няўжо нам застаецца толькі дзівіцца тым людзям, хто ўсё-такі здзяйсняе свае рашэнні! На жаль, іх шмат менш, чым хацелася б. На шчасце, яны ёсць...

Годна пражыць дзень цяжэй, чым напісаць кнігу...

«Варта толькі пачаць, вось кіну курыць, пачну бегаць, а астатняе само пацягнецца і прыкладзецца». На жаль, ускочваем мы камень тыднямі, а скочваецца ён імгненна. Таму галоўнае — ні ў якім разе не гаварыць сабе: я паспрабую ў апошні раз, з панядзелка, у поўным аб'ёме і прыклаўшы ўсе сілы, а калі ўжо не атрымаецца, дык кіну. Не, кажыце сабе так: я буду спрабаваць сёння, заўтра, праз месяц, праз год, па частках, пакуль не атрымаецца. Жыццеўстойлівасць чалавека вызначаецца, відавочна, тым, колькі разоў на досыць кароткім адрэзку часу ён здольны пачаць спачатку. Без самавыхавання не абысціся. Не чакайце настаўніка, які за руку павядзе вас у светлую будучыню. Рыхтуйце сябе самі. Калі вучань гатовы, знойдзецца і настаўнік.

З пэўнага моманту чалавек адказвае за сябе, за свой твар сам. І што б вы ні рабілі, вы робіце сваю біяграфію, а гады накладваюць такія мазкі на ваш генетычны фас, што могуць зусім змяніць яго.

Не спяшайцеся аб'ядноўвацца ў кампаніі, заводзіць сябра і ствараць сям'ю. Ад складання нулёў атрымліваецца нуль. Хацелася б верыць, што ў такіх сітуацыях велічыні ўжо існуюць...

Гарманічны чалавек — гэта ж не джэнтльменскі набор якасцей і ўменняў, гэта — стан душы. Сфармаваны чалавек — гэта шчаслівы чалавек, які з задавальненнем устае раніцай і які або знайшоў для сябе годныя адказы на асноўныя жыццёвыя пытанні тыпу «навошта!» або вырашыў не задаваць іх сабе. Цікавыя яго адказы і на пытанні тыпу «як!». Як сёння людзі рашаюць галоўныя пытанні жыцця, як рэалізуюць сябе на ўсіх узроўнях ад творчасці і працы да побыту!..

Не прызначаны для публікацыі дзённік — жанр у вышэйшай ступені цікавы з многіх пунктаў гледжання. Сярод маіх сяброў ёсць чалавек, лёс якога здаецца мне асабліва тыповым. Тыповым не ў сэнсе яго звычайнасці, а ў сэнсе судакранання з асноўнымі пытаннямі і цяжкасцямі станаўлення, якія нясуць на сабе, апроч усяго іншага, яшчэ і дакладны адбітак часу.

З дазволу майго сябра прыводжу адабраныя мною некаторыя ўрыўкі з яго дзённіка, у якіх я апусціў спецыфіку цяжкіх самастойных заняткаў матэматыкай, падрабязнасці спартыўных трэніровак, побыту і асабістага жыцця, а пакінуў толькі мінімум, неабходны для стварэння ілюзіі аб'ёмнасці і прысутнасці, і захаваў амаль усё, што датычыць самабудаўніцтва. Урыўкі ахопліваюць дзевяць месяцаў у канцы шасцідзесятых гадоў. Сяргей быў тады студэнтам матэматычнага факультэта, яму спаўняўся 21 год, і ў яго заканчваўся перыяд станаўлення.



## ДЗЁННІК СТУДЭНТА

**3 жніўня.** «Чалавек на 90 працэнтаў жыве ў мінулым, на 7 — у цяперашнім і на 3 — у будучым» — у кнізе «Зіма трывогі нашай» спасылка, аўтар не названы, я нязгодны. У мяне найбольшую частку займаюць мары пра будучыню, потым успаміны, часцей горыч за што-небудзь з мінулага і толькі потым цяперашні час, у якім я не дужа цвёрды, чакаючы шмат ад будучыні. Напэўна, неабходна змяніць суадносіны на карысць цяперашняга і нават мінулага. Талстой таксама лічыць гэтае становішча ненармальным — маральны чалавек павінен адчуваць задавальненне ва ўспамінах пра мінулыя годныя паводзіны. Інакш другая палова жыцця, як і другая палова вакацый, будзе атручаная.

**4 жніўня.** «Навучанне рэдка прыносіць плён каму-небудзь акрамя тых, хто схільны да яго, а ім яно амаль не патрэбнае». Гібанс, каб не забыцца — гэта да пытання каштоўнасці педагогікі як навукі ўвогуле і да мэтазгоднасці прысвячэння ёй жыцця ў прыватнасці.

«Прасі немагчымага — атрымаеш максімальнае» — Напалеон.

Недахоп. Часам спрабую пераканаць сябе, што я глыбейшы, чым здаюся. На плыткіх мясцінах сілаю ўпіхваю ў сябе глыбіню, якою на гэты момант не валодаю. Дрэнна. І ўвогуле, на ўсіх маіх дзеяннях, як персікавы пух,— няўлоўны налёт дылетантызму.

**18 жніўня.** І ўвогуле, ці тую я сабе прафесію выбраў, чорт яго ведае. Талентаў я ў сабе асаблівых не заўважаў. Напэўна, пры нейкіх намаганнях я змагу весці маральна здаровае жыццё, але поспеху (вялікага) ні ў навуцы, ні ў чымсьці іншым мне не дамагчыся. А можа, гэта і ёсць самае цікавае?! Вельмі цягне пакідаць усялякія планы: матэматычныя, фізічныя (у сэнсе фізічнага ўдасканальвання) і маральнага парадку.

Задачы: 1) матэматыка — доктар у 30—35 гадоў (гэта ўвогуле не мэта, маецца на ўвазе веданне свайго раздзелу матэматыкі ў такім аб'ёме і вынікі адпаведна); 2) штодзённыя заняткі фізічнай культураю, даведзеныя да аўтаматызму. Узмацненне наяўных і засваенне новых відаў спорту. Хачу мець да бясконцасці пульс 45—60, прабягаць спакойна 20 км, праплываць 10 км, не распускаць жывот, адпаведнае дыханне. Загартоўку ўжо трэба пачынаць; 3) хачу мець роўны, спакойны характар. Адсутнасць хлусні, фанабэрыстасці, раздражнёнасці і залішняй няўпэўненасці ў сабе. Унутраны спакой і годнасць, аўтаномнасць.

**21 жніўня.** Чалавек не можа дасягнуць дасканаласці, не адмовіўшыся ад многага. Вастрыё. Калі б усе хадзілі па прысадах босыя, прагрэсу б не было. Леў Талстой — гэта імкненне (у той ці іншай ступені ў кожнага чалавека) да хрысціянскага ідэалу. Дасягненні вялікіх — гэта адшліфаваная грань агульначалавечага, але гэта часта і флажкі, якія маскіруюць вобласці, куды заходзіць не рэкамендуецца — занадта высокая плата: самаадрачэнне, аскетызм, вар'яцтва. Аблегчаныя варыянты гэтых дасягненняў могуць выкарыстоўвацца намі ў больш сціплай працы.

Досыць адхіліўся. Добры чалавек, нават добры бок чалавека, выхоўвае людзей, якія знаходзяцца побач з ім (гэта больш дзейсна за кніжны прыклад), а калі пад выхаваннем разумець уздзеянне, дык і дрэнныя бакі — таксама. На пляжы адзін вельмі статны мужчына рабіў гімнастыку, а пасля гэтага пагаліў вусы і падстрыгся. Хачу стаць чалавекам строгага рэжыму.

Буду запісваць кожнага дня прычыны, дзеля якіх ухіляюся ад выканання запланаванага. Усе карысныя рэчы спрабаваць і пераводзіць у стадыю прывычкі. Прыехаўшы дадому, дзённік перачытаць і карыснае выпісаць і **зрабіць** (!). Пункты, якія павінны выконвацца штодня, будуць адзначацца ў спецыяльнай табліцы, а ў выпадку іх невыканання — прычыны.

**18 верасня.** «Вера ў аўтарытэты робіць тое, што памылкі аўтарытэтаў бяруцца за ўзоры» — Леў Талстой. Усё, лета даўно скончылася. І мора, і пляж, і дзённікі Талстога...

«Натхненне — гэта госця, якая не любіць наведваць гультаёў» — Чайкоўскі. «Натхненне — гэта ўзнагарода за катаржную працу» — Рэпін. «У навуцы ж без вялікае працы зрабіць абсалютна нічога нельга» — Мендзялееў. «Вельмі мала вартых упамінання вынікаў з'яўляецца выпадкова. Дасягненні прыходзяць як вынік руплівага планавання, усвядомленага намагання і няспыннай цяжкай працы».

**26 верасня.** Сёння раніцай зрабіў ёга-гімнастыку. Каторы ўжо раз спрабую ўпарадкаваць, накіраваць свае заняткі, вызначыць галоўную лінію, дасягнуць ідэалу, але гэта пакуль, як і ў Талстога, не больш, чым спробы. Хоць не бачу, чаму б мне не выйграць сутычку з сабою, ніякіх моцных схільнасцей да «жыцця», беспарадку ў мяне няма. Галоўнае — трэба засвоіць, што ўсе планы, якія я складаю,— рэальныя, інакш кажучы, для іх выканання не трэба 25 гадзін у суткі, а трэба павялічваць ККД.

**30 верасня.** Устаў у 4 гадзіны 55 хвілін. Уставаць, як звычайна, не вельмі хацелася. Чаму такая розніца паміж жаданнямі вечара і магчымасцямі раніцы? Сяджу на кухні, збіраюся займацца. Менш чым праз гадзіну мне 21 год. Няўжо мне не ўдасца па-сапраўднаму перамагчы сябе? Ці, можа, з'явіцца пытанне «навошта»? Няўжо сакрэт быў «толькі доўга хворы»? Адкуль такая рыторыка?

Здаецца, што цэлая груда дурных і дробных думак ужо выкінутая, шлях ужо вызначыўся. Як гэта мала ў 21, як гэта шмат, калі я ў гэтым упэўнены, колькі людзей яшчэ не ведаюць, чым бы яны хацелі займацца (гэта не я, гэта Мітчэл Уілсан у «Жыві з маланкаю»). Цікава, многія вялікія — Паскаль, Талстой — дасягнуўшы, расчароўваюцца. Фокс: «...апошні самы каштоўны кавалачак жыцця дажывеш без усялякае цікавасці да сваёй працы».

Увогуле, пытанне выбару шляху і месца, пытанне шчасця такое складанае, што прайшлі тысячы гадоў, а рашэння ўсё няма і няма. Кожны вырашае сам — у меру здольнасцей, у меру памылковых поглядаў. Трэба вырашаць самому, бо аўтарытэты вялікіх прыводзяць да таго ж, што іх памылкі прымаюцца за ўзоры. І дарэмна я спрабую некаторыя свае ідэі дэклараваць другакурснікам, зусім дарэмна. Увогуле дзіўна, я спрабую змагацца з досыць добрымі сваімі рысамі: імкненнем падзяліцца здабытым вопытам, напрыклад. А можа, гэта ідзе ад няўмення атрымаць на адзіноце асалоду ад вынікаў сваёй працы? Аўтаномія, максімальная аўтаномія, і не трэба рабіць з сябе федэрацыю.

амаральнасці, больш небяспечная, чым нават СНІД...

І тут, апярэдзіўшы маё чарговае пытанне, Уладзімір сказаў:

— У мяне часта пытаюцца: а дзе ж выйсце, чаму ў цябе не ўказаны сродак ад гэтай «хваробы»!

Я перакананы, што ў мастацтва ніякіх рэцэптаў няма і быць не можа. Асабіста ў мяне іх таксама няма, я не ведаю, як лячыць гэтае занядужанне... Напэўна, тут трэба кожнаму змераць ступень сваёй віны ў тым, што адбылося,— тады, магчыма, нешта і высветліцца. Я акрэсліў праблему, указаў на хваробу, каб прадухіліць яе далейшае развіццё, пакуль яна яшчэ не прыняла хранічную форму...

Памятаеш у карціне эпізод, у якім Артур прымае воінскую прысягу! Мяне за гэтую сцэну моцна «прабіралі»: «Ну як жа, такі момант — і тут Артур!..» Было ім чамусьці страшна, што зняважана ўрачыстасць, а не тое, што цяпер у руках у Артура — аўтамат!..

— І вы што, ніколі не адчувалі ў час працы з Артурам ніякіх эмоцый!.. Напрыклад, агіды! — нарэшце задаў я пытанне, што мучыла мяне ад самага пачатку нашае размовы.

— Памятаеш, я казаў, што нам у працэсе здымкі прыходзілася «адкідваць стрыжань», інакш кажучы, тое, чым займаўся Артур... Я ўвогуле лічу сябе досыць вытрыманым чалавекам, аднак прыходзілася рабіць намаганне, калі працягваў руку, каб паздароўкацца з Артурам... Але аднаго разу, у час здымак, да мяне дайшло: сёння я лепш бы меў справу са шчырым і адносна бяспечным Артурам, чым з якім-небудзь прыстойненькім чалавекам у касцюме, чалавекам, ад якога ніколі не ведаеш, чаго чакаць... Тут лепш сказаць фразаю з «Граху»: «Калі ў грамадстве падманваюць, рабуюць жывых, напэўна, цяжка выстаяць, каб не ўкрасці ў мёртвых...» Сказаўшы гэта, я ўжо не меў права правесці дакладнае мяжы: вось па гэты бок — мы з вамі, а па той — Артур. Бо чалавек вылюдкам не нараджаецца, яго «лепіць» грамадства: дзіця — вельмі ўдзячны матэрыял...

Дарэчы, прадказвалі, што сваім фільмам я павялічу колькасць пераймальнікаў Артура. Пасля прэм'еры падышоў да мяне адзін маёр і кажа: «Я вашую карціну прыняў і зразумеў, яна мне спадабалася. Але я не хацеў бы, каб яе ўбачыў мой сын — я за яго баюся!..» Дык вось: у мяне таксама ёсць сын, яму свой фільм я пакажу абавязкова! І буду спадзявацца, што калі да яго падыдзе якая-небудзь сволач з рыдлёўкаю, з прапановаю «пакапаць», то яго, майго сына, гэтая прапанова знянацку не заспее, ён ужо будзе ведаць, што такая з'ява існуе і, думаю, здолее правільна да яе паставіцца.

На гэтых словах Уладзіміра Дашука, напэўна, можна было б і закончыць. Але песімізм нашай гутаркі ўсё яшчэ не дае мне паставіць кропку менавіта тут. Нягледзячы на тыповасць Артура, можна прывесці багата прыкладаў іншае мэтанакіраванасці, а галоўнае, іншага разумення жыцця ў немалой частцы ягоных і маіх равеснікаў. Яны ж такія самыя паўнапраўныя прадстаўнікі пакалення...

І таму, нават згаджаючыся ў многім з Уладзімірам Дашуком, я ўсё ж ніяк не магу ўявіць, што пацісну руку герою фільма «Грэх».





# ВОСТРЫЯ ВУГЛЫ РАКЕТКІ

Дзмітрый КАПІЛАЎ, кандыдат у майстры спорту

Калі Наташы Зверавай споўнілася тры гады, бацька, прафесійны трэнер, стаў браць яе на корт.

Памятаю, Марат Мікалаевіч ставіў нас, дарослых ужо хлопцаў і дзяўчат, гуляць са сваёй дачкою. Нам гэта не падабалася. Мы лічылі ніжэй сваёй годнасці гуляць з маленькай дзяўчынкаю, якой і ракетка вялікая. Мячы, якія яна ўсё ж часта выйгравала, лічыліся выпадковымі. Але неўзабаве нам прыйшлося ўспрымаць Наташу ўсур'ёз.

Сваіх равесніц Наташа абыгрывала, а ў 13 гадоў вымушала насіцца па пляцоўцы і знакамітых тэнісістак. За ёй было цікава назіраць — удары яна выконвала без высілкаў, а мячы дасылала ў самыя нязручныя кропкі. Было ясна: перад намі — талент.

1987 год. Ёй 15 гадоў, а яна — удзельніца неафіцыйнага юнацкага чэмпіянату свету ва Уімблдоне. Здарылася сенсацыя: Наталля Зверава — першая! А сёлета Наташа выходзіць у фінал адкрытага першынства Францыі, абыграўшы многіх мацнейшых тэнісістак свету. Нават Марціну Наўрацілаву — хто яна, спадзяюся, тлумачыць не трэба. Гэта стала падзеяю тэніснага жыцця на самым высокім узроўні.

Услед за гэтым Наташа ў пары з Ларысаю Саўчанка выходзіць у фінал Уімблдонскага турніру... Наша прэса захоплена каменціравала першыя ўдачы. Але ў адзіночным разрадзе Наташа выступіла не вельмі ўдала. Я бачу прычыну гэтага ў адсутнасці на турніры чалавека, які ведае, што параіць ёй у цяжкі момант, як настроіць на гульню,— бацькі і трэнера М. М. Зверава.

Мы размаўлялі з ім, і ён наракаў на тое, што на ім проста зэканомілі валюту — так растлумачылі Звераву немагчымасць паездкі. Але так і карціць спытацца: а што ж рабілі ў нашай дэлегацыі людзі, якія і блізка не маюць ніякага дачынення да тэніса? У прынцыпе, я не супраць таго, каб на любыя спаборніцтвы ездзілі ўсе жадаючыя. Але што датычыць Марата Мікалаевіча Зверава, дык менавіта ягоная прысутнасць як спецыяліста ва Уімблдоне была не толькі магчымая, але і неабходная. Бо ён жа — наш лепшы трэнер. Фактычным таму пацвярджэннем — ягоная дачка і вучаніца, мацнейшая тэнісістка краіны, якая па ўзроўні майстэрства нашмат апярэджвае бліжэйшую сваю канкурэнтку.

Але, нягледзячы на гэта, Зверава «пускаюць» на турніры з Наташыным удзелам выбарачна. Слова «пускаюць» я вылучыў невыпадкова. У іншых краінах у падобнай сітуацыі такога слова проста быць не можа. Уявіце, напрыклад, што бацьку Бекера ці Наўрацілавай нехта можа «не пусціць» на турнір з удзелам сына ці дачкі. А калі яны яшчэ і трэніруюць сваіх дзяцей?..

Калі ўжо так мала грошай у Спорткамітэта, што не хапае на білет туды і назад яшчэ аднаму чалавеку, дык няхай выдзяляць іх з тых больш чым 100 000 долараў, якія зарабіла Наташа за два гады нашай краіне. Дзіўна тое, што эканомяць на чалавеку, які працай сваёй і талентам стварыў гэты поспех.

І яшчэ адна несправядлівасць. Спартыўная каментатарка Ганна Дзмітрыева пастаянна называе Наташыным трэнерам Вольгу Марозаву. Можа, яна дужа захапляецца ходам паядынку і забываецца, што адзіны трэнер у Зверавай — яе бацька? Але надта ўжо тэндэнцыйна выглядае гэтая забыўлівасць. Толькі аднойчы мне прыйшлося пачуць у каментарыях Дзмітрыевай, што бацька Зверавай таксама і яе трэнер.

...Нядаўна з Наташаю ехалі ў аўтобусе на трэніроўку ў Палац тэніса. З размовы зразумеў, што Наташа незадаволеная, што з ёй не заўсёды ездзіць бацька. І, пацвярджаючы маё меркаванне, дадала, што вынікі ў яе з-за гэтага горшыя. Тое ж кажа і Марат Мікалаевіч.

Усё гэта — відавочнае адцясненне М. М. Зверава ад сваёй вучаніцы і дачкі. Кіраўнікі зборнай выглядаюць у гэтай сітуацыі, мякка кажучы, няважна. Чамусьці ў Маскве, нягледзячы на шматлікасць спецыялістаў «найвышэйшага ўзроўню», нікому не ўдалося падрыхтаваць тэнісіста, роўнага Зверавай. А вось прывычка прыбіраць да рук «чужое» ёсць.

Усё гэта не спрыяе павышэнню Наташыных рэзультатаў і ўзроўню ўсяго нашага тэніса, тае самай, нарэшце, масавасці, якой нам так не хапае і пра якую так шмат гавораць Дзмітрыева, Марозава, Тарпішчаў...

А вось калі М. М. Звераву не будуць замінаць тым ці іншым чынам, дык праз два-тры гады, упэўнены, Наташа Зверава зможа змагацца за 1-е месца ў сусветнай класіфікацыі. Гэтую думку выказала і сама Наташа, але дадала: «...калі нам з бацькам не будуць перашкаджаць працаваць».

А пакуль М. М. Звераў задаволены і тым, што хоць за свой кошт удасца з'ездзіць у Сеул, а перад тым, мажліва, у Канаду і на адкрытае першынство ЗША — гэта вельмі адказны турнір, ад вынікаў якога залежыць паспяховае выступленне на Алімпіядзе. Цяпер Наташа займае 8-е месца ў сусветнай класіфікацыі. Задача — узняцца вышэй. А гэта не так проста.

І яшчэ. У адрозненне ад многіх нашых чэмпіёнаў, яна — чалавек шматбаковы. Добра вучылася ў школе, нягледзячы на частыя зборы і спаборніцтвы,— брала з сабою падручнікі і на хаду засвойвала школьную праграму. Наташа свабодна валодае англійскай моваю. З ёю можна пагаварыць і пра палітыку, і пра музыку. А адна яе якасць проста зачароўвае. Наташа абсалютна не зазнаецца, проста ігнаруе сваю папулярнасць, застаючыся добрым і сумленным чалавекам. Любіць рабіць добрае сябрам, людзям. Што яшчэ мне ў ёй падабаецца — яна не крыўляецца і не капрызнічае. Калі б у Наташыным жыцці асноўным быў не тэніс, дык і ў іншым яна дасягнула б не меншых поспехаў. І самае галоўнае — ёй толькі семнаццаць гадоў!




У. АЛЕКСАНДРОВІЧ,
Л. КАЗЛОЎСКІ

# ТЫМ, ХТО ПАЧАЎ

Тым, хто прыступіў да атлетычных трэніровак па комплексах, прапанаваных у нашай рубрыцы, і праводзіў іх рэгулярна на працягу 2—3 месяцаў, мы прапаноўваем новы комплекс практыкаванняў, разлічаны на 4—5 месяцаў.

Перад тым, як прыступіць да яго, неабходна прайсці медыцынскае абследаванне ў спартыўнага ўрача, які вызначыць вашую падрыхтаванасць да павышаных фізічных нагрузак. Калі вы яшчэ не гатовыя перайсці да новага комплексу, то падрыхтоўчы перыяд неабходна прадоўжыць.

Строга выконвайце агульныя патрабаванні. Штодзённае выкананне рэжыму з'яўляецца своеасаблівым паказчыкам, вызначае сілу вашае волі, ступень сур'ёзнага стаўлення да здароўя.

Спланўйце рэжым дня і строга яго прытрымлівайцеся. Харчаванне 5—6-разовае. Прыём ежы невялікімі порцыямі ў пэўныя гадзіны. Для разлікаў вазьміце сутачныя нормы ўжывання асноўных кампанентаў ежы і паводле табліц каларыйнасці, якія вы знойдзеце ў кулінарных кнігах, складзіце неабходнае вам меню.

Арганізм да трэніроўкі трэба рыхтаваць загадзя. Эмацыянальны настрой, наяўнасць неабходнай энергіі, дакладнасць пастаўленых мэт прынясе вам радасць і задавальненне нават пры самай інтэнсіўнай трэніроўцы. Не забывайцеся пра сон і бадзёрае прабуджэнне.

Новы комплекс практыкаванняў даецца з указаннем арыенціровачнага часу іх выканання ў кожным падыходзе.

Не гуляйце па трэніровачнай зале, а працуйце...

МЫШЦЫ ГРУДЗЕЙ:

1. (1.30—2.00 хвіліны). Жым штангі лежачы. Хват сярэдні (4 × 10 разоў).

2. (1.30—2.00). Аджыманне на брусах (3 × 10).

МЫШЦЫ СПІНЫ:

3. (1.00—1.30). Падцягванне на турніку «за галаву». Хват шырокі. Гэтае практыкаванне карыснае асабліва таму, у каго вузкія плечы (5 × 10).

4. (1.30—2.00). Цяга штангі ў нахіле да пояса. Зыходная пастава: стоячы, нахіліўшыся, спіна роўная, ногі трохі сагнутыя ў каленях (4 × 8).

ДЭЛЬТАПАДОБНЫЯ МЫШЦЫ:

5. (1.30—2.00). Жым штангі стоячы. Хват трохі шырэйшы за плечы (4 × 8).

6. (1.00—1.30). Разводка гантэляў. Зыходная пастава — стоячы, нахіліўшыся. Вага гантэляў сярэдняя (3 × 10).

МЫШЦЫ РУК:

7. (1.00—1.30). Трыцэпс. Жым штангі стоячы з-за галавы. Локці трымайце роўна, як мага бліжэй да галавы (4 × 10).

8. (1.00—1.30). Разгінанне рук у локцях з гантэлямі. Зыходная пастава: лежачы на лаўцы, локаць трымайце пад прамым вуглом да цела (4 × 10).

9. (1.00—1.30). Біцэпс. Згінанне рук у локцях са штангаю. (4 × 8). Апускаць штангу ўніз павольна, з супраціўленнем біцэпса. Уверсе кісць рукі больш закручваць да дэльтавідных мышцаў.

10. (1.00—1.30). Згінанне рук у локцях з гантэлямі седзячы (4 × 10). Пры пад'ёме рука паварочваецца пальцамі ўверх.

11. (1.00). Згінанне рук у локцях са штангаю. Хват рукамі зверху (3 × 12).

12. (1.00). Зыходная пастава седзячы, рукі на каленях. Штанга ў руках вузкім хватам. Пад'ём кісцяў рук уверх, уніз, штанга апускаецца на кончыкі пальцаў (3 × 15).

МЫШЦЫ НОГ:

13. (2.00—2.30). Прысяданне са штангаю на плячах. Спіну трымайце роўна, ногі на шырыні плеч, мыскі трохі ў бакі. Пад пяткі падкладзіце драўляны брусок 3 см (3 × 10).

14. Галёнка. Пад'ём на мыскі са штангаю на плячах. Паміж падыходамі пажадана хадзіць на мысках (4 × 12).

Хуан ЦЗІНЦАЙ

# ВЯЛІКАЕ ПЫТАННЕ

## СТЭНАГРАМА АДНОЙ ПРАМОВЫ

Таварышы!

Зараз я перад вамі падыму адно пытанне. Па сутнасці, гэтае пытанне і не з'яўляецца нейкім там ужо асаблівым пытаннем, але пытанне ў выніку ёсць пытанне. Чым больш пра яго не гаворыш, тым большым пытаннем яно робіцца. Таму я не магу не гаварыць па гэтым пытанні.

Дык у чым жа гэтае пытанне! Гэтае пытанне... ёсць пытанне ідэалагічнае. Пагаворым па ідэалагічных пытаннях. Гэтае пытанне не простае, а надзвычай складанае пытанне, і як пытанне сярод пытанняў галоўнага звяна таксама з'яўляецца асноўным пытаннем.

Калі пытанне ставіць дакладна, дык яно, вядома, не будзе пытаннем, але калі пра яго маўчаць, то хіба яно не стане пытаннем! Вядома, узнікне пытанне. Калі я гавару па гэтым пытанні і так і гэтак, а вы не разумееце, у чым гэтае пытанне, дык гэта таксама даказвае, што ў гэтым пытанні можа таксама таіцца пытанне. Але ў вашых галовах, магчыма, таксама ёсць пытанні. Такім чынам, ва ўсіх маюцца пытанні.

І нарэшце, прашу ўсіх выказаць свае пытанні па ўзнятым мною пытанні. Я зусім не супраць. У мяне ўсё па дадзеным пытанні.

Пераклаў з кітайскай
Г. КАШУБА



— Мне 17 гадоў. Тры гады назад, калі я трапіла ў непрыемную гісторыю, не знайшлося нікога, хто б падтрымаў мяне. Я выстаяла сама, але як!.. Напішыце мне, каму цяпер цяжка, адзінока, горка, хто страціў веру ў свае сілы. Я абяцаю адказаць кожнаму, каму патрэбная дапамога, сяброўская спагада.

213320, Магілёўская вобл., г. Быхаў, вул. Чырвонаармейская, д. 12, кв. 68. ПАЎЛОЎСКАЯ Таццяна.

— Мне 22 гады, займаюся спортам, працую на заводзе, збіраюся паступаць у тэхнікум. Часта застаюся адзін. Калі чымсьці заняты, гэтага не заўважаеш, але варта спыніцца і агледзецца — выяўляецца, што сяброў не так шмат, як хацелася б. Вельмі хочацца разарваць кола адзіноты.

220114, г. Мінск, Ленінскі праспект., д. 149, кв. 3. СЕРЫ Андрэй.

— Мне 16 гадоў. Хачу пазнаёміцца з хлопцамі, захапленні якіх супадаюць з маімі. Я сур'ёзна захапляюся футболам, калекцыянірую і вяду статыстыку. Захапляюся таксама музыкаю, літаратураю, кіно.

211400, г. Полацк, пр. К. Маркса, д. 7, кв. 20. КУЛІКОВА Алена.

— Мне 18 гадоў, працую на аўтабазе, жыву з бацькамі, ёсць два малодшыя браты. З сябрамі кантактны. У каханні ўжо былі засмучэнні, але я стараюся не нудзіцца — усё ж жыццё яшчэ наперадзе. Хачу знайсці сяброў па перапісцы.

211440, Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Калініна, д. 3, кв. 216. КАВАЛЕНКА Яўген.

— Мне 17 гадоў, жыву ў Мінску. Сёлета скончыў 10 класаў, але, на жаль, сярод равеснікаў так і не знайшоў сабе сябра, хоць, як і многія маладыя людзі, люблю хадзіць на дыскатэкі, захапляюся музыкай і спортам. Вельмі хацеў бы перапісвацца з равеснікамі з іншых гарадоў.

220009, г. Мінск, вул. Кнорына, д. 8б, кв. 3. ДАШЧЫНСКІ Валерый.

— У мяне вялікая просьба да чатачоў «Крыніцы». Я хачу ў школе, дзе зараз працую, стварыць маладзёжны цэнтр. Буду ўдзячная за парады, бо недзе, несумненна, ужо ёсць такія цэнтры. Дапамажыце, калі ласка!

213410, Магілёўская вобл., г. Горкі, вул. Суворава, 8—21. КОПАЧ Валянціна.

— У рубрыку «Кола знаёмстваў» пішуць халастыя хлопцы і незамужнія дзяўчаты. Няўжо нікому з маладых сем'яў нецікава перапісвацца з такой жа сям'ёй! Можна ж даваць адно аднаму парады і стаць добрымі сябрамі па перапісцы. Трохі пра сябе: пабраліся ў 1986 годзе, нам па 25 гадоў. У нас расце сынок, яму сем месяцаў. Захапляемся сучаснай музыкай, любім збіраць грыбы і рыбаліць. Умеем вязаць і кулінарыць.

225320, Брэсцкая вобл., г. Баранавічы, вул. Камуністычная, д. 9а, кв. 91. ПАПУЛЕХ Ірына і Віктар.

— Мне 22 гады, скончыла інстытут і працую інжынерам. Я цалкам сучасная дзяўчына, займаюся плаваннем, вельмі люблю сучасную і класічную музыку, тэатр. Спадзяюся знайсці новых сяброў і пазнаёміцца з добрым хлопцам.

320107, г. Днепрапятроўск, пр. Гагарына, д. 120, кв. 42. ЖАРОХІНА Наталля.

## ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

— Мне 22 гады, працую ў фоталабараторыі. Займаюся атлетычнай гімнастыкай, захапляюся музыкай. Вельмі люблю тэатр, кіно, кнігі. Аднак кола захапленняў гэтым не абмяжоўваецца. Хачу пазнаёміцца з добрай дзяўчынай. СЯРГЕЙ.

— Мне 28 гадоў, скончыла філфак БДУ. З мужам развялася, засталася з чатырохгадовай дачкой. Сумую без пяшчоты і сямейнага цяпла. Хачу любіць і быць любімай. МІЛЕНА.

— Мне 19 гадоў. Я працую і вучуся ў МРТІ. Шмат добрых і сумленных людзей сустракаў я ў жыцці. Ёсць сябры, але чалавека, які б разумеў з паўслова, не сустракаў. Думаю, што жыве дзесьці і маё каханне, і маё шчасце. Я веру ў яго. ДЗМІТРЫЙ.

— Мне 31 год. Вось ужо два гады я ўдава, у мяне двое дзяцей: большы пайшоў у першы клас, меншаму два гады. Хацелася б пазнаёміцца з мужчынам майго ўзросту, які абыякавы да спіртнога, добры, чулы і любіць дзяцей. СВЯТЛАНА.

— Мне 22 гады. Як у свае 17—18 гадоў, так і цяпер адзінокая. Задаю сабе пытанне: «Чаму!» — і не знаходжу адказу. У мяне не было кахання, дакладней, я кахала, а вось у адказ пачуцця не было. Горка і балюча ўсведамляць гэта ў такім узросце, калі ўсе сяброўкі замужам, у многіх ёсць дзеці. Ад адзіноты вельмі часта перахоплівае дыханне. Не, праз гэта я ніколі не плакала, толькі вочы робяцца сумнейшыя і позірк больш суровы. Не магу больш так! Усё цяжэй вяртацца дадому, да мамы і кніг... ГАЛІНА.

— Мне 20 гадоў. Цяжка ўступаю ў кантакт, сарамлівы, у мяне няма добрага, блізкага сябра. Вучуся ў інстытуце культуры, займаюся аздараўляльным бегам, шмат чытаю. Хацеў бы знайсці сяброў. АЛЕГ.

— Хачу пазнаёміцца з добрай, чулай дзяўчынаю, здольнай адгукнуцца на бяду, здольнай на шчырае сяброўства. Мне 28 гадоў, працую мастаком, інтарэсы самыя разнастайныя. ВАЛЕРЫЙ.

— Мне 26 гадоў. Стараюся загрузіць кожны дзень справамі, каб стварыць бачнасць таго, што ўсё ў мяне добра, але адсутнасць блізкага сябра ўсё роўна адчуваецца. Можа, недзе жыве чалавек з падобным лёсам! ВАЛЯНЦІНА.







# У аб'ектыве — АНГЛІЯ

Фота Андрэя КІШТЫМАВА










«ВИЗАВИ» —

теплый, яркий аромат в стиле классической французской парфюмерии;

обещание встречи —

«ВИЗАВИ».

«АФРОДИТА» — легкая пряная нота,

«АФРОДИТА» — цветочная гамма сандала и амбры,

«АФРОДИТА» — это поэзия ароматов!

«Визави» и «Афродита» (цена по 12 руб.) — духи ленинградского комбината «Северное сияние».

## ГУБНАЯ ПОМАДА — ВОТ ЧТО СДЕЛАЕТ ВАШУ УЛЫБКУ НЕОТРАЗИМОЙ

САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ
И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ

БУДЬ ВСЕГДА ТАКОЙ!

Желают специалисты ВПО «Союзпарфюмерпром» и предлагают разнообразные косметические средства. Они изготовлены на основе натурального сырья, с экстрактами или биологическими добавками из целебных трав и растений, высококачественных продуктов.

ВПО «Союзпарфюмерпром».
Белорусское агентство по торговой рекламе.

Цана 25 кап.
Індэкс 74824